ВЕДА -VYEDA(SCIENCE)

Часапіс да вызуканьня мовы вялікалітоўскае й гісторы Вялікалітвы-Беларусі

The Journal for Research of Greatlitvan((Bielarus) Language and History of Greatlitva(Bielarus).

Address 275 Genevieve Ave.,Paterson, N.J.07506.

Том 5,Но.I. Vol. 5, No. 1.

## Ад Выдавецтва й Рэдакцы.

"Веда" выходзіла I95I-I954гг. Была пераважна часапісам мававедным і гістарычным. Цяпер аднавілася й будзе вылучна часапісам дзеля вызуканьня мовы вялікалітоўскае(беларускае) і гісторы Вялікалітвы-Беларусі.

Родная мова ё вытвар душы народу і найдарожшы скарб ягоны, каторага за нішто,на'т пры найгоршых умовах ня можна спабыцца. Заразом свая мова ё найлепшым сьветчаньням а прыпомненьням быцьця кажнага народу, казаў тый, дакумэнтам, даным самою прыродаю. Народу, што забыўшыся свае мовы, блізу ніколі не пазнаюць, дый сам такі народ забываецца й памалу перастаець пазнаваць самога сябе, стае нявольнікам іншага, звычайна тога народу, што адабраў ад яго мову ягоную. I,наадварот, народ, што захаваўшы мову сваю, можа ў найгоршых умовах спадзявацца вывальніцца, а калі ён мае да гэтага жаданьне а волю, то й можа быць пэўны свайго вывальненьня.

Мова народу ё складанаю й вялікаю колькасна зьяваю. Тое, што кажны дастаець ад бацькоў сваіх-гэта толькі малая частка мовы народу ягонага. Затым і роднае мовы надабе вучыцца. Дзеці,моладзеж вольных народаў вучацца роднае мовы ў школах пачатных і сярэдніх, а некаторыя й на ўнівэрсытэтах. Вялікалітва паняволена; варагі яе забаранілі школы вялікалітоўскія. Тое веданьне й знацьцё роднае мовы, што людзі незалежных народаў адзержуюць у сваіх школах, Вялікаліцьвіны прысілены прыдбаваць саматугам. Затым асаблівая рупнасьць мае быць дзеля гэтага прыдбаньня. Нашая мова ў сваім краю із школ і адусюль аддалена, яе там Маскалі перасьлядуюць, і мянуюць нашы варагі яе адно дзеля таго, каб яе хвальшаваць. Затым Вялікаліцьвіны маюць атачыць сваю мову вялікаю ўвагаю, маюць ня толькі яе шанаваць а важыць, але й паважаць. Каб жа гэта маглі чыніць, маюць наўперад яе - знаць! Да гэтага й будзе служыць"Веда".

Гістора ё вучыцелькаю жыцьця. Гэта ведалі ўжо старавечныя Рымляне. Каб жа ў яе вучыцца, надабе яе пазнаць, казаў тый, зь ёю пазнаёміцца.

Гістора народу вялікалітоўскага надзвычайна багатая. Радкое месца ў Вялікалітве ня мае гістарычнага значаньня. Але, як мы былі паняволеныя, пісалі гістору нашу галоўна тыя, што,губячы нас,загубілі гаспадарства наша, славутае Вялікае Княства Літоўскае. Каб мацней дзяржаць нас у сваёй няволі, яны ў сваіх пісанях болей хвальшавалі ведамкі праз гістарычныя падзеі ў нашым краю,чымся казалі празь іх праўду. Цяпер жа камуністычна-чарнасоценная Масква давяла сваё хвальшаваньне гісторы нашае да найвышшае бодкі. Разам із тым Масква сыстэматычна нішча нашы гістарычныя памяткі.

Памяць людзкая кароткая. Што было, дзеялася за аднаго пакаленьня, таго часта ня помне пакаленьне новае, на'т беспасярэдне па ім наступаячуе. Затым гістору народу нашага надабе нам самым вызукаць, а не чакаць, пакул нам яе пададуць у схвальшаваным выглядзе нашы нёпрыяцелі. А вызуканае мае быць выдрукавана, каб усі праз яго даведаліся.

Каб Вялікаліцьвіны ня ведалі праўды праз мову а гістору народу свйго, камуністычная Масква забараніла на ўсёй вялікай зямлі вялікалітоўскай, у тым ліку ў вельмі абцятай БССР, выдаваць вялікалітоўскі мававедны часапіс і часапіс да вызуканьня гісторы Вялікалітвы. Затым мы, эміґранты, мусім запоўніць гэту вялікаю нястачу. Перамагаючы ўсі цяжкасьці, пачынае дзеля гэтага выходзіць"Веда". Будзем вызукаць, што дагэтуль ня вызукана, і пашыраць вызуканае, але мала ведамае.

---

Археолёґам вялікалітоўскім Масква забараніла азначаць век і этнос археолёґічных памятак.

У кнізе"Древности Белорусии, выданай у Менску 1966г., на бач.330 кажацца:"Сэкца камённага а бранзовага веку адцяміла, што шырокія проблемы, у васобнасьці хронолёґіі й этносу, ня могуць быць разьвязаны супрацаўнямі сэктору Беларусі, але вымагаюць супольных сілаваньняў з археолёґамі зьвязавых інстытутаў."

Не абмылы Масква баіцца, бо абмылу можна паправіць, і будзе брыдка тым, што абмыліліся; але як скажуць праўду, і яна пашырыцца, тады хвальшаваць яе будзе цяжка.

Із слоўніка.

бальшыня'-ні-ні, ж-большинство Ар.; Войш. majority Краі ў бальшыні палітычна нясьпелыя. Бацк.Но.38-39(573-574). У бальшыні людзі не перабіралі працаю. Тм.Но.1-2(437-438). Бальшыня набірала ваду далонямі. Рамановіч(Конадні, Но.2, б.16).

Мяншыня -ні-ні, ж - меньшинство. Ар.; Войш. minority Іх там мяншыня. Войш.

Спакменьнікі"бальшыня", "мяншыня" належаць да вялікага ліку слоў вялікалітоўскіх на - іня(па зацьвярдзелых сугуках на -ыня) абстрактнага значаньня, прыкладам: даўжыня, глыбіня, дабрыня, блізіня, вузіня, цьвярдзіня. Гэтаю рысаю мова вялікалітоўскя розьніцца ад усіх моў славянскіх. Абстрактным спакменьнікам вял. на-іня адказуюць у іншых мовах слав. спакменьнікі на-іна(прыкл.: рас."длина", "ширина") або на-ость, -ота (рас. твердость, доброта). У мове влл. спакменьнікі на -осьць, -ота таксама ё, прыкл.: маладосьць, прагавітасьць; гарота, цямнота. Але абстрактных спакменьнікаў на - іна ў мове влл. няма, бо яны перайшоўшы ў -іня.

Як ведама, на самым пачатку 20-га стг. влл. публіцыстыя й літаратары прыходзілі ад мовы рас. й пол., каторыя знаді лепей за сваю. Затым, ня ведаючы, што ё влл. словы"бальшыня", "мяншыня", хтосьці подле польскіх"венкшосьць", "мнейшосьць", зрабіў"большасьць", меншасьць", і яны былі ў друку пашырыўшыся. Даўно ўжо, адылі, мы знаем і ўжываем сваіх слоў"бальшыня" й"мяншыня". Але дарма! Некаторыя няўважліва ставячыся да роднае мовы, не перастаюць пісаць"большасьць", "меншасьць", штучна зробленыя зь неведзі подле зразы польскае . яшчэ, казаў тый, перад нараджэням новае літаратурнае мовы влл. Я.Ст.

# АДКАЗ
# НА ЗАЦЕМ ПРАЗ МОВУ ВЯЛІКАЛІТОЎСКАГА(БЕЛАРУСКАГА) ПЕРАКЛАДУ БІБЛІІ
(працяг із Но.I(I5)"Веча")

наказалі. наказаваць, ск. наказаць знача"перадаваць(перадаць) каму якую ведамку зь якое-лень воддалі кім або лістам, тэлефонам і пад." Здаецца, што заўсёды мусіць быць нейкая воддаль, хоць бы вельмі малая, зь якое наказуюць". Калі хто беспасярэдне перадаець якую ведамку каму, дык ён толькі тады"наказуе", калі гэта дзее ад кагось, хто воддаль. to let know Тата наказуе, што мама дужа хвора. Нсл.308. Біцяняцкія дзяцюкі наказавалі на вясельле. Ар. Няма кім наказаваць: сам прыходзь. Сянно(Ксл.) Дзсп. наказаньне таго ж значаньня, што "наказаць." Калі далей у права паступаці хацеў, тагды пан Рагаза наказаньня ў нас суду прасіў. Квятк.153. Значыцца, якое значаньне цяпер у гэтых словах, тако ў іх было й даўней у старой нашай мове літаратурнай. Рас."наказать" знача пакараць;"наказание"-кара, пакараньне.

наўза-соты. Маркоўцы Вял.; Міх. honeycomb Трэба ўкласьці ў пусты вулей наўзы, мо'сядзе рой. Ст. У гэтым вульлю шмат наўзы. Лядно Пух.(Шсл.)

"пашлі няць Яго. Гэтыя не нялі веры."Пачну зь нск. хормы імаць(гімаць Ск.), імаю, імаеш, імае; заг. імай-I. брать, хватать (,схватыватьС.)Нсл.224 to take, catch Імай яго рукою. Нсл. Ня так імаеш, як трэба. Нсл. Як ня імай, ня возьмеш. Тм.

2. ловить to chase Слугі за расказаньням панскім злодзея імаці не хацелі. Стт.463. А есьлі потам вонаму пану, у каго слуга ўцячэць, прыгадзілася яго відзеці на торгу, тады ўжо вон сам ня маець яго імаці. Стт.462. Гімайканя. Ск. Імаць матку-ловить матку(пчелиную) Нк.: Очерки, 427.

Няць, іму, імеш, імець, імеце, імуць; заг. імі каго, што-взять, хватить. Гсл. Імай, імі яго рукою. Нсл.224. Я іму яго, але ён выкоўзуецца з рук. Тм. Ідзе каса не магла няць-у кусьце, каля пня, там статак знаходзе багаты корм. Нк.: Очерки, 465. Радкога жыта ня можна няць сярпом. Тм. Но.793. Радкое збожжа й каса ледзь можна няць. Тм.450.-2. ударить, хватить. Нсл.343. to hit Імі яго кулаком у хрыбет. Нсл. Няў па відзе. Нсл. Няў, аж зубы сьцяў. Тм. 3. тронуть(,вызвать сочувствие, взволноват',умилить С.) Нсл.393 Нічым яго ня можна няць. to excite Нічым ня йме, ні просьбаю, ні грозьбаю. Прык. Тм. I22)пад грозьба).-4. зь перачэньням "не"-не постичь, не успеть в чем-л. with negation: not to succeed Калі чорт сам ня ймець, дык бабу пашлець. Гсл. Няць, іму, імеш, імець веру (ужываюць звычайна зь перачэньням. С.)Нсл.343, Гсл.-верить usually with negation: not to believe Ня іму таму веры, каб гэта была праўда. Нсл. Ня ймуць веры-не бажыся. Прык. Тм. Не хачу няць веры гэтаму. Ст. Ня йму табе веры ні на грош. Ст. Іванька малады ды жаніцца едзе, татухна родненькі яму веры ня йме. Старадуб (Живая Старина, I910, I, 98). Ня можна веры няць-не можно поверить. Ня можна таму веры няць. Нсл.343. Безас. імець-берет. Нсл.224. Чаго цябе ймець, няло за жывот? чаго ты крычыш? Нсл.224. Ск. няло-взяло, хватило. Нсл.343. За сэрца няло. Нсл. Няло цябе, як ты хораша пяеш. Тм. Няло! за тры капейкі піва, а шуму на ўсё сяло. Прык. Тм.

празерыць-прозрэть, ск. Нсл.522 to recover one's sight Троху празерыў, а то сусім быў нявісьны. Нсл. Нск. празіраць -открывать глаза в глазной болезни, получать зрение(,прозревать С.)Нсл. 522. Ледзь празірае. Нсл.

прарока-кі, суп.-предвещатель, ница(предсказатель, ница С.) Нсл.528, пророк, пророчица prophet, prophetess Прароку гэтага за каўнер, па патыліцы дый вон, каб дурнога не праракаў. Нсл. Спакменьнікі супольнага, зн. мужчынскага й заразом жаноцкага роду, пашырыўшыся ў мове вялікалітоўскай. Е й "прарок", але як гэтае слова ё ў суседніх із нашаю мовах, каторыя ўплываюць на мову нашу, няма пэўнасьці, што "прарок" не зайшоў ад іх; але ўзглядам "прарока" ё гэтая пэўнасьць, бо суседнія мовы яго ня знаюць. Паказальна, што ў слоўніку Насовічавым няма "пророчыца", што мусіла б быць, калі б "прарок" быў такім пэўным словам вялікалітоўскім, як "прарока."

служэбка-служанка. Нсл.746 servant Знаць не вялікая шляхцянка, што ў служэбкі напялася. Нсл.

сьпятрэлы-очень высохший, иссохший much dried up Зямля сьпятрэла, жадае сьцюжы. Кавыль: Думы, б.2I. "Сьпятрэлы" паходзе ад дзеяслова "сьпятрэць"-(очень С.) высохнуть(, иссохнуть Ар.) Дубоўка Узвышша, I929г., Но.8, б.I05), каторае ё сконч. хормаю да пятрэць Тм. А пятраць а пятрэць паходзяць ад пятра-ры-палок у васеці або ёўні ("овин"), на каторым сушаць снапы, а таксама паліца ў ганчара, на каторай сушаць ганчарныя вырабы. Тм.; Гарадня(Полесье, I80). З хаўтурным посьвістам твая сьпятрэе галава. Браніслава(Прыйсьце, Но.I.).

тойма-тайно, тайком. Нсл.636, втайне, секретно secretly Тойма ад бацькі жаніўся. Нсл. Тойма ўзяў. Тм.

удругава-вторично. Нсл.47 the second time Удрагава не скажу, не паеду. Нсл. Удругава прышоў. Нсл.

уклякшы, дзпрсл. да уклякнуць, каторае ё скончанаю хормаю да клякаць -становиться на колени. Ар., падать на колени. Нсл.238 to kneel Клякай, ня клякай, а біты будзеш. Нсл. дзспкм. кляканьне -коленопреклонение kneeling клякнуць, уклякнуць, ск. да клякаць. Удыру, аж клякнеш.

"напоўнілі судзіны ўшчырк"-I. ровно с краями. Нсл.73 to the brim Мераць у шчырк. Нсл.

2. под меру. Нсл.73 equally tall Жаўнеры ўшчырк стаяць, адзін пад адзін. Нсл.

цяжар- мц. а гук.-ру, м.-I. тяжесть(; бремя Гсл.), Ксл.; Мгсл.; Гсл. load Тры пуды невялікі цяжар. Пятніцкая Бєш.(Ксл.) Вось чаму хочацца к сонейку яснаму-хоць бы пабачыць, тым цяжар зваліць. Гарун: Думы ў чужыне. Жыцьцё зваліла на мяне ўвесь свой цяжар. Жывіца(Прыйсьце, Но.I, IO).

2. груз. Яцкава Вал. load, cargo Цяжар у мяне на возе. Яцкава, Вал.

3. беременность pregnancy Блага хадзіць у цяжару. Сяркуці Сян. (Ксл.)

цяпло-ла, н.-огонь. Нсл.687; Дзяніскавічы НЗ(Шейн II, I6I), огонь в печи и разведенный на поле, вообще огонь не для освещения. Ксл.; Кацельня, Пц., огонь, костер. Гсл. костер Растсл.; ПНЗ, огонь вообще, под каковым именем, однако, нельзя считать пожарного огня. Нк.: Очерки, Но668, огонь. Молодый Туд.(ГринковаIУ). fire Чаму цяпло ня паліце? Нк.: Очерки, 332. Запалі цяпло ў печы. Санікі Беш.(Ксл.) Пастушкі расклалі цяпло. С. Узадзміце цяпло. Нсл. Асьцярожна хадзі зь цяплом. Тм. Дудар падлівае алівы ў вясельнае цяпло. Нк.: Дудар, I70. Прыгарні бульбу бліжэй к цяплу, хай добра выпякаецца. Ст.(Шсл. пад прыгарнуць). Пададзьмі цяпло на камінку, бо

нешта тухне.Ст.(Шсл.пад пададзьмі). Забіў казу,наклаў цяпла, адрэзаў сьцягно,сьпёк і пачаў есьці.Дзяніскавічы НЗ.(Шейн,II, 161. Класьці,раскладаць,раскласьці цяпло-разводить,развести огонь. to kindle a fire Кладуць цяпло.Кацельня Пц.Яны раскладаюць цяпло на полю.Біклоша Беш.(Ксл.) Любе дзед,расклаўшы цяпло пад асецьцю,грэць старыя косьці.Гарэцкі:Песьні,13. Клаў пад лесам вялізнае цяпло й пёк бульбу.Тм. Раскладалі цяпло.ЗСД,63. Пам. цяпелца-ца-огонёк.Шсл.;Люц. Якое вясёлае цяпелца!Ст.Бліснула цяпелца.Ст. Цяпелца зробіш.Люц.

Агонь жа,каторым сьвецяць,завуць сьвятлом.Слова "агонь" ё агульным назовам цяпла й сьвятла.

чэсьць,родавы,давальны,мясцовы склады сьці,тсьці,цьсьці, чсьці,снадз.сьцю або сьцёю-1.честь honor .Абяцуем,каму бы йшло а чесьць,неадвалочную справядлівасьць учыніці.Стт.93.Учынак віну адсуджэньня чсьці й горла за сабою цягнуў.Стт.74.Гдзе бы йшло а якую рэч, што ся чсьці датыкаецца,тады то аж на сойме.. судзіці маем.Тм.Пей салават(араб.малітву)а сьці прарока.Кітаб 133а.У ім няма ні чсьці,цьсьці ні веры.Нсл.698.На чэсьць-в чэсть.

2.почтение,уважение.Нсл.698. esteem Ад дзяцей сваіх чсьці ня маем.Нсл.

3.почёт respect Заслужыў на чэсьць і добрую славу.Нсл.698.

4.целомудрие,непорочность,девственность.Ксл. chastity Дзе ўжо ле чэсьць?Ухлё Чаш.(Ксл.)

5.родавы,давальны й мясцовы склады чэсьці,снадзіўны чэсьцю або чэсьцяю-угощение.Ст.;Нсл.698;Касьцюковіцкі р.Калінінскае акругі("Наш Край",1928,Но.67,б.49),пир, пиршество feast Быць у каго на чэсьці.Нсл. Добрая ў іх была чэсьць.Ст. Што з тае чэсьці, калі няма чаго есьці.Прык.Войш.;Ст.;Нсл. Маці спрагла яму ячню, і Хомцы было надта сорамна,што яму такая чэсьць.Гарэцкі:Песьні,82.Быць на чэсьці-пировать.Справіць чэсьць-устроить пир.

Ад чэсьць у першых трох значаньнях ё словы:

сьціць,шчу,сьціш-чтить,почитать,поклоняться.Ск.учсьціць - почтить. to honor Есьлі бы хто возната зьбіў,валасы або бараду ірваў і тым ураду ня ўчсьціў, тады таковы маець быці а то пазваны на рок завіты да ўраду земскага.Стт.178.

пасьцівы(патсьцівы.Нсл.)-честный.Нсл.485 honest Патсьцівы чалавек нікога ня скрыўдзе.Нсл.

2.порядочный,неспособный к низким поступкам, incapable of mean deeds Чалавеку пачсьціваму нічога ня маець быці дарожшага над вольнасьць.Стт.15.

3.почтительный.Нсл.485. respectful Патсьцівы хлапец! кажнаму скланіўся.Нсл.

4.целомудренный.Нсл.485 chaste Нявестка прышла да нас патсьцівай.Нсл.пасьціўшы(патсьціўшы),в.ступень да пасьцівы 1,2,3. Няма нікога патсьціўшага,як ты.Нсл.485.пасьціва,прсл. і пасьцівасьць адказуюць сваім значаньням прм."пасьцівы".

усьцівы -1.почтённый respectable У Пана Бога ўсьцівая й харошая рэч розум.Кітаб 136а13.

2.почтительный.Гэты хлопец усьцівы; ён нікому навет благога слова ня скажа.Варсл.Таго ж значаньня"паважны". respectful

усьцівасьць-ці-почтительность respectfullness Джабраілу,што табе цяпер усьцівасьць чыняць,а мне перад тым лепшую ўсьцівасьць чынілі й лепей за цябе важылі мяне. Кітаб 52,2.Таго ж

значаньня"паважнасьць".

Ад "чэсьць" у знач.5-ым(чэсьць,чэсьці) ё дзсл."частаваць".

Як бачым, ад "чэсьць" у першых 4-х значаньнях ё ў жаролах ажно 4 хормы ў залежных скланох і ў словах,утвораных ад "чэсьць" гэтых значаньняў: чсьці,тсьці,цьсьці, сьці. Можна з пэўнасьцю сказаць, што хорма "чсьці" ё этымолёґічнаю(а ня подле вымовы),бо толькі яна сустракаецца ў старой літаратурнай мове влл. Зь яе правапісам этымолёґічным"тсьці" здаецца сусім немагчымаю,бо т або мусіла б адпасьці ў гэтым нязвычайным яго злучэньню, або перайсьці ў ц.Хорма "цьсьці" ня сусім пэўная. Калі зьвернем увагу,што толькі"сьці" ё ў Аль кітабе Луцкевічавым і ў слоўніку Лагойшчыны Барлыгавым,у каторых мова народная й правапіс фонэтычны, то мусім прызнаць, што або вылучна гэтая хорма згодная з вымоваю або блізу вылучна з радкім учасьцям хормы"цьсьці"."сьці"паўстала з "чсьці" на. у ступным парадкам:ч(гук складаецца з Т і ш)расклаўся перад с на свае складовыя часьці-т,ш,тады ш упадобнілася да с..., перайшло ў с,а сс зьліліся ў вадно с,а т адпала,што часта бывае ў мове влл; або перайшло ў ц.

Ад чэсьць( з чьсть) хорма фонэтычная залежных 3-х скланоў была чсьці,,адлі сьці,а снадзіўнага склону сьцю або сьцёю, бо тут самагук ь(такія гукі ь, існавалі некалі,былі рэдукаваныя, зн.слабшыя за слабыя) быў у палажэньню слабым(зн.такім, калі ў наступным складзе ня было ь або ) і,як такі, шчэз. Але, відавочна,часамі пад уплывам э ў чэсьць (назоўны а вінавальны склалы) вымаўлялі чэсьці замест сьці. Паўсталі дзьве хормы адна чэсьць,чсьці, а другая чэсьць,чэсьці. Першая захавала сваё спачатнае значань..., а другую пачалі тарнаваць да значаньня гасьцінасьці,у каторым,побач із значаньням"даваць есьці, піць,частаваць" ё й элемэнт паважнасьці.

Гэтта на месцу будзе зацеміць, што ў вялікалітоўска-каталіцкім перакладзе літурґіі ё(Езус) "узяў хлеб у Свае сьвятыя і чэсьці годныя рукі.""Чэсцігодныя" можа значыць толькі "годныя частаваньня".Пераклад,відаць,зроблены з полск." czcigodne і мела б быць"сьцігодныя." Але й "сьцігодны",як пераклад даслоўны, належаў бы да перакладаў благіх, ды ён і непатрэбны, бо маем сваё слова пачэсьлівы -почтённый honorable Добрародныі й пачэсьлівыі нашы мілыі суседзі.Ліст полацкі I460г.Станґ:Полацк 73.Парсуну пачэсьлівую...маем даваці.Прывілей Влл.Кн.Казімера I447г.

"Ішоў за ім чысьлены груд." чысьлены-многочисленный numerousПадпісьнікі,спачатку досыць чысленыя,пакрысе адходзілі. Цьвікевіч(Польмя,I927,Но.8,б.II9).Е ў мове нашай яшчэ наступныя словы з асноваю чысьл:чысьлена-ны-тры ніткі ў васнове(красён), што, разам із другімі 8 -ма чысьленамі,зн.27-ма ніткамі,складаюць пасму.Нк.:Очерки,I57. Пам. чысьленка-нкі.Я аснавала кросны ў двананцата(I2 пасмаў) і 7 чысьленак.Варсл.

чысьленьнік -ка-календарь.Ксл. calendar Паглядзі ў чысьленьнік.Прусаўкі Аз.(Ксл.)

няшчысьлёны-бесчисленный.Ар.countless Гэтыя тры словы, чысьлена,чысьленьнік,няшчысьлёны,-чыста вялікалітоўскія. Відаць гэта хоць бы з тога, што ўплываючыя на нашу мову мовы суседнія іх ня знаюць.Ім вельмі добра адказуюць, зь імі згаджаюцца чысьлены-многочисленный й чысленасьць. Добра праз усіх іх сьветча тое, што яны няскладаныя. Не перакажае ім тое,што маем

цяпер "лік"(а ня "чысло"). нязьлічоны -полёнізма,а шматлічны паўстала так, што ўзялі польскае лічны і подле рас.многочисленныйдадалі"шмат".

якга,прсл.-мгновенно,моментально.Войш. momentarily I якга высах у яе вытак,і пачулася на целе ўздаравелай ад хваробы. Татарыновіч:Евангаля подле сьв.Маркі 4,29.

Фонэтычныя асаблівасьці.

ангіл(Шсл.),ангіль(Дсл.)-ла(-ля),мц.-лу(лю),гук.-ле(лю)-ангел.Шсл.;Бельскі пав.Смаленшчыны(Дсл. пад ангел) angel Чалавек табе ня ангіл.Ст. Як паслаў жа Бог ды двух ангіляў. Смл.п.Не чалавеку кланяецеся, а яго ангілю.Дсл.4(пад Ангіль). Як бачым, хорма з -іл.(-іль) гэтага слова пашырыўшыся найменей,пачынаючы із сярэдняга дзялекту вялікалітоўскага,каторы ё ў васнове старое й новае літаратурнае мовы вялікалітоўскае і з каторага слоўнік Шатэрнікаў(Шсл.),да Смаленшчыны ўлучна, з каторае слоўнік Дабравольскага. Паўстала гэтая хорма наступным парадкам. Побач із такімі словамі,як "торг","корч", "сьмерць","лён" і пад.,у мове нашай ё такія словы,як "чырва", "чырвень","тырчэць","пырскаць","пырхаць","міргаць","кілзаць", "закілзы" і шмат іншых,у каторых ё -ір-,-ыр-,-іл,на месцу -ер- або -ор- слоў таго ж паходжаньня мовы рас.(торчать,порскать,моргать і інш.).Пад уплывам -ір-,-ыр- у менаваных і падобных да іх словах сваіх паўсталі ў нас і ў словах перанятых -ір-,-ыр-(кірмаш,кірунак,цырата,цыравацць), а таксама -іл-, -ыл-(шкіле ţ канцыляра) а -ым-,(цымэнт), бо перад л,м у гэтай зьяве мова таксама рэагуе,як перад р. Значыцца,замест -ер-, -ел-,-ем- памеж сугукаў чужых слоў ё ў нашай мове ў іх -ір-, -ыр-,-іл-,-ыл-,ым. Затым,як праваМерная,мае быць і хорма "ангіл" зам."ангел".

вулоньне. Няма такога слова ў мове влл; але ё "улоньне", да каторага дадаецца в тады, як яно стаіць па прыймені"у" (у вулоньне), і так яно ўжыта ў перакладзе. Калі слова пачынаецца з а або зь ненацісьненага у па прыймені у або ў,тады такое слова мае перад а (калі пачынаецца з а і перад у калі пачынаецца зь ненацісьненага у)прыстаўное (протэтычнае) в: агонь,агню, але : у вагню; увесь,усяго,да ўсяго,але:у вусім, у вусіх;улоньне,каля ўлоньня,але:рак у вулоньню.Гэта паказальная рыса мовы влл.

імне,імною.Ад ас.займені "я" хорма давальнага а мясцовага склону адз.л. ё "імне", а снадзіўнага адз.л."імною". Баркі М."Я,давальны скл.імне,снадзіўны імною".ПНЗ,б.20. Красачка мая джанджаровая,дзяўчынка мая чарнабровая,імне ты дасталася.Рылавічы НЗ(НПЗ,4І).Імне ў бацечкі дый ня летаваць. Крапіўное(ПНЗ,44). Татухна мой да ты родненькі,Парадзь імне ты парадачку.Вадзьвінка Імгл.(Косіч,240).

Рыса гэтая не абмежуецца аднымі "імне","імною", бо яна фонэтычная,зн.,бывае ў мове влл.усюдых,ідзе ў іншых мовах славянскіх слова пачынаецца з м або р,або л, па каторых ё сугук. Прыклады:Імглін-пав. места на Севершчыне.Косіч,80;ПНЗ,9. Імсьціслаў(імя), Імсьціслаўе(места),імгненьне-мгновение.МГсл. moment імжа-изморозь hoarfrost Сыпалася за каўнер Дзімку калючая сьнежная імжа.Капыловіч:Хлеб("Беларус",Но.І57),імжэць -моросить to drizzle Шсл.;Ксл. Даль дажджамі імжыць.Сяднёў:Ся-

стры.імклівы -стремительный impetuous Спыніў Кайдан імклівую арду.Вольскі:Паланянка.імкненьне,імкнуцца,імша,імшара,імшеньнік і г.д.-множасьць.Такая ж множасьць перад л а р з наступным сугукам:ільсьлівасьць-льстивость.Гсл. flattery Шоўк ільсьніцца пад рукою.Крушына:Лебедзь,29;ірваць ,іржа.Яшчэ будзе вараненькі весела ірзаці.Гарун:Блр.марш.

Злучэньні гэтыя ўзьніклі із злучэньняў ль+сугук(льстливость),мь+сугук(мьною),рь(або р )+ сугук. . Па шчэзьненьню ь або ,як надгарода за яго,разьвілося і - перад л,м, р,па каторых ё сугук.

"па ўсёй Сыры замест Сырыі". Гэта датыкаецца не аднае Сыры, але да ўсіх перанятых чужых слоў, у каторых ё падобныя злучэньні. Затым канечне надабе шырэй сказаць праз гэту рысу. Неславянскія спакменьнікі на -іа,-іо,звычайна заходне-эўропскія,у тым ліку й грэцкія, а пераз мову грэцкую й усходнія, галоўна гэбрэйскія,адзяржалі ў мове влл.хорму на -а зь цьвярдым або мяккім сугукам перад-а,зн.,на пісьме капіеўкаю(кірыліцаю) ё хорма на -а або на -я. Цікава зацеміць,што сюды належаць і тыя спакменьнікі,звычайна хрышчоныя ймёны грэцкія й іншыя,каторыя з прыймом хрысьцянства зь Візанты прышлі да нас у хорме стара-макядонскай(царкоўна-славянскай).Цьвярды сугук ё тады,калі ён мяккім ня бывае ў мове влл. Такімі ё,першае, р:Азара+,андынара-плата за батрацкую службу натурой,Ст.,антылера-артилерия. Ст.Вэра(з Вэріа).Первей Жыда звалі Вэрай.

---

+ Словы,каторых месца запісу гэтта не паказую,я бяру із свайго артыкулу"Хрышчоныя ймёны вялікалітоўскія"("Запісы",кн.2, у Мюнхене,1963,б.95-127), у каторым паказаны іх месцы запісу.

Пран.Багушэвіч.Глікера,Захара,Дара,канцылярa. Пісар сядзіць у канцыляры.Ст. Ліцера,Лукера,мізэра-жалкий,худой.Шсл. Вось, урадзілася мізэра! Крамяні Пух.(Шсл.) Пульхера,Валера,цыкора -цикорий.Ст. і інш. Другое,д,т,каторыя ў словах перанятых із Захаду ў мове влл. заўсёды цьвярдыя:камэда-комедия.Шсл. Камэда зь ім дый годзе!Ст. Клаўда,Ліда.Трэйцяе,старое ц(зн.ц ня з т) у мове влл.толькі цьвярдое. Затым і ў разгляданай асаблівасьці яно таксама заўсёды цьвярдое:апараца-операция. Шсл. Будуць рабіць апарацу,дык адрэжуць нагу.Ст.міліца - милиция.Шсл. Пайду асьветчу на цябе ў міліцу.(Ст.) Міліца цябе арыштуе.Ст. Міліца ў Петрыка ўсё пераўтрэсла.Ст.(Шсл пад пэратрэсьці). Мяне пыталі ў міліцы ды пусьцілі.Ст.(Шсл. пад дапрасіць).паліца-полиция Вал.раца -причина,резон.Шсл. Што за чалавек:ка ўсякаму чэпіцца бяз дай рацы?Ст.станца-станция. Шсл.;Слц.Паедзем на станцу і там сядзем на машыну.Ст.

У мове влл. вуснавыя сугукі б,п,ф,м,в, перад сугукам і на канцы слова вымаўляюцца цьверда. Затым і тут яны цьвярдыя: Агапа,Гапа,Алімпа,Зянова,Хіма,Яўхіма,Ярэма(мужч.)

Усі іншыя сугукі-мяккія перад менаваным канчаткам,зн., канчатак ё -я:Аміля,Аўрэля,баталя-свалка,драка,крик в большом споре.Шсл.Бабы баталю падднялі на ўсё сяло.Ст. Наталя, Разаля,Цыцыля,Юля;губэрняАр.;Ст. Ксеня,Маланя,Прасіня,Сьцяпаня,Юстыня,Анісся.Учора мяне паслалі ў камісю.Белагузава,10 км. ад м.Вяліжа(Бузук:Да характарыстыкі,б.14). Настася,Панася, Хадося,Тадося.пэнся-жалование.Шсл. Жыве на пэнсі, дык лацьвей яму.Ст. Зь імёнаў мужчынскіх:Ананя,Гананя,Сахоня,Вося.

У сярэдзіне слова:Юляна,Касян,але:Галакцён,Тацяна,Дзямян,ДзянісЗн.,тая розьніца ў нутры слова,што тыя сугукі,

 



каторыя могуць мякчэць(або,як д,т,пераходзяць у дз,ц сярэднеязычныя) у сваіх словах мовы влл.,мякчэюць(або пераходзяць у дзь,ць) у путры слоў перанятых.

Гэтая рыса пашырыўшыся па ўсім прасьцягу мовы влл.,але ня ўсюдых аднолькава моцна захавалася: ідзе сусім добра, а йдзе слабей, а йдзе й вельмі слаба.

Славатвор.

"будучы,як думалі,сынам Язэпа Гілянка,Матфацёнка...Даідзёнка.. Адамёнка, каторы быў Божы." Назоўны склон прыведзеных назоваў гэткі:Гілянок,Матфацёнак,Давідзёнак,Адамёнак.Нарасьцень(суфікс) ё -енак,каторы залежна ад націску,колькасьці складоў у слове,сугукаў перад ім(мяккія яны ці зацьвярдзелыя) выступае ў хормах:-ёнак(найчасьцей у трыскладовых-Савёнак),-онак(Лазічонак), калі націск на канцы,што можа быць у трыскладовых, тады будзе хорма-янок(Касянок), у чатыра - і больш складовых націск рэдчас бывае на перадпараньневым складзе,і тады ё -енак (Арцёменак), а па зацьвярдзелых-анак(Зубоўшчанак). З гэтым нарасьцям ё назовы сыноў па бацьку,вялікі працэнт прозьвішчаў і географных назоваў вялікалітоўскіх.У гэтым ужываньню назовы зь менаваным нарасьцям пашырыўшыся па ўсім прасьцягу влл., навет на зрусьфікаванай яго часьці,прыкл.:Савёнак,Лапёнак, Кріндзялёнак,Чібасёнак,Аўчаронак(Халанскі,17),Маргачонак-назоў сына,чый бацька зваўся Маргач.Тургенев:Певцы(Записки охотника). Гэты нарасцень вельмі паказальны ў нашай мове,іншыя мовы славянскія ў менаваных значаньнях яго ня знаюць. Спабываць нашу мову яго,знача-бязьвечыць яе.

Сынтакса.

"Дый усюды ставіцца'а' замест 'і'.'Сьці айца а маці-на маг нер чэскага злучэньня". Калі б я ўчыніў так,то быў бы вялікім шкоднікам. Але калі рыса гэтая ё ў мове нашай,то шкоднікі тыя, што так нягодна мяне вінуюць. Наўперад зацемлю:няпраўда,што усюды ставіцца "а" замест "і"."і" ўжыта досыць часта,усюдых, ідзе яму належа быць.Прыкл.: І,глянуўшы навокал на ўсіх іх, кажа чалавеку таму:"Выцягні руку сваю",і ён зрабіў гэтак; і стала рука ягоная здаровая,як другая.Лука 6:10.

Цяпер пакажу,калі ўжываюць адзіночальнага злуча"а"(бо толькі праз такі злуч"а" тут мова.

А злуч, І.адзіночальны. У мове расійскай яму адказуе и.Ксл.; Шсл.;Гсл.;Палесьсе(Крех. Апостол II,бач.7);Нсл.І.Из союзов,кроме употребляющихся и в русской речи,обращает на себя внимание:а=и (больше употребляющееся впрочем в старом языке,но известное и современной речи),ані= і не.Карскі,II-3,214."У старой мове беларускай злуча а прыраўнальна часта ўжывалі ў значаньню злуча "і" дзеля задзіночаньня асобных столак("членаў") проказі ўнутры простых проказяў."Нарысы,гіст.мовы,388.

2.Адзіноча паўтаральныя словы,што паказуюць трываньне дзеяньня, мацпеньне пазнакі,якасьці і пад.Як лут-ляжыць а ляжыць.Гсл.(пад лут). Ідуць а йдуць.Гсл.А тыя Асмолаўцы возяць а возяць князёў сьпірыт, болей а болей нялюдзеюць і хаваюцца самы ў сябе.Гарэцкі:Песьні,9. Там а там сінеюць чароўна-прынадныя галоўкі-красачкі ціхіх васількоў.Гарэцкі:Песьні,54.Мык а мык!-то ў хату, то з хаты.Гсл. Далей а далей-дальше и дальше..Гсл. Урэдзь а ўрэдзь ходзе да царквы.Нсл.71. Скрозь а скрозь гарота.Гарун:Сын. Дзе а дзе-кое -где,там и тут,то там,то сям.Гсл.Адзіночачы два словы,твора злучэньне,адно паймо выказуючае.Сорам а ганьба.

б.Адзіноча дзейнікі а дапаўненьні, калі яны выступаюць у вадноль-кавай долі або ролі(як сьветкі,барышнікі,паручнікі,работнікі,купцы; як задатак, плата і інш.),калі паказуюць падобны цяжар або служаць дзеля паказаньня аднае мясцовасьці і пад. А ў Новегорадзе бяша князь Раман Мсьціславіч а пасаднік Якун а ўладыка Йван.Пск.Лет.III, 1169г.л.10(ПОС,44).А пры том былі баяра"а"бабраўнічы гаспадарскі. Полац.ліст 1533г.БА,II,145. Пан Аляксандра Тарноўскі а рэчнік Лапкоўскае-Савіцкі былі.Літ.мэтрыка II Λ,а 1540 г.(Барысёнак:Адвакатура,133). Даў ясьмі тую клячу ку пастаўленьню да права Чыжу шындзельніку, а паручнікі Гаванец Сташковіч каўбасінец а Кузі Юшковіч, брат Чыжаў, а Ясюта Сцэцавіч дзядзьковіч.Гордз.АКТ ХУІІ,5. Купцы каралявецкія(Сымон а Балцар) на тот рок перад каралём ся яго міласці станавілі.1535г.Літ.мэтр.IIА-8,а,262. Вон купіў пашанку і задатку даў каня а сукню.Гордз.акты,ХУІІ,1.Слуг яго Андрэя а Цішука параніў.Гордз.акты,ХУІІ,3. Пры том быў Ян Кеўла а Сьцецкка. Літ.мэтр.РИБ XXX(Нарысы гіст.мовы 388).Руска-Беларускі слоўнік.Браты М. а Г.Гарэцкія.У Смаленску 1918.(Чырвоны шлях,Но.5-6,у Петраградзе,кастрычнік 1918.)Яго спадарства пагібнець а воінства.Сказаньне а Сівільле (Варш.Унів.Изв.1898г.). Ана ўмоўкла, а кароль меў большае размышленьне а гнеў(Трышчан,II,1580г.) Ад жарагла малым частым невадам на берагу к Раскапелі а востраву Заяччу.Пск.Выпіс із пскоўскіх кніг ХУІІ стт.(РФВ,1913,б.7). Далі ясьмо яму,...за яго верную службу, сёла ў Крэменецкам павеце:Баршоўку а Барок а селішча Кандзітава а лес Дзедаў.ЛЗР,I,48,1438г. Прокша а Белік а Кучук а Лісіца жыбянцяй.Віл.Сьп.лет.444(Карскі II-3,221.)Я а ты. Скарына.Старыя лісты гаспадарства...ня мала сьветчаць аб сівой мінуласьці Лугвенева, аб яго красных часох пад уладаю ўнукаў а праўнукаў князя Лугвеня.Гарэцкі:Песьні.Мужыку а жонцы за кажную нядзелю па шасьці грашэй.Стт. 460. За ведамасьцю а парадаю старшых будзець магчы заставіці.Тм.311. Маюць апыт чыніці ня толькі аб самым тым учынку, але й аб захаваньню а паступках тых абедзьвіх асобаў,права із сабою вядучых.Тм.441. Цімох а Хомка пойдуць на работу.Нсл.І.Казянікі а Пудзіцак-адна часіна(дарогі):увосень такое балота,што ня вылезьці.Ст. Бярно а дровы дух высілілі,пакуль вывез.Чарнагосьці Веш.(Ксл.)Думкі а пачуцьці любыя атожылкі.Дубоўка:Залатымі лёсткамі(Узвышша,Но.3,1927,31). Самае тое, што вы засмуціліся ўзглядам Бога,якую дбайнасьць учынілы ў вас а апраўленьне а абурэньне а страх а жаданьне а рупнасьць а

адплату! Луцк.:2-гі ліст да Карынцян,7:II.

Г.Адзіноча азначаньні падобных значаньняў(позытыўныя,нэгатыўныя);што выказуюць цьвярдзіню,барзьдзін",дужасьць і інш..Вон ня слушным а ня радным абычаём, ня водле права Майдаборскага сягнууся на маю чэсьць.Суд.акты ХУІ стг.(Барысёнак:Адвакатура,95). Не красамоўным вывадам... але яко...просты а шчыры.Цяпінскі ў перадмове (Карскі III-2,36).Шырокая а далёкая жоўтая ніва!Гарэцкі:Песьні,54. Бачачы таковую рэч праціўную а шкодную,выставуем.Літ.Мэтр.IIA-I2, а.8I.Маюць давесьці пры праўных довадзех і яўных а пэўных знаках таго таковага ўчынку.Стт.69. Рыжага а крывога бойся, як пса злога. Нсб.,I45. А буйны а прыгожы ягады.Шылавічы Духаўшч.(Добр.). О, прышлы дзень сумлеўны а сьвяны!Кавыль:Думы,35. Ды зачыню зімы завейны том,паэтаў сьвет,прывабны а шырокі.Кавыль:Ч.лёд. Мы ішлі вялікім валам,войскам буйным а зухвалым.Гарун:Зь песьняў няволі. Я цябе чакаю з роднай а далёкай стараны.Крушына(Лебедзь чорная,верш "Можа прыйдзеш?")Поэта піша на чужыне,дык родная старана яму ё стараною далёкай.

Г.Таксама, як у разох пад бодкамі б,г,' адзіноча злуч а акалічнасьці а іменныя часьці складаных выказьнікаў. Ваша міласьць так шчасьліва а доўга панаваў.Стт. Ясна а грунтоўна даводзе гэта іхная хвігура.Дубоўка(Узвышша,Но.I,I929,II0.) У хаце цёмна, ціха, смутна,цяжка а тужліва.Гарун:Казка. І бяша красна(харошая) а багата. Зборнік ХУІ стг.Крас.,I00(Карскі II-3,70).

Х. Таксама злуч "а" адзіноча выказьнікі тае самае значальнае катэгоры.Наехаўшы,яго самога зьбіў а зраніў.Гордз.Ак.ХУІІ,3. У пятніцу сегасьветную работу(рабіць) а дарма сядзець хэрам(грэх,араб.) Кіт.33бI3. Мяніў,што рэч паспалітую зрадзіць хацеў а на то ся гатаваў.Стт.69. Вазьмі зброю а паўстань на помач мне.Псалт.ХУІ в.(Карскі II-3,2I4). Прыйдзеце а абачча.63б;Тм. Прыйдзеце а будзем ся радаваці.96,тм. Ня пі, ня еж а з хаты ня лезь.Нос.пр.,I64. Абачы ж а памятуй.Катых.I562г.Цяпер табе ў старасьці жыць а Бога хваліць.Нсл.I.

Зацем I.Калі словы праціўнага значаньня не задзіночаныя аднэй рольлю і пад.,дык памеж іх ня можа стаяць адзіночальны злуч а,але стаіць і.Прыкладам:Увясну надвор'е бывае цёплае й сьцюдзёнае, як калі. Ен цалаваў і ізраджаў. Перазь дзьверы ўходзяць і выходзяць.

Зацем 2. Калі вылічаньне ў проказі пачынаецца з і, дык і далей памеж пералічаных словаў будзе і.Прыкладам:Былі там і Пётра,і Паўла, і Аляксандра, і Адоль.Але:Былі там Пётра а Паўла а Аляксандра а Адоль.(Бо тут перад першым вылічаным словам няма і).

д.Адзіночальнага злуча а ўжываюць і да адзіночаньня асобных проказяў."Ужываньне злуча а ў функцы злуча"і" да адзіночаньня складоў проказі ствара магчымасьць скарыстаньня і да адзіночаньня асобных проказяў. Як відаць із пісомых памятак,злуча "а" ў значаньню злуча"і"часта ўжывалі да адзіночаньня простых проказяў складанасураднае проказі("складана-злучанага сказу"):Плаціш...чым можаш а што дом маець.Літ.мэтр.I,РИБ.ХХ,39,I570г. Предак мой тыі людзі дзяржаў, а я ныне па таму ж дзяржу.Тм.735,I5IIг. Прысягні на том,естлі ясі ня зьведам таму, а я хачу тыі пенязі плаціці.Тм.I2I5, I5I8г." Нарысы гіст.мовы,389). Ідзіце да пашні свaей,адкуль хочаце,а бырыще ўперад імя Божае.Кіт.70б8.Быў у мяне мужык,любіў мяне, а яго моцна. Пруж.р.(Фэд.,Шэйн).На вясельлю гралі музыкі, а скакалі дзяўчаты.Столінск.р.(Шэйн).Быў сьлёсар Луганскі, а сталь ён каваў. Купала. 2 апошнія прыклады ўзяты з Нарысаў дыялектолёгіі,328. Не ўважай падупалага за ўпалага а хату яго за баўдыр,Прык. Лепле.

Дык адзіночальны злуч"а" нашае мовы сьцьверджаны навукаю, ён

пашырыўшыся ў стара-літаратурнай а кніжнай(Пскоўшчына) мове вялікалітоўскай на ўсім яе прасьцязе,з народнае мовы вялікалітоўскае ён моцна адбіўся ў слоўніках,асабліва зь дзялекту сярэдняга,каторы ёсьць ў васнове старое й новае мовы літаратурнае,і з нарэчча паўночнага. Е гэты злуч і ў новай мове літаратурнай,я падаў прыклады яго з твораў Купалы,Гарэцкага,Гаруна,Дубоўкі,Кавыля,Крушыны; сустракаецца ён і ў Луцкевічавым перакладзе Новага Закону. Прыклады ўзяты з прыгоды. Пэўне можна стрэць іх і ў іншых літаратараў.

Меней частае ўжываньне гэтага злуча ў новай літаратуры зьясьняецца тым, што гэта сынтаксычная рыса мовы нашае ня ўнесена да практычнае граматыкі. Паказальна тут,як зрабіў М.Гарэцкі. У назове слоўніка,выданага ў Смаленску 1918г.,сказана,што апрацавалі яго "Браты М.а Г.Гарэцкія." Але 1919г.выдана ў Вільні граматыка Б.Тарашкевіча, у каторай гэта рыса не адцемлена(пэўне,затым,што праз злучы ў ёй кажацца толькі на трох радкох),- і ў другім выданьню таго ж слоўніка, у Вільні 1920г.,ё"Браты М. і Г.Гарэцкія." Пасьлей, адылі,як кадзе паказана,Гарэцкі зьвярнуўся да ўжываньня злуча "а" ў значаньнях,паданых у гэтым артыкуле.

Калі б і ў мове чэскай злуча "а" ўжывалі ў такіх прылучаёх,як у нас, то гэта ані ня значыла б, што стуль ён пераняты да мовы вялікалітоўскае, бо досыць тога арґумэнту супроці такога дапушчэньня, што мова чэская ня ўплывала на мову нашую. У кажнай мове славянскай ё некаторыя рысы,супольныя ёй зь некаторымі іншымі мовамі славянскімі. У мове чэскай, адылі, злуча "а"( а не "і") ужываюць блізу заўсёды. Злуча "і" Чэхі ўжываюць у значаньню"навет" і ў значаньню "таксама".

У мове польскай злуча"а" ўжываюць,першае,у значаньню блізкім да"але" і, другое, ў значаньню малое праціўнасьці,прыкл.: Traktat o nieagresji miedzy Polska a Niemcami. Тут павялікалітоўску было б "і":...меж Польшчы й Нямеччыны. Але,калі б,прыкл.,Норвеґія а Даня, з аднаго боку,а Галянда,з другога,учынілі мяжсобку змову прыязньства, то павялл.сказалі б:Змова прыязьньства памеж Норвеґіі а Дані і Галянды.

Затым што адзіночальны злуч"а" служа да найбліжшага задзіночаньня,рерад ім ня мае быць ніякага знаку прыпынку. Гэтым ён будзе й на пісьме розьніцца ад злуча"а" праціўнальнага.

Апрача менаванага,адзіночальны злуч "а" прылучае проказь, зьвязаную сэнсам із усёю пярэдняю моваю або зь якою раней выказанаю думкаю.

Е яшчэ злуч"а",першае,прылучальна-змацняючы,другое прылучальна зьясьняльны і трэйцяе,супроцстаўна-праціўнальны(у трох значаньнях).

Знач.ыцца,ужытыя імною ў перакладзе Біблі,словы й іх фонэтычныя й хармальныя рысы, а таксама асаблівасьці сынтаксычныя навукова сьцьверджаны як вялікалітоўскія; яны багата адбіўшыся ў запісах народных твораў і ў слоўніках, яны ж ё і ў літаратуры. Што некаторыя зь іх слабей адбіўшыся ў літаратуры, чымся гэтага вымагае іх быцьцё ў мове; што побач із імі сустракаюцца зьявы чужыя нашай мове,зьясьняецца станам народу нашага як народу паняволенага;зьясьняецца тым, што нашы літаратары ў школах,дый нідзе,ня вучыліся роднае мовы, а нашы паняволнікі сілком псуюць і нішчаць яе. Дыкжэ надабе бараніць нашу мову ад іх,як гэта й робяць народы,падобнае долі да нашае.

Ня ё заганаю нашага перакладу,калі некаторыя патрабуюць чытаць яго із слоўнікам, як гэта быў зацеміўшы адзін із воступіцы

"Божым Шляхам." Вольныя народы,каторых мовы ніхто ня псуець, усі вучацца роднае мовы ў пачатных і сярэдніх школах і маюць колькі-тамовыя зьясьняльныя(зн.безь перакладу на чужую мову), слоўнікі,прызначаныя да лепшага пазнаньня свае роднае мовы.

Чым жа зьясьніць зьяўленьне так несправядлівага галаслоўнага зацему ў"Божым шляхам"? У ім яго й надабе глядзець.Вылічаючы моўныя "заганы"нашага перакладу Віблі,аўтар разгледжанага Зацему і рэдактар"Б.Шл." тым самым прызналіся,што яны ня знаюць шмат якіх слоў і хормаў,ужытых у перакладзе. Гэтым пасьветчылі, наколькі яны ня знаюць роднае мовы. Якія ж прычыны гэтага? Рэдактар"Б.Шл.",сьвятар Язэп Гармановіч, як сьведамы Вялікаліцьвін,ідэйны сьвятар і мучаньнік(дарма што не замучаны), заслугуе на вялікую павагу. Але не за знацьцё роднае мовы. Ад часу,калі пашоў да школы, яна ў яго толькі псавалася:у расійскіх пачатнай і месцкай школах маскоўскім уплывам, у каталіцкім сэмінару уплывам польскім,наапошку ў Харбіне ў Манджуры,куды быў засланы на місыйную работу сярод Расійцаў а Хінцоў,-ад узаем'я з Расійцамі,будучы спабыты роднае атмосфэры. Не палепшала й за даўгія гады мук у концэнтрачным табару расійска-камуністычным. У ваднэй газэце было зацемлена,што творы ягоныя"Кітай,Сібір, Масква" а "Князь і лапаць"напісаны "гальшанскаю гаварою." Ня сусім так, мова іх ладне горшая за гальшанскую гавару.З гэтта менаваных прычынВідаць гэта таксама з мовы "Божым шляхам",каторы ён рэдагуе.

Маючы такое малое знацьцё роднае мовы, ён, відаць, быў зьдзіўлены з багацьця яе ў нашым перакладзе Віблі...і прыняў ладне яго за чужое. Затым,як аўтар Зацему,сам схаваўшыся,падсунуў яму да друку сваю "рэцэнзію",ён прыняў яе.

Аўтарам жа ё архімандрыт Леў Гарошка. Я пазнаў яго із стапрацэнтнаю пэўнасьцю.Шмат таго,што сталася прычынаю малога знацьця мовы вялікалітоўскае ў сьв.Гармановіча,было і ў сьв.Гарошкі. Затым адцемлю толькі тое,што ё ў сьв.Гарошкі індывідуяльнае. Ен належа да тых людзёў, што без прыгатовы,без навукі хочуць быць унівэрсальнымі,што маюць сябе на'т за ведамцаў і тога,праз што ня маюць паняцьця. У сьв.Гарошкі гэта асабліва шкодна ўзгладам мовы вялікалітоўскае. Як ён Вялікаліцьвін("Беларус"),то ўважае, што даволі знае мову вялікалітоўскую,дарма што, як відаць,мае зь яе толькі часьць таго, што мог адзяржаць(але не адзяржаў) ад сваіх бацькоў і суседзяў. Ен ня ўмее на'т скланяць свайго імені"Леў" (скланяе гэтак:род.Льва,дав. Льву,снадзіўны Львом, мясц.Льве, зам.Лява,Ляву,Лявом,Ляву).Усе, што выходзе за такі вузкі моўны горызонт Гарошкаў, ён мае за ненормальнае а шкоднае. Згодна з гэтым вымагае не адступаць ад малое(да першых аддзелаў пачатнае школы) граматыкі Б.Тарашкевіча,кагадзе выпушчанага "кандыдата філёлёгіі". Але сам ад яе адступае там, ідзе не належа адступіць, бо й яе добра ня знае. Бачым гэта ў пісаньнях ягоных. А як мававед(у сваім аччу) сьв.Гарошка выступае з прынцыпам, што ня можна ў мове вялікалітоўскай ужываць такіх слоў,якія ў іншых мовах маюць благое значаньне;прыкладам,ня можна ўжываць прыймя <u>подле</u>,бо ў мове польскай прыслоўе <u>подле</u> знача"нягодна","ганебна".

У вышменеванай брашурцы"Своеасаблівасьці беларускае мовы" ён зрабіў "адкрыцьце", што тых асаблівасьцяў мовы влл., якімі яна розьніцца ад мовы пол.,рас. і ўкр. няма ў ніякай іншай мове славянскай.

Ці,прынамся,архім.Гарошка суб'ектыўна шчыры, ці так думае праз мову нашага перакладу Віблі, як ён напісаў? Праз гэта ён сам даў сьветчаньне. У нумару 66-67"Божым шляхам" з 1955г.на бач.31,у варт., самым ім падпісаным,ён чыста зганіў за мову пераклад Новага Закону пралата Др.П.Татарыновіча, а на пачатку свайго ганеньня мовы нашага

перакладу ў нумару 3(I26)"Б.Шл." з маю-чырвіня I97I на бач. 7-ай назваў пераклад Татарыновічаў"салідным і вельмі карысным". Калі ён сьведама кажа няпраўду,хвалячы тое, што зганіўшы,дзеля таго, каб супрацьставіць "добрае""благому", каб мацней мяне зганіць, калі заразом уважаў за патрэбнае дадаць,што і ўсё жыцьцё("даўгія гады") я працаваў "па свойму",зн. не як людзі,ня так, як належа,бескарысна, то ці і ня ўвесь галаслоўны Зацем ягоны праз мову нашага перакладу Біблі ня ё дзеля зганеньня?( а ня дзеля праўды). Мана й праўда,шчырасьць разам ня бываюць.

Я,адылі, не хачу паніжыцца,каб сказаць празь яго няпраўду. Ен універсальны,няўзьдзержлівы, папаганску помсьлігы,манлівы датога, каго не падабае,шкодны ўзглядам нашае мовы, але, побач із гэтым, як сьведамы а дзейны Вялікаліцьвін,карысны.

Др.Я.Станкевіч.

Скарачэньні

МясЦовасьці

Аз.-Азярышчанскі пав.
Арл.-Арлоўскі п.
Ашм.-Ашмянскі п.
Веш.Бешанкаўскі п.
Гарадок,места на Віцебшчыне
Духаўшч.-Духаўшчынскі п.
Дз.-Дзісенскі п.
Імгл.-Імглінскі п.
Куз.-Кузьмінскі р.
Лёз.-Лёзьненскі р.
Мокрае-сяло Мокрае Клімавіцкага п.;словы запісаны ў поэты М.Сядёва.
Міх.-с.Міхалкавічы Лагойскага п.
Пар.,Парэцк.-Парэцкі п.
Пух.-Пухавіцкі р.
Сян.-Сянскі п.
Ск.-Сакольскі п.
Смал.-Смаленскі п.,словы ўзяты із слоўніка Дабравольскага.
Смл.-Смаленшчына,словы ўзяты із слоўніка Далявага.
Ст.-с.Старына Ігуменск.п.,словы выпісаны із слоўніка Шатэрнікавага.
Стдб.-Старадубскі п.
Сураск.-Сураскі п.на Севершчыне
Сурынка-Сурынка Слонімск.п.
Вял.-Вялейскі п.
Усх.--усходні,словы выпісаны із слоўніка Далявага,ідзе пазначаны як"зап.(з гляньва маскоўскага) і запісаны ў Даля ў Смаленшчыне або ў заходняй часьці Калускае й Арлоўскае губ.
Чаш.-Чашніцкі р-н.
Ар.-сяло Арляняты,накш званае Вурняняты,Краўское вол,Ашмянск.п.
Барс.-Барысаўскі п.
Гом.-Гомельскі п.
Глуск-местачка на Случчыне
Ельн.-Ельнінскі п.
Дзьв.-Дзьвінскі п.
Імсьц.-Імсьціслаўскі п.
Кур.-Курская губэрня.
Люц.-Люцынскі п.(у Лотве).
Н.-Ноўвагарадзкі п.
Пск.-Пскоўшчына.
Пц.-Полацкі п.
Сір.-Сіроцінскі р-н
Слц.-Слуцкі п.
Войш.-с.Войштавічы,Вішнеўскае в., Валожынск. п.
Вал.-Валожынскі п.

ЛІТАРАТУРА.

АЗР-Акты Западной России.
Бацьк.-Бацькаўшчына,влл.газэта,выдаваная ў Мюнхене.
Б.Голас-Беларускі голас,газета-месячнік,выходзе ў Торонто(Канада).
Будде:Тула-Орел-Е.Будде:О говорах Тульской и Орловской губ.
(СбОРЯС,т.76,Но.3,I904 г.)

Бузук:Невель-П.Бузук:Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў.Гутаркі Невельскага й Вяліскага паветаў.У Менску 1926.
Гордз.Акты-Акты,издав.Виленской археогр.комиссией,т.ХУII,акты Гродненского земского суда.У Вільні 1890.
Гарэцкі:Песьні-Максім Гарэцкі:Ціхія песьні,павесьць.У Менску 1926.
Гарун-З твораў поэты А.Гаруна.
Гринкова:Тудовляне-Н.Гринкова:Очерки по русской диалектологии IУ. Говор Тудовлян Ржевского У.(ИОРЯС,31,1926).
Халанский-М.Халанский:Народныя говоры Курской губ.(Сборнік ОРЯС 76,1904).
Демид:Верование-П.Демидович:Из области верований и сказаний Белорусов.(Этнографическое обозрение.М.1896,Но.I,2-3).
Дубоўка-Зтвораў поэты Вал.Дубоўкі.
ЗСД-М.Зарэцкі:Сьцежкі-дарожкі,раман.У менску 1928.
Дудзіцкі-З твораў пісьменьніка Дудзіцкага.
Жывіца-Ю.Жывіца,з паведаньняў ягоных у час."Прыйсьце",Но.I).
Косіч-М.Косіч:Литвины-белорусы Черниговской губ.(Живая старина,II, IУ,1901).
Карскі-Е.Карский:Белорусы.
Кавыль:Думы-М.Кавыль:Цяжкія думы.1961г.
Кавыль:Ч.лёд-М.Кавыль:Чорны лёд.Бацьк.Но.20-21(456-457).
Кіт,Кітаб-Аль Кітаб I Луцкевіча.
Крех.Апостол-I.Огіенко:Крехівский Апостол 1560г.,у Варшаве 1930.
Крушына:Лебедзь-Р.Крушына:Лебедзь чорная,1947г.
Купала-З твораў Я.Купалы.
Літ.маст.-Літаратура й мастацтва,часапіс у Менску.
Луцк.-А.Луцкевіч:Новы Запавет,у Лёндоне 1948.
Макаёнак:Каб людзі...-Макаёнак:Каб людзі ня ... журыліся,павесьць (Бацьк.1959г.)
Нарысы гіст.-Нарысы з ("по") гісторыі белар. мовы(зб.).У Менску'57.
Нарысы дыялектолёгіі-Нарысы("па")беларускай дыялектологіі,у Менску 1964.
Нк.:Очерки-Н.Никифоровский:Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белорусии.У Вицебску 1895.
Нк.:Дудар-Н.Никифоровский:Очерки Витебской Белорусии.Дудар.(Этнографическое обозрение.У Маскве).
Нк.:Под пос.Н.Никифоровский:Очерки Витебской Белорусии.IУ.Подданые пособники(Там жа 1894,Но.I).
Нк.:Пособники-Н.Никифоровский:Очерки Витебской Белорусии.III.Пособники жихара(там жа 1893,Но.2)
Нк.:Сбяги-Н.Никифоровский:Очерки Витебской Белорусии.УIII.Сбяги, прочки,вонки, ...(там жа 1899,Но.I-2).
Нк.:Старцы-Н.Никифоровский:Очерки Вит.Белорусии.Старцы.(там жа).
Нк.:Част.-Н.Никифоровский:Белорусские песьні частушки.У Вільні, 1911.Лікі паказуюць нумар частушкі.
НСБ-Сборник белоруских пословиц,сост.И.Носовичем.СПб.1874.
НТ-Навуковая тэрмінолёгія,прынятая Інстытутам Культуры Беларускае. У Менску ў 20-х гадох 20 стг.
Полесье-Полесье(лингвистика,археология,топонимика).М.1968.
Полымя-Полымя,часапіс,выходзе ў Менску.
ПНЗ-Ант.Полевой:О языке населения Новозыбковского у.Гомельской губ.У Менску 1926.
Прыйсьце-Прыйсьце,час.Но.I.
Пск.лет.-Пскоўскі летапіс.
Ром.,Романов-Е.Романов:Белорусский сборник.
Раст.:Северск-П.Расторгуев:Северско-белорусский говор.У Ленинградзе 1927.

РИБ-Русская истор.библиотэка.
РФВ-Русский филологический вестник.
Сержп.:Отчет-А.Сержпутовский:Отчет о поездке в Гомельскую губ. в 1926г.
Сляднёў:Корзюк-М.Сляднёў:Раман Корзюк(Вацьк.1964,1965г.)
Скарына-Біблія др.Пр.Скарыны.
Станг:Полацк-Chr.S.Stang:Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polozk. Oslo, L(n(.
Ст.т-Статут Літоўскі 1588г.
Стт.1529-Статут Літоўскі 1529г.,выдрукаваны ў Менску 1960г.
Шэйн-П.Шэйн:Материалы для изучения быта и языка рус.населения Северо-Западного краю.СПб.1887-1893.
ЧЧ,Чачот-J.Czeczot:Piosnki wieśniacza z nad Niemna i Dźwiny.U Vilni 1'ś_.

СЛОЎНІКІ

БНсл.-М.Байкоў і С.Некрашэвіч:Беларуска-Расійскі слоўнік. У Менску 1925. /1921
Гсл.-Максім Гарэцкі:Невялічкі Беларуска-Маскоўскі слоўнік.У Вільні
Даль-Вл.Даль:Толковый словар живаго великорусского языка.
Дсл.-Вл.Добровольский:Смоленский областной словар.У Смаленску 1914.
Ксл.-М.Касьпяровіч:Віцебскі краёвы слоўнік.У Віцебску 1927.
МГсл.-Браты М. і Г.Гарэцкія:Маскоўска-Беларускі слоўнік,выд.2-ое. У Вільні 1920.
Нсл.-Белорускі слоўнік І.Насовіча.СПб.1870.
Палевойсл. -слоўнічак у кніжцы А.Полевого"О языке населения Новозыбковского у."
ПОС-Псковский областной словарь,І.У Ленінградзе 1967.
Растсл.-слоўнічак у кнізе П.Расторгуева"Северско-белорусский говор".
Шсл.-М.Шатэрнік:Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны(Ігуменшчыны).У Менску 1929.
Варсл.-А.Варлыга:Краёвы слоўнік Лагойшчыны,У Нью Ерку 1970.

Іншыя скарачэньні

адвр.-дзеяслоў аднаразнага трываньня
араб.-арабізма
б.,бач.-бачына
гл.-глянь
дзпр.-дзеепрыметник
дзсп.-дзеяспакменьнік
зн.-значыцца
л.-лік
н.-ніякага роду
п.,пол.-польскае
пам.-памяншальная хорма
пр.-прыраўнуй
р.,рас.-расійскі
с.-сяло
ск.-скончанае трываньне
влл.-вяліікалітоўскі(беларускі)
адз.адзіночны лік
ас.-асобавае
безас.-безасабова,-вае
гук.-гукальны склон
дзпрсл.-дзеепрыслоўе
заг.-загадны лад
ж.-жаноцкага роду
мн.-множны лік
нск.-няскончанае трываньне
п.,пав.-павет
прык.-прыказь
р.,р-н-раён
рэл.-рэлігійны
С.-Станкевіч(аўтар слоўніка
тм.- там жа
ч.-чэскі

Зацемленыя абмылкі друку

| Ё | Мае быць | Бачына | Радок |
|---|---|---|---|
| Удрагава | Удругава | 2 | 25згары |
| (НПЗ,41 | (ПНЗ,41) | 5 | 11здолу |
| передннараьневым | перадннарасьневым | 7 | 16згары |
| з | а | 8 | 9згары |
| ўзгладам | ўзглядам | 11 | 23здолу |
| Сядёва | Сяднёва | 12 | 23здолу |

ДА ГЕОГРАФНЫХ НАЗОВАЎ ВЯЛІКАЛІТОЎСКІХ ІЗ СПАЧАТНЫМ НАРАСЬНЯМ -ЬЙ-Е.

Сюды належаць наступныя географныя назовы вялікалітоўскія ніякага роду:

I) на -е з двума аднолькавымі мяккімі сугукамі перад ім (Запрудзьдзе, Залазьзе, Занёманьне, Залесьсе, Забалоцьце, Старасельле і іншыя);

2) на -е з двума рознымі мяккімі сугукамі перад ім(Берасьце і іншыя);

3) на -а з двума аднолькавымі шыпячымі ж,ш,ч перад ім(Заложжа, Замошша, Парэчча і іншыя);

4) на -е з ў перад ім (Іўе і інш.);

5) на 'е із р або вуснавымі б,п,м перад ім(Загор'е і інш).

Вялікая пашыранасьць такіх назоваў у Вялікалітве-Беларусі паказана на гэтым рысунку:




На рысунку адзін знак = 2 назовам. Рысунак сфотографаваны з кніжкі В.Жучкевіча"Топоніміка Белоруссии",у Менску I968,б.63.

На жаль Жучкевіч падаў географныя назовы толькі Вялікалітоўскае("Беларускае") радзкае рэспублікі, бо разглядаць і зваць беларускімі землі нашыя, беспасярэдне прылучаныя да Расії - забаранілі камуністыя расійскія.

Падам гэтта колькі такіх назоваў з тых, што ў Жучкевіча прапушчаны або паданы ў хорме зрусыфікаванай.

Будслаўе, местачка ў Вялейскім повеце..

Браслаўе, паветавае места на Віленшчыне(дакладней: места на паўночным захадзе даўнейшага княства Полацкага).

Еўе, местачка ў Троцкім пав.;у I7 стт. была ў ім друкарня вялікалітоўская(належыла да праваслаўнага Сьвятадухаўскага брацтва віленскага). У выдрукаванай там I6I9 г.граматыцы Сматрыцкага паказана: В Евю.

Заблудаўе, местачка на Падляшшу(у цяперашняй Беласточчыне). У перадмове да Заблудаўскага Псалтыра I570 г. адцемлена:"У месте Заблудовью". Хорма на -овью пакàзуе, што места звалася "Заблудаўе", бо ад "Заблудаў" было б " у Заблудаве".

Заслаўе, местачка ля Менска. Названа так ад імені Зяслава, князя Полацкага, сына Рогвалада. Подле леґенды ў ім пахавана славутная Рагнеда, дачка Рогваладава, маці Зяслава.

Ігуменьне, паветавае места, назоў цяпер зьмянілі камуністыя расійскія на "Чэрвен"(хорма зрусыфікаваная, павялікалітоўску мусіла б быць "Чырвен", родавы адменьнік Чырвіна, бо ёсьць жа "чырвоны","чырвана","чырва","чырвень, род.адм.чырвіня). У Менскіх актах I, у Менску 1931 г. бач.200, трэйчы ё "Ігуменье" (вымаўлялі Ігуменьне).

Імсьціслаўе, паветавае места. На этноґрафнай мапе Вялікалітвы("Беларусі"), выданай 1947 г. ё "Мсьціслаўе"(абмылка на пачатку слова, бо места завецца Імсьціслаўе).

Іўе, местачка ў Лідзкім пав.(да I-ае сьветнае вайны ў пав. Ашмянскім).

Мяжырэчча, местачка на Падляшшу, ля граніцы з мовою польскаю. У менаванай кніжцы Жучкевічавай яно названа"М[illegible]е, хормаю зрусыфікаванай у расійск. друку.

Нарачча, найвялікшае возера вялікалітоўскае(яно ў Браслаўскім пав.).

Постаўе, паветавае места ў Віленшчыне(дакладней і праўдзівей: у Менскай часьці даўнейшага княства Полацкага). У чужым друку можна сустрэць яго пад назовам "Паставы".

Усі хормы менаваных назоваў паўсталі з аднае й тае ж хормы на-ьйе(ь у найстаршую пару было самагукам, а ня знакам да паказаньня мякчыні пярэдняга сугуку). Зн., прыкладам, было Завульйе, Зарэчьйе, Евьйе і пад. Як ь шчэз, тады й упадобнілася да пярэдняга перад ім сугуку, калі ён мог мякчэць або пераходзіць у сугук сярэдне-язычны і паўставалі падвойныя або здоўжаныя сугукі: Задруцьце, Ігуменьне і пад. У найстаршую пару нашае мовы ж, ш, ч былі мяккія, зацьвярдзелі яны ў нас пасьлей. Затым да іх таксама й упадабнялася, і паўставалі словы-назовы Нарачча, Уручча( з Нарочьйе, Уручьйе) і пад. Калі перад спаячым перад й мяккім сугукам быў яшчэ сугук, тады здваеньня ня дзеялася (Перахрэсьце з Перахрэстьйе). Гук в перад й пераходзе ў ў, затым у словах із в перад йе таксама ня сталася здваеньня: Постаўе, Еўе (з Поставьйе, Евьйе) і інш.

Канцавое е менаваных назоваў, як кажнае ненаціснёнае е, вымаўляецца як а(я), але па мяккіх сугуках пішацца е. А па зацьвярдзелых ж, ш, ч і пішацца а(Падляшша).

## НАЗОВЫ "МЕСТА", "СЯЛО".

Менаваныя й іншыя такія ґеоґрафныя назовы на -е(-а па зацьвярдзелых) паўсталі з тае прычыны, што, паўстаючы, тарнаваліся да слова"сяло" або "места", а не да "вёска" або дерегня" ані "город". "Вёска" ё словам польскім, пам. хормаю пол. "весь". Што запраўды словам нашым ё "сяло", а ня "вёска", відаць гэта з ґеоґрафных назоваў, як Краснае(знача харошае) Сяло, Вялікае Сяло, Сярэдняе Сяло (апошнія два сёлы ў Маладзечанскім пав. ё звычайныя сёлы, зн. без царквы або касьцёла); таксама відаць гэта з чысленых "Навасёлак", з прыметніка"селавы", з назову селавых жыхараў"сялак", сялачка"(абодва словы запісаны ўв Адзельску Сакольск. п.). Таксама відаць із выказаў "пайду(паеду) на сяло", "ён на сяле" і пад..

Парасійску словам "село" завуць толькі такое сяло, у каторым ё царква; а ў нас кажнае сяло-сяло. А калі ў сяле ё царква, дык пры патрэбе адцеміць гэта, дадаюць: сяло з царквою, царкоўнае сяло.

Ня можа быць мовы, каб наша "сяло" было перанята з мовы расійскае, бо яго ў нас заўсёды ўжывалі за Незалежнага Гаспадарства нашага, Вялікага Княства Літоўскага, калі расійская мова ня ўплывала на мову нашую. Меж іншага і ўв Аль кітабе ё толькі "сяло", а ня "вёска". Прыкл.: Калі б без азану (арабізма, гуканьне пяцьцём на малітву) у каторым месьце, або ў сяле, азан ня пеўшы, нэмаз (араб. малітву) пелі, вольна цэсару казаць тых людзей выщяць. Бач. 88а17.

Наадварот, праўдападобна Расійцы наша "сяло" пераняліі да свае мовы, назваўшы ім сваю лепшую (бо з царквою) "деревню". Так часта бывае, што як пераймаюць з мовы, уважанай за вышшую, то перанятае слова ўжываюць у значаньню вышшым. Вялікалітоўскі ўплыў на гаспадарствую й адміністрачную тэрміналёгію маскоўскую сусім пэўны, пачынаючы ад "гаспадара-государа", "государства" і (царскага) "двара", "дварца" і канчаючы на "аднадворцу" ралейнікарым; расійскае ж "двор" знача тое, што нашае "дворышча" (зямля пад домам із гаспадарскімі будоўлямі). А што да польскага "вёска", дык блізка да дзевятнанцатага стагодзьдзя ў нас гэтага слова ня знали.

Як звычайна паўсталыя пад уплывам слоў "сяло" й "места", з каторых першага няма ў мове польскай, у расійскай праўдападобна таксама яго ня было, а замест "места" ё "город", вышменаваныя й іншыя падобныя ґеоґрафныя назовы былі своеасаблівымі вялікалітоўскімі. Такімі ж былі яны яшчэ сваімі падвойнымі сугукамі або сваім ў перад -е (Еўе), каторых ня знаюць мова расійская ані польская. Затым былі яны ў няласцы ў зрусыфікаванага й спалячанага элемэнту нашага краю. Гэты элемэнт у сваім друку, больш пашыраным у нас за наш, перайначаваў іх на свой капыл. З гэтае прычыны жыхары, дальшыя ад месцаў зь менаванымі назовамі, часта ня зналі іх, а ўжывалі ў хорме перакручанай. А здаралася, што й некаторыя мясцовыя людзі, больш чытаючы чужое, ня зналі праўдзівых хормаў сваіх сёл і местаў. (Прыпамінаю, як у 30-х гадох аднойчы ў Вільні сказаў імне маляр Пётра Сяргіевіч: "Нашто Ваша мяняеш назоў нашага места? Усі завуць 'Браслаў', а ваша пішаш-'Браслаўе!" Сказаў гэта ён, выяжджаючы на Каляды да свайго Браслаўя. Зьвярнуўшыся па Калядах, кажа імне: "Выбачайце, проста дзіва, як гэта я ня мог чуць; запраўды ўсі завуць 'Браслаўе' а не 'Браслаў'!" Можна і ў іншых месцах зацеміць, што чытанае болей уразаецца ў памяць, чымся казанае, бо першае мусяць прачытаць, а хорму другога пушчаюць міма вушшу, абы толькі зразумець зьмест. З гэтае прычыны нашы старыя эміґранты Нью Ерк завуць "НаўЕрк", бо чыталі пасвойму, а, з прычыны свайго аканьня, вымаўлялі "Наў Ерк).

Блізкімі да разгледжаных ё ґеоґрафныя назовы на -о (калі бяз націску на канцу, дык на -а) і (рэдка) на -е-таксама ніякага роду. Паўсталі яны з прыметнікаў пад уплывам слова "места" або "сяло", каторыя пры іх і разумеліся. Колькі прыкладаў: Назоў "Лепле", паветавага места ў Полаччыне, ё вышшым ступнём бытага прыметніка "лепы"-харошы, і "Лепле" знача "харошае (места). Назоў "Сянно", паветавага места ў Магілеўшчыне знача "Сянное" (места). Сёлаў, местачак і местаў з падобнымі назовамі ё множасьць, асабліва бяз націску на канцы. Прыкл.: Аўґустова на Падляшшу, Валожына, паветавае места, Вішнева Валожынскае а Вялейскае, Крэва а Багданава Ашмянскае, Лебедзева ля Маладзечна і само Маладзечна і г. д.-множасьць.

Таксама тыя месты, якія цяпер ледзь не заўсёды завуць мужчынскай хормаю(Менск, Смаленск і інш.,але Бранска БГ слоўнік,побач із Бранск),даўней,прынамся пераважна, звалі хормаю ніякага роду на -а(даўней пісалі-о):Менска,Віцебска, Клецка і г.д.Сталася гэта наступным парадкам. Слова"места" ў мовах славянскіх спачатна значыла тое, што цяпер знача нашае "месца". Але, як у некаторых "местах" узьнікае рамяство, прамысл, заклалі культурна-асьветныя ўстановы,тады такое "места" стала "местам" нязвычайным,важным. Супроці яго малое значаньне мелі ўсі іншыя"месты" і затым кажнае зь іх адзяржала паменшальную хорму"месца". А першае, як важнае, удзяржала хорму поўную"места". Спачатку, а нярэдка й пасьлей,казалі:Смаленскае места, купец із славутага Полацкага места,у Віцебскім месце і пад. З кароткаю хормаю прыметніка было:Полацка(Віцебска,Менска і інш.)места. Адлі пачалі ўжываць бязь "места",каторае разумелася. Колькі прыкладаў з памятак:у полотеско(ліст каля I300г.);зь летапісу Красінскага: оу Витебско,б.75,80, далему лоуцко 77,менско 88,на смоленско 90 і інш.(Карскі:Белорусы,II-3,27). Нельга думаць тут праз польскі ўплыў, бо ў XIУ стг. і паху польскага ўплыву ў нас ня было. Апрача тога, у Пскоўшчыне ніколі ня было польскага ўплыву, а там таксама былі такія хормы назоваў местаў:изборско.Сынод бібл.Но.I54, б. 47,I75,204,Смоленско,там жа б.I44,I94 і інш.

У шмат тысячах памятак вялікалітоўскіх ё слова "места" ( а ня "горад"),меж іншага ў такіх, у якіх ані няма польскага ўплыву. У Скарыны толькі "места", а як пацаркоўна-словянску, тады"град". Калі б гэта было пад польскім уплывам, дык сустракалася б гэтае слова з хормаю польскаю-"място", а гэтага ня было.

Ад "места" паўсталі ў нас словы"месьціч" а "мешчанін". А ў мове расійскай"мешчанин" перанята ў нас; яго Расійцы ўжываюць у значаньню зьмененым"буржуа", бо ў значаньню нашага "мешчанін" ё ў іх "горожанин". Таксама перанятае ў нас мяшчанства" ужываюць ня ў значаньню"мяшчане", але ў значаньню"буржуазныя звычаі,быт".

Слоўнікі нашы-Насовічаў,абодва Гарэцкага,Касьпяровічаў, Байкова-Некрашэвіча,Байкова-Гарэцкага-падаюць"места" ў значаньню рас."город". У гэтым жа значаньню ё яно ў вусіх этнографных зборніках нашых. Нікіфароўскі, добры званец мовы Віцебшчыны, падаець яго стуль. Навучоныя нашы- Даўнар-Запольскі,Дружчыц, Даўгяла,Забела і інш.ўжываюць яго ў значаньню рас."город". Прывяду адзін прыклад: Эта местность носила(да и теперь носит) название собственно города("места").Сапунов:Местности(Живописная Россия,б.457).Антон Луцкевіч ужывае яго ў тым жа значаньню.ў сваім перакладзе Новага Закону. Багушэвіч кажа:"Ня люблю я места,парасійску горад".

Цяпер, адылі, настала небясьпечнасьць гэтаму слову нашаму; яго выціскаюць расійскім"город". Праўда, і цяпер поэты, пісьменьнікі й публіцыстыя нашыя ўжываюць гэтага слова ў нашым значаньню, але ня ўсі і не заўсёды. Цяпер часьцей а часьцей пачалі ўжываць рас."горад" замест свайго"места". Відаць, Масква ўнесла нашае "места" ў сваё сьпісаньне, у каторым ё дзевяцьдзясят працэнтаў слоў вялікалітоўскіх, прызначаных ёю на яўную забарону або на выкараненьне. Выглядае, што агенты расійскія адумысьля рупяцца пашырыць рас."горад" замест нашага"места", а нясьведама,пад уплывам іхным пачалі гэта рабіць і людзі

ні ў чым нявінныя. Гэта сусім магчыма. Расійцы ў сваёй арганізаванай сыстэматычнай русыфікацы народу нашага русыфікуюць усё і ўсюды, ад найбольшага да наймяншага ўлучна. Што гэта так, відаць із тога,што ў зрусыфікаваным"Польско-бялорускім слоўніку(выданы ў Варшаве I962г.) пал."място" перакладзена пераз"горад". У вялікалітоўскай часьці гэтага слоўніка ад дзьвюх трэйціх да трох чэцьверцяў слоў расійскіх. Ен такі ж, як русыфікачны"Русско-белорусский словарь"(у Маскве I953г.). У гэтым таксама :"город-горад-да", подле ўсіх вымаганьняў русыфікачнага шалу.

"Горад" у нас быў заўсюды і ё цяпер, але толькі ў значаньню рас.крепость, поль. forteca ,анг. fortress , ням. Festung. Праз гэта сьветчаць вялікалітоўскія памяткі, у тым ліку найважнейшы зь іх -Літоўскі Статут і ваенныя статуты. Бываюць і ў местах гарады, як, прыкладам, цяпер у Берасьцю. За вялікалітоўскае гаспадарстваваасьці такое места, як і кажнае іншае места з майдборскім правам, радзіла-кіравала рада бурмістраў, а ў горадзе ягоным была ўлада гараднічага. Роля гэтага была такая, як нямецкага Polizeimeister. і такога ж расійскага.

Апрача вышменаваных, ё й іншыя груды ґеоґрафных назоваў вялікалітоўскіх, але яны гэтта ня будуць разгледжаны. Мяную толькі два вельмі паказальныя. Адным ізь іх ё назовы сёл і местаў на -ічы-евічы,овічы:Бара́навічы,Ра́дашкавічы,Клімавічы і інш.; сёлы:Пятровічы,Сянькевічы,Міцькавічы і множасьць іншых. Паўсталі яны ад назоваў сыноў па бацьку.

Другім грудам ё бадай што толькі сёлы на няты:Піліпеняты, Сянькяня́ты,Біцяня́ты, Каяцяняты і множасьць іншых. Паўсталі яны ад назоваў дзяцей на -нё(мн.л.-няты). Дзяцё Піліпава-Піліпянё, дзеці-Піліпяняты; дзяцё Сенька́ва-Сенькянё,дзеці-Сенькяняты.

Я.Станкевіч.

Ад Рэдакцы. Рэдакца зварачаецца із заклікам да ўсіх Вялікаліцьвіноў-Беларусаў, знялых ґеоґрафных назоваў свае мясцовасьці, асабліва ж да старшых векам, запісаваць іх і прысляць нам, а мы будзем друкаваць іх у нашым часапісе.. Гэтак супольнымі сіламі паможам захаваньню мясцовых назоваў свайго роднага Краю.

Як зразаю дзеля запісаў, карыстайце з брашуры Др. Я. Станкевіча"Ратуйма скарбы свайго народу!" Можаце адзяржаць яе ад нас дарма, прысляўшы ў канвэрце паштовы значок 9-цёх цэнтаў на паштовае.

## Да Імені Дохтара Скарыны.

Апошнім разглядам гэтае тэмы ё артыкул С.Брагі"Пытаньне імя Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры("Запісы",кн.4, у Мюнхене I966,б.I84).Адлі скарочана тое самае падана ў газэце "Беларус",у Ню Ерку,I967г.,Но.I26 як наказ Беларускага Інстытуту навукі й мастацтва" ды,-тое ж, што ў"Беларусе"-асобным лістком;у вабодвых ад менаванага"Інстытуту".

Што ані "Георгий",ані"Юр","Юры" ня былі імям Скарыны, з усёю пэўнасьцю паказаў Г.Лаўмянскі I925 г.,што й адцемлена ў менаваным артыкуле ў "Запісах",на б. I90. Кампаня шовіністычных камуністых расійскіх за "Ґеорґія" як імя Скарыны нічагусенькі ня мае супольнага з навукаю ані наагул із праўдаю, ё

яна адным із чысьленых русыфікачных імкненьняў іхных.

Слабыя ж аргументы некаторых супроці тога імені нашага научонага, каторага адну з хормаў,хорму"Франциско", блізу заўсёды ўжываў Скарына,лёгка зьбіў Брага ў менаваным артыкуле сваім.

Заставалася толькі зьясьніць хорму імені Скарыны.

Імя належа да мовы, і ў мове належа глядзець яго хормаў. Імя Скарыніна, як і бальшыня хрышчоных імёнаў нашых,чужога паходжаньня. Пры перайманьню іх, у іх была,казаў той, жывая чужая хорма. Пасьлей жа, як наша мова прытарнавала іх да сябе, яны сталі выглядаць сваімі ў нас,часта вельмі рознымі ад свае спачатнае хормы.Пр.:Еганан і Ян,Янка,Янук,Януля,Януш,Ясь; Іван, Іванка,Іванька,Іваш,Івашка,Іванюк,Ванюк; Феодор і Ходар, Ходзька,Хведар,Хведзька;Феофіліос і Хахіл;Димитріос і Зьмітра; Сігізмунд і Зыгмон.

Імя ж Скарыны, як яно сустрэна ў яго, мае ўсі пазнакі свае чужыні. Было яно часу Скарыны блізу сусім чыста нязнанае ў нас. Такім самым чужым было яно й Скарыне.

Прымеж тога Брага на пачатку свайго артыкулу асьвятчае:

"Гэты кароткі разгляд зроблены на аснове выданьняў доктара Скарыны ды тэкстаў ўсіх ведамых пра яго актавых матар'ялаў".

Зн.,калі Брага шукае імені Скарынінага ў часе Скарынінскім, калі было яно кага-дзе прышоўшы да нас, дык заданьням сваім Брага паставіў,даведацца,якой была хорма спачатная імені Скарыны. Гэта не патрабуе ніякага вызуканьня. Добра ведама, што спачатнаю хормаю імені Скарыны была хорма лацінская Franciscus". Ведае гэта й Брага.У 3-яй істужцы наказу"Інстытуту" праз імя Скарыны ў"Беларусе" кажацца:"Ува ўсіх лацінскіх лістох і актавых запісах-кракаўскіх,падуанскіх,пазнанскіх,кенігсбэрскіх-імя Скарыны,зразумела,ужываецца ў лацінскай яго форме- Franciscus". Што гэтая хорма была ня толькі лацінскаю, але й спачатнаю імені Скарынінага, відаць із тога,што яня надта мала розьніцца ад хормы"франциско", заўсёды, з вынятка м двух разоў, ужыванаю Скарынаю.

А калі Брага, напярэк свайму асьветчаньню,шукае не спачатнае хормы імені Скарынінага, але звычыйнае яго хормы вялікалітоўскае, то ня шукае яе там, ідзе належыцца. Як жа ён яе шукае?

У менаваным наказе"Інстытуту" праз імя Скарыніна ў"Беларусе" кажацца:

"Ува ўсіх (актах праз Скарыну) ведамых сяньняа ёсьць гэтых актаў ня менш за 30, у якіх Скарына згадаваецца(!Я.С.) на ймя разоў 70,-згадаваецца заўсёды толькі (падчыркненьне маё Я.С.) як Франьцішак. Яшчэ важней тое, што сам доктар Скарына, які ў выдадзеных у Празе ды Вільні 25 кнігах падаў свае імя ня менш як II5 разоў, падаваў яго заўсёды (падч.мае Я.С.) Франьцішак."

Колькі радкоў ніжэй Брага яшчэ кажа:

"Я Франьцішак Скарынін сын" ці раз заяўляў сам доктар Скарына ў сваіх прадмовах да кнігаў".

А запраўды ані ў вактах, ані ў самога Скарыны ані разу няма хормы "Франьцішак" імені Скарынінага. З вынятка м двух разоў, ужытай самым Скарынам хормы чэскае, ён завець свае імя "Фран-

циско", а іншыя яшчэ"Францыско","Францышко".

Брага таксама кажа(на бач.186 свайго артыкулу ў"Запісах", што хорму "Франьцішак" імені Скарынінага падаець з Актавых кніг Владимиров, што яна ё ў Беларускім Архіве,т.2 і што Флоровский яе падаець у чэскім Зборніку Філёлёгічным.

Я праверыў паказаныя Брагам месцы ў Владзімірава а ў Беларускім архіве т.2 і знашоў,што Владзіміраў асьмі разоў цытуе з актаў Вялікалітоўскіх імя дохтара Скарыны і заўсёды толькі як"Францышко". У Беларускім архіве т.2 двойчы стрэлася імя Скарыніна і абодва разы ў хорме"Францышко".

Чэскі"Сборнік філёлёгіпкы",у каторым ё артыкул Флароўскага праз Скарыну, імне быў непрыступны, але калі ўсюдых праўдзівую хорму"Франциско(або Францыско,Францышко) Брага адмяняе на "Франьцішак", дык пэўне й тут тое самое сталася.

А што да лацінскіх лістоў прускага караля Альбрэхта да віленскага сэнату а да віленскага вайводы Станіслава Гаштаўта, каторых (лацінскія ж) адпісы выдрукаваў Мілавідаў, то ў іх ё толькі хорма лацінская Franciscus імені Скарынінага ў назоўным адменьніку(склоне), а ў іншых адменьніках ё хормы подле лацінскае граматыкі ад такога спакменьніка. А др.П. Татарыновіч, што на просьбу Брагі пераклаў гэныя лісты ў мову вялікалітоўскую падаў не лацінскую хорму імені Скарынінага ані ўжыванаю самым Скарыною, але чамусьці"Франціш ак"(гл.С.Брага"Кароль Альбрэхт і Скарына" ў "Запісы"Но.2,у Ню Ерку 1953,б.108-113).

Брага, замест тога, каб адцеміць,якая ё хорма імені Скарынінага ў вадпісах Мілавідавых, сам у тым жа сваім артыкуле на бач.110,кажа,што ў іх ё хорма "Францішак."

А што ня толькі ў вадпісах Мілавідавых, але і ў лацінскіх арыгіналах менаваных лістоў была хорма "Франциско",відаць із тога, што ў каталёзе архіву Каралявецкага, ідзе былі першыя адпісы гэных лістоў, было, подле Мілавідава,напісана: Pro D' Francisco de Polotzko.

Расійцы, ужываючы хормы"Франциск", толькі адкінулі лацінскі канчатак яе.

Лацінскую хорму свайго імені Скарына ведаў і знаў добра. Але ў Вялікалітве была яна надта радкая часу Скарыны, і,відавочна, ён ня ведаў, якая хорма вялікалітоўская мае ёй адказаваць.Зразумеў толькі, што хорма вялікалітоўская мае быць нако-Франциско(вымаўлялі з-а на канцы, але пісалі -о подле этымолёгічнага правапісу стара-літаратурнае мовы вялікалітоўскае). Мог так зразумець, затым што гэткую хорму маюць усі памяншальныя трыскладовыя імёны вялікалітоўскія .Прыкладам(подле цяперашняга,фонэтычнага правапісу мовы нашае): Абрамка,Адамка, Анатолька,Андрэйка,Арцёмка,Гапонка,Язэпка,Базылька,Васілька, Цімошка і г.д.,-усі,колькі іх ё, бяз вынятку.

Апынуўшыся ў Празе 1517 г., пад уплывам чэскага атачэньня зь яго частым імям František Скарына зразумеў,што хорма чэская ё хормаю славянскаю і тым самым бліжшай да хормы вялікалітоўскае чымся хорма"Франциско". Затым і напісаў"Францішек"(пакінуўшы толькі ц із свйго"Франциско") раз, адлі другі раз. І толькі. Чаму пакінуў гэтую хорму? Бо мусіў зразумець,што тут хорма чэская ня можабыць хормаю вялікалітоўскаю. Ен мог зацеміць, што такому чэскаму(і польскаму)ше,кат рага е чэзьне пры адмене-складненьню адказуе вялікалітоўскае шо перад цьвярдым сугукам(прыкл.ч. , влл.обушок.) Калі так, дык чаму ж ня ўжыў хормы "Францішок"? Бо, як кадзе зацемлена,памяншальныя

тры і болей складовыя хрышчоныя імёны вялікалітоўскія маюць этымолёґічную хорму не на -ок,але на -ко, і так даўней пісалі.

У вактах вялікалітоўскіх І-ае палавіцы шаснанцатага стагодзьдзя імя Др.Скарына запісана як Францышко ( з-ыш замест іс). Брага піша: "Кансэквэнтнае пісаньне ў судовых актах і Вільні, і Полацку,імя Францышак(толькі не "Францышак", але "Францышко" Я.С.) праз цьвёрдае "ы", а не праз "и",як пісаў у сваіх кнігах сам Скарына,паказвае, што гэтак у тую пару яно й вымаўлялася ў Беларусі. Хіба гэтак вымаўляў яго й сам Скарына, дапасоўваючыся да традыцыйнага правапісу"(бач.186-87 арт. Бражынага ў "Запісах",кн.4).

Такога правапісу ніколі й нідзе ня было ў мовах славянскіх, каб па мяккім ц пісалі ы;а прымеж тога, як відаць ізь мяккога (дакладней:сярэдне-язычнага) ц ў нашым імені "Пранціш" і з такога ж ц ў гэтым імені паўночна-заходніх моў славянскіх, а таксама з чэскага ті ў František было ц мяккое у хорме"Франциско".

Прычына тут іншая, наступная. ц мяккое ў нашай стара-літаратурнай мове пісалі пераз т. Зн.,Скарына,-відаць пад уплывам лацінскае хормы свайго імені,-пішучы Франциско зрабіў правапісную абмылу ўзглядам тагачаснага нашага правапісу. А па ц цьвярдым пісалі ы. Затым, як у Скарыны ў"Франциско" было ц, то пісары ўрадаў вялікалітоўскіх зразумелі, што ў ім ц цьвярдое (бо калі б вымаўлялі ц мякка, то напісалі б т) і "паправіґлі",адмяніўшы и на ы.

А што да ш ў "Францышка", дык гэта затым, чаму ё "Івашка", як зваўся хрышчоным імям славуты Вялікаліцьвін XYI стг. Гарнастай,пісар Вялікага Княства Літоўскага,адміністратар(вайвода Троцкі) і палітык, чаму ё "Касьцюшка" і шмат іншых. Можна заценіць, што хорму імені із ш на канцы маюць людзі сталыя й старыя.Прыкладам:Януш Радзівіл у стагодзьдзю сямнанцатым і іншыя Янушы,Адаш(адгэтуль прозьвішча Адашкевіч,з каторага Дашкевіч),Арціш(адгэтуль прозьвішча Арцішэўскі),Богуш,Галяш, Данюш(адг.назоў сяла Данюшава),Іваш,Мялеш,Радаш і шмат іншых. Гэтую хорму можна было б назваць паважнаю. Калі гэтую хорму паменшыць, тады будзе хорма на-ка(даўней пісалі-ко):Іваш-Івашка,Касьцюш-Касьцюшка,Мялеш-Мялешка,Радаш-Радашка(адг. даўней назоў сыноў"Радашкевічы"), а ад іх і такі ж назоў места,Сямаш-Сямашка,Цярэш-Цярэшка 1) і інш.

Калі паправіць гукавую абмылу пісарскую ўзглядам ы і правапісную Скарынінуую ўзглядам ц, дык будзем мець хорму"Франтишко", як пісалі ў нас даўней, і"Францішка" па-цяперашняму. У гэтай хорме не стаець толькі адмены Ф на п.

У мовах польскай,расійскай і бальшыні іншых славянскіх ё гук ф. У мове вялікалітоўскай няма гуку ф у сваіх словах, затым і ў словах перанятых ф адмяняецца на п або хв,або на х (перад о,у заўсёды бывае х-Хока(з Фока),Хота,Хода,Ходка,Трыхон, хунт). Колькі прыкладаў на п: Гапон (з Аґафон), Панас, пасоля, Ясап(з Иосаф), Ясапат,Язэп,Піліп,Прантас,Пранціш,Пранук,Агапа, Гапа(з Аґафъя),Пёкла або Пекла і шмат, шмат іншых. Гэта ўсі прыста хормы вялікалітоўскія; звонку да нас яны не маглі прысьці,бо суседзі нашы іх ня знаюць. Яны пашырыўшыся на ўсім прасьцягу мовы вялікалітоўскае. Прымеж тога, ідзе ё хормы з ф, там гэта пераняты ад нашых суседзьяў, што знаюць гук ф.

Рыса гэта фонэтычная, значыцца яна прасьцягаецца на ф каж-

нага слова. Як толькі чужое слова з ф стануць у нас масава ўжываць( а толькі тады яго можна мецц за перанятае), яго ф адмяняецца на п або на хв або на х. Як толькі гэта станецца, слова з гэтаю рысаю маюць ужываць у мове літаратурнай. Калі ў якім месцу, хоць бы вялікім, шчэзьне якая рыса нашае мовы, то гэта толькі знача, што яна там шчэзла, але ў мове нашай засталася. Е вялізарныя прасьцягі, як усходне-вяціцкі,цьверскі, у каторых мова наша зрусыфікавана,засталося ў ёй толькі колькі рыс вялікалітоўскіх. Ці гэта знача, што ў мове вялікалітоўскай ня мае быць тых рысаў, якія там перасталі існаваць, што наша мова мае шчэзьці на ўсіх сваіх прасьцягох? Гэта датыкаецца ня толькі мовы нашае, але да ўсіх моў. З гэтага таксама відаць, што працэнтнае дачыненьне засталага й шчэзлага ня мае значаньня. Важна толькі тое, што такая рыса ў мове ё. Хто з нас ня ўжывае п,хв,х замест Ф, той адцінае асаблівасьці нашае мовы. Варагі нашыя добра ведаюць, што гэта важная рыса нашае мовы; затым яны ў Радзкім Зьвязе забаранілі Вялікаліцьвіном яе ўжываць. Дык нашто ж нам у вольным сьвеце памагаць нашым варагом нішчыць нашу мову?

Чаму ж Дохтар Скарына ані ўрады вялікалітоўскія не адмянілі ф на п у хорме "Франціско" імені Скарынінага? Затым, што ў старалітаратурнай мове вялікалітоўскай гэтая рыса, як і шмат іншых, ня была нормаю; пісалі так, як хто хацеў. Яшчэ, хіба, і затым не адмянялі, што імя Скарыніна часу ягонага толькі пачынала ўходзіць у мову нашую. Першы сам Скарына яго трошку зьвялікаліцьвініў, адмяніўшы хорму лацінскую на хорму на -ко(Франциско); адлі пісары ўрадаў вялікалітоўскіх адмянілі яшчэ с на ш(Францишко). Не нормалізаваньне гэтае рысы ў тагачасных умовах ня было шкодным, бо й бяз гэтага Вялікаліцьвіны вымаўлялі п або хв або х замест чужога ф. Цяпер жа, як варожыя чужнікі імкнуцца зьнішчыць нашу мову, пазьбяганьне гэтае рысы, як і іншых, было б шкоднае й небясьпечнае.

Хорма памяншальная імені, не вылучае хормы звычайнае. Самая памяншальнасьць імені, наагул спакменьніка, паказуе, што ё й звычайная хорма яго. Каб памяншаць, надабе мець што паменшыць. Гэтак, прыкладам, кадзе менаваны Гарнастай побач із хормаю"Івашка" свайго імені быў званы й звычайнаю хормаю яго "Іван". Таксама і зь імям Скарынінім, побач із памяншальнаю хормаю мае быць ужывана й звычайная яго хорма"Пранціш". Навет болей варта ўжываць хормы звычайнае"Пранціш",чымся памяншальнае"Пранцішка",бо ў гэтай, як памяншальнай,ё нейкая інтымнасьць,прымеж тога хормы звычайнае ўжываюць бязь ніякага пачуцьця. Затым у дакумэнтах ужываюць толькі звычайнае хормы.

Звычайнай хорме нашага імені "Пранціш" адказуе хорма "[illegible]" "Francis" у лацінскай і англельскай мовах. "Francis" ё лацінскім імям некаторых нашых студэнтаў на Кракаўскім У-це пятнанцатага стг.

Брага піша:"Форма імя Франьцішак ад стагодзьдзяў ужо прынялася і замацавалася і ў народнай беларускай мове і ў мове літаратурнай, ды...гэтую самую хорму імя,-побач другое Франциско, -ужываў сам доктар Скарына".(б.187 арт.Бражынага ў "Запісах", кн.4). Гэтак усюды ў сваім арт.Брага замоўчуе праўду, каб правесьці сваю няпраўду. Ен сьведама замоўчуе хорму"Пранціш" і памяншальныя хормы"Пранук" і інш. імені Скарынінага, каторыя (а ня"Франьцішак) запраўды існуюць у нашай мове ад стагодзьдзяў; а калі берці гэта не як адно імя Скарыніна, але як фонэ-

тычную асаблівасьць мовы, што толькі й належа рабіць, дык яна існуе ў нашай мове ад пачатку яе быцьця. Рыса гэтая шырака ведамая ў нашай народнай мове, скуль адбілася ў народных творах, адлі ў слоўніках. Шмат імён із гэтаю рысаю падана ў маім арт. "Хрышчоныя ймёны вялікалітоўскія" ("Запісы" Но.2, у Мюнхене, 1963) з паказаньням жарэлаў, скуль яны ўзяты; ё там і імя "Пранціш". Наша Навуковае Т-ва Скарыны мае гэтае імя ў сваім назове ад 1946 г., ё яно і ў слоўніку Ластоўскага 1924г. Гэта ўсё добра ведае Брага, але замоўчуе,, каб прапхнуць свайго "Францішка".

Што да ўжываньня Скарынаю, дык, як ужо было адцемлена вышэй, Скарына хормы "Францішак" ніколі ня ўжываў, а ўжываў "Франциско", з выняткам толькі двойчы ўжытае хормы чэскае, дый тую перастаў ужываць з прычын вышменаваных у гэтым артыкуле.

Францішак ё хормаю польскаю сваім суфіксам, бо, як паказана вышэй, няма памяншальных трыскладовых ймён вялікалітоўскіх на-ок(-ак не пад націскам), але толькі на -ка. Што ў "Францішак" ё -ак замест пол.-эк нічога не мяняе, бо кажнае ненацісьненае чужое -э Вялікаліцьвіны вымаўляюць як а. Е "Францішак" польскім і сваім націскам; ё польскім і гукам ф, што ў мове польскай ё ў чужых і сваіх словах. Ціж, баронячыся ад рас. "Ґеорґія", мы будзем самы пашыраць пол. "Францішка"?

Якая ж прычына гэтага несамавітага імкненьня Бражынага да нішчэньня рысы мовы нашае і да полёнізацы імені дохтара Скарыны? Думаю, што не абмылюся, сказаўшы, што, апрача недастатнага знацьця мовы вялікалітоўскае, ё тут пашыраная ў нас псыхічная хвароба - комплекс ніжшыні. Людзі з гэтаю хваробаю толькі чужанацанальнае важаць, а сваё ўлегцы маюць. Гэта было прычынаю, чаму Брага, шукаючы хормы імені Скарынінага, сьведама зыґнараваў мову вялікалітоўскую. 2) Я.Станкевіч.

1) Прымеж тога хорма на -сь (Адась, Алесь, Міхась, Пранціс і інш.) ё хормаю любоснаю. Памяншалная хорма ад яе ё таксама на -ка: Адаська, Міхаська. Гэтаю хормаю (на-сь і на-ська) завуць дзеці. Але, бывае, што, прывыкшы так зваць дзяцё, потым завуць на -сь сталага й старога, што ўжо залежа ад прызвычкі, а не ад асаблівасьцяў мовы.

2) Я маў бы несупакойнае сумленьне, калі б не адцеміў гэтта зыркіх моўных абмыл у разгледжаным артыкуле Бражыным. У наказе "Інстытуту" праэь імя Скарыны кажацца: "Ува ўсіх ведамых (актах)...у якіх Скарына згадаваецца на ймя разоў 70, згадаваецца заўсёды як Франьцішак." Вялікл. дзеяслову згадаваць адказуе анґ. to guess , пол. zgadywac, рас. угадывать, іншага або пераноснага значаньня гэты наш дзеяслоў ня мае. А згадавацца ё залежным дзеясловам да згадаваць. У прыведзенай жа проказі Бражынай ніхто не гадае, ня згадуе, а толькі мяж іншага кажуць, зацямляюць. Затым мае быць ужыта мянуецца або мéніцца - залежныя дзеясловы да менаваць а мяніць.

менаваць-нуюю, меніць-ню анґ. to name пол. wzmiankowac р.упоминать (слоўнік Насовічаў 284. Пра ўсіх там менавалі. Там жа менаваны менены mentioned упомянутый. Там жа 283. Выш мененага няма чаго із ноў пісаць. Там жа.

менка - mention(ing) пол. wzmianka р.упоминание. Аб табе там ніякай менкі ня было. Тм. Не мяшаць ізь менка, памяншальнае да мена.

Дзеясловы згадаваць-згадаць, згадавацца (залежны да згадаваць)

і дзпрм.згаданы - украінізмы ў значаньню, ужытым Брагаю.Яны сусім чужыя лексыцы вялікалітоўскй. Некаторае сваё пашырэньне ў нас яны заўдзячуюць таму, што нязналыя мовы ўкраінскай іх прымаюць за вялікалітоўскія.

Е людзіна, што агітуе супроці ўжываньня слоў менаваць, менаваны, бо, бачыце, іх ужывалі ў нашай мове ўрадовай. Чаму гэта мае быць пераказаю? У іншых мовах тэрмінаў урадовых ужываюць і ў літаратуры.Ужываюць і ў нас, ды здаўна. Прыкл.:Пан Бог стварыцель усіх прарокаў вышменаваных спасеньне дасьць.Ал Кітаб,79б.Прыпамінае тыя ліхадзействы, што быццам вышменаваныя зрабілі."Бацькаўшчына",Но.49(533).

На бач.186 свайго арт. Брага кажа:"Імя Франціско Скарына скланяў гэтак, як скланяюцца цяпер (падчыркненьне маё.Я.С.) у беларускай мове імёны з націскам на канцавым складзе, імёны тыпу Пятро,Паўло(Франціско, Франціска, Франціску, Франціскам і г. д.)" Цяпер гэткая вымова й адмена ё толькі ў паўднявой часьці паўднёва-заходняга дзялекту. На засталым разоў дзесяць большым прасьцягу народнае мовы і ў мове літаратурнай вымаўляюць Пётра,Паўла і адмяняюць гэтак: род.Пётры,Паўлы; дав. Пётру,Паўлу; бачу Пётру, Паўлу, зь Пётрам,Паўлам,пры Пётру, Паўлу, гукальны:Пётру! Паўле! Гэтак адмяняюць усі мужчынскія спакменьнікі на -ра,-ла(Аляксандра,Габра,Ґаўра,Зьмітра,Лаўра,Мануйла, Міхайла, Місайла, Саўла,Сыльвэстра,бурмістра,міністра, зубра, сябра, швагра,тыгра); таксама памяншальныя на-ка(Хвадзейка і інш.);таксама Марка, маршалка. Памяншальныя й Марка,Маршалка маюць гукальны адменьнік на -у: Пранцішку! Марку! маршалку!

Ацец,Дохтар Віктар Войтанка-Васілеўскі(прамова на Дзядох па Ім 29га красавіка 1972)+

Сьв.памяці Сьвятар Дохтар Віктар Войтанка-Васілеўскі належыў да тых дзеяньнікаў вялікалітоўскіх, што ўсюдых і заўсёды, пры ўсялякіх умовах працуюць дзеля справы народу свайго. Ужо за гэта належа Яму вялікая павага.

Будучы такім, Ен маў ініцыятыву, адгукаўся на ўсі патрэбы нашыя, не ўзаляжняў свае нацанальнае працы, дзеяльнасьці ад тога, якімі былі іншыя, добрыя ці благія. Ен ведаў, што справа вялікалітоўская(беларуская) ё справаю ўсіх і кажнага Вялікаліцьвіна-Беларуса. Затым кажны мае працаваць дзеля яе, дзеля нороду свайго, не азіраючыся на іншых.

Як вымагаў наш вялікі родзіч,Адам Міцкевіч, Віктар Войтанкп-Васілеўскі мераў сяродкі на замеры, не замер подле сяродкаў. Гэтак усі маюць рабіць, бо, чакаючы сяродкаў, можна спазьніцца із замерамі. Ня цяжка праводзіць якое заданьне, маючы на яго сяродкі, але цяжка пачынаць безь сяродкаў. Як гэта ні дзіўна, найчасьцей вялікія замеры былі здойсьнены тады,як іх пачыналі безь сяродкаў, і тады ўжо, праводзячы свае імкненьні, заданьні,мэту,гатавалі на іх і сяродкі.

Чым жа ўсьцім мы свайго Дарагога Нябожчыка?

Найлепей усьцім робячы тое, што ён рабіў-працаю дзеля народу свайго.

Неадвалочным заданьням нашым ё ратаваць наша маладое пакаленьне ад асыміляцы,ад адарваньня яго ад народу свайго. Найпершаю справаю ў гэтым заданьню ё навучыць усіх Вялікаліцьвіноў-эміґрантаў, малых, маладых і сталых,чытаць і пісаць павялікалітоўску,бо бязь гэтага ня можна мець да іх прыступу, ані

яны ня будуць мець прыступу да спраў народу свайго. Рабіць жа гэта надабе сыстэматычна й арганізавана. Адныя верацць у дасьпех такое работы, другія ня вераць, але няхай і яны ўлучаюцца да гэтае працы, няхай працуюць з абавязку. Ці людзі, ці мы робім толькі тады, як пэўныя ў дасьпех? Ці ня болей тады, як такое пэўнасьці ня маеш? Працуючыя толькі з абавязку, неўзабаве пераканаюцца, што справа не безнадзейная, адлі, што яна пэўная. Наапошку справа абыйме ўсіх, і рэзультаты яе могуць перайсьці нашы найбольшыя спадзяваньні.

Я.Станкевіч.

+Жыцьцё й дзеяльнасьць Віктара Войтанкі-Васілеўскга належа да гісторы Вялікалітвы-Беларусі. Затым месца праз Яго ў нашым часапісе.

Друкуецца прамова зь вялікім спазьненьням- не з мае віны, адылі. Калі газэта адмовіцца друкаваць, а нумары выданьняў іншых няма ведама калі выйдуць, то як ня спозьніцца з друкам?

---

ВЫДАТНЫЯ ВЯЛІКАЛІЦЬВІНЫ(БЕЛАРУСЫ).

Аляксандра Твардоўскі, адзін із найвялікшых поэтаў СССР,быты рэдактар літаратурнага часапісу"Новы мір",ходаньнік за дэмократызацу жыцьця ў СССР. Паходзіў із Смаленшчыны.Прымаў удзел ад Смаленшчыны ў камуністычнум зьезьдзе ў Смаленску 1919г., які прагаласіў Беларускую Радзкую рэспубліку із сталіцаю ў Смаленску.Ня толькі цяперашняя абцятая радзкая рэспубліка Беларуская, але таксама Севершчына, Смаленшчына й Пскоўшчына ўходзілі ў граніцы прагалошанай тады Беларускай Радзкай рэспублікі. Як сам Твардоўскі пісаў у сваіх успамінах, паходзіў ён із мясцовасьці, ідзе гукалі, як і ён сам, вялікалітоўскаю(беларускаю) мовою, самы таго ня ведаючы.Лучыўшы нацанальным нясьведамым у рас. атачэньне, ён стаў расійскім паэтам, але ніколі не парываў зьвязку зь Вялікалітвою і яе літаратураю. Памер 1971г..Прозвішча ягонае"Твардоўск" замест "Цьвярдоўскі" зьясьняецца наступным парадкам. За незалежнага задзіночанага гаспадарства свайго,зв.Вялікім Князствам Літоўскім,Вялікаліцьвіны (Беларусы),пісалі "Твердовскі"(бо быў правапіс этымолёгічны і мяккое ц запісавалі літараю т). А як з часам рэдчас перапісавалі лацініцаю, то перапісавалі літару за літараю гэтак: Tverdovski ,каторае кажны Вялікаліцьвін-Беларус можа вымавіцб толькі як "Твардоўскі" і гэтак запіша подле правапісу новае літаратурнае мовы.

Сяргей Канянок(Канянкоў),найвыдатнейшы скульптар СССР, Вялікаліцьвін із Смаленшчыны. Памер летась маючы 98 год.

---

(Кароль Агасьвер) паслаў лісты да ўсіх краёў каралеўскіх, да кажнага краю пісьмом яго і да кажнага народу моваю яго, каб кажны муж быў спадаром у сваім доме і каб ён гукаў моваю народу свайго.Біблія,кніга Эстэр I:22.

*Др. Я. СТАНКЕВІЧ*

# Кажны ці кожны?

Зь невялікімі выняткамі ў беларускім друку ўжываецца цяпер менаванае ў назове артыкулу займя ў хорме *кожны* (з *о*). Ніхто дагэтуль публічна ня выступаў проці хормы з *о* гэтага займені. Дзеля таго здавалася-б, што тут усё ўпарадку. Але ў старой літаратуры беларускай, як і наагул беларускіх памятках языковых, звычайнай ё хорма *кажны* (з *а* і *н*), рэдка *кажды* (з *а* і *д*) і надта рэдка *кожды* й *кожны* (з *о*). Пісаны ў мове народнай (а ня літаратурнай) „Аль кітаб" XVI стаг. звычайна мае хорму *кажны* рэдка *кажды* і ані ня мае хормы *кожны* або *кожды*.

Затое апошняя хорма звычайнай бывае ў памятках, адбіваючых языковыя асаблівасьці ўкраінскія і, значыцца, напісаных Украінцамі. Дык вось памяткі беларускія XIII — XVIII стаг. прынукаюць праверыць хорму *кожны* ў цяперашняй беларускай мове літаратурнай. Дзеля гэтага трэба разгледзіць, як стаіць справа з асобнымі хормамі менаванага займені ў беларускай мове народнай. З гэтай мэтаю я зьвярнуўся да IV тому збораў М. Фэдэроўскага, што выйшаў пад агульным назовам „Lud białoruski". У ім надрукаваны на 487 бач. прыказкі і іншыя дробныя творы зь вялізарнай бальшыні заходне-беларускіх земляў. Вось як прадстаўляюцца там разгляданыя гэтта хормы:

*Сакольскі павет:* а) хорма *кажны, кажан* сустрэлася пад нумарамі 1458 і 9502; *кажды:* 4765, 7972, 9728 і 9739. Хорма *кожны* й *кожды* ў Сакольскім павеце ня стрэлася.

*Горадзенскі пав: кажны:* 4162 (двойчы). Іншыя хормы гэтага займені ў творах із павету Горадзенскага ня стрэліся.

*Ваўкавыскі пав.:* а) *кажны:* 412, 414, 516, 1349, 1376, 1605, 2193, 2273, 2364, 2365, 2502, 2581, 2709, 2850, 2870, 2991, 3185, 3191, 3585, 3856, 4009 (двойчы), 4153, 4190, 4590, 4984, 5001, 5021, 5335, 5404, 5495, 5630, 5733, 9882, 6371, 6460 (двойчы), 6461, 6539, 13071, 6695, 6921, 7090, 7129, 7559, 7654, 7788, 7789, 7847, 7870, 7872, 7965, 7972, 7996, 8129, 8284, 8440, 8550, 8591, 8763 (двойчы), 9011, 9318, 9441, 9502, 9662, усяго з Ваўкавыскага пав. хорма

*кажны* лучыла 66 разоў; b) *кажды:* 825, 965, 1685, 2871, 5289, 5447, 5918, 6156, 6561, 6582, 6619, 6922, 6923, 13190, 9727, — усяго 15 разоў; c) *кожны:* 1184, 1311, 1458, 1523, 1524, 1962, 3105, 4075, 4136, 5918, 12856, 9727, 9789 — 13 разоў. *Слонімскі пав.:* a) *кажны:* 516 і 4118 — 2 разы. *Наваградзкі пав.: кажды:* 2086 і 7707. *Лідзкі пав.: кажны*: 2 й 516. *Сьвянцянскі пав.: кажны:* 3426. *Ашмянскі пав.. кожны:* 12791.

Значыцца найменей лучыла прыкладаў хормы *кожны*, крыху болей *кажды* і надта шмат *кажны*.

Як даведаваемся з перадмовы рэдакцыі да IV тому Фэдэроўскага, часьць запісаў зроблена была не самым Фэдэроўскім, але іншымі. І вось „правапіс" гэны не беспасярэдне ад Фэдэроўскага паходзячых запісаў рэдакцыя зьмяніла, тарнуючы да „правапісу" беларускай мовы літаратурнай. Вельмі магчыма, што адно дзякуючы гэнай папраўцы маем у выданым томе хорму *кожны*.

Апрача таго паміж сваімі знаёмымі ў Вільні я распытываў, дзе якую хорму менаванага займені кажуць. І вось, што аказалася:

1. *кажны, кажан* і пад. (з *а* і *н*) кажуць: ля Мозыра (ад дыр. Анцукевіча), у Кацёлках ля Пружаны (ад Я. Хвораста), у Шакунох, Пружанскага пав. й вол. побач із *кожны* (ад Жэдзіка), у Падлесьсі ля Ляхавічаў, Баранавіцкага пав., у Друі, Браслаўскага пав. (ад Аўг. Аніські), у Цяцерках, Ёдскае вол., таго-ж пав. (ад М. Пяцюкевіча), у Пятроўшчыне, Новапагосцкае вол., Брасл. пав., у Дзеравенскай вол., Стаўпецкага пав. (ад Ул. Паўлюкоўскага), ля Волмы, Валожынск. пав., у Дзьвінскім пав., побач із *кажды*, у Ямонтах, Беліцкае вол., Лідзкага пав.

2. *кажды:* Сыботнікі, Лідзкага пав., Буда, Вялейск. пав., Слабодка, Брасл. пав., Юшкі, Тургельскае вол., Віленск. пав., Арляняты й Жупраны, Ашмянск. пав., Ініца, Мірскае вол., Стаўп. пав., Шчорсы, Навагр пав., Мядзьведзічы, Баранав. пав.

3. *кожны:* Вялікае Сяло, Пружанскага пав.

У цэнтральнай і ўсходняй Беларусі звычайнай ё хорма *кажны*. Як відаць із адказаў на апытаньнік да зьбіраньня асаблівасьцей беларускае мовы, хорма *кажны* там ё звычайнай. Яна кажацца паміж іншым у пав. Віцебскім, Аршанскім, Быхаўскім, Ігуменскім і ў шмат якіх іншых.

З вышпрыведзеных прыкладаў відаць, што з аднаго боку стаяць хормы *кажны, кажды*, а з другога *кожны, кажды*. У згодзе з гэтым будзе маё цьверджаньне, што самагукі *а* й *о* спачатныя, праславянскія, бо ня можна знайсьці прычыны іх пазьнейшае зьмены. Затое выясьніць паўстаньне хормаў *кажны* й *кожны* вельмі лёгка: з *кажды* й *кожды* пад уплывам прыметаў з *н*, як *роўны, посны* і пад., паўстала *каждны, кождны*, з катораых *д* потым шчэзла (як *д* і *т* ў *позны* й *посны* з *поздны* й *постны*).

З вышменаванага такжа відаць, што чыста беларускай і найболей пашыранай хормаю ё *кажны*. Хорма *кожны* ё провінцы-

яльнай ды вельмі абмежанай, а кажды архаізма мясцовая, а можа яшчэ быць у вадным месцу полёнізмаю, у другім - русыцызмаю.

Затое хорма кажны не магла зьявіцца пад якім чужым уплывам, бо яе няма ў ніякай суседняй мове. Ясна, што ў беларускай літаратурнай мове мае ўжывацца хорма кажны, кажан, кажыны ( з а а н ).

Хорма кожны ў мове нашага друку ё ўкраінізмаю, у найлепшым прылучаю вузкою провінцыялізмаю; таксама кожды. Хтось пусьціў хорму кожны, а затым што яна розьніцца ад хормы польскае а расійскае, а мовы ўкраінскае ў нас ня знаюць, дык некаторыя пачалі яе мець за арыгінальна-вялікалітоўскую. Гэтак яна абмыльна ўведзена да нашае мовы.

Гэты артыкул быў выдрукаваны 1938г. ў нумару 3(16) час. "Калосьсе". Ен і цяпер актуальны, затым гэтта перадрукаваны.

Просьле гэтага артыкулу, я перастаў запісаваць хормы разгледжанага ў ім займені; адно калі-ні-калі запісаў кажны да слоўніка. Гэта цяпер і дадам із свайго пакуль што рукапіснага Вялікалітоўскага-Расійскага слоўніка.

кажны. Скарына: Царства(6 разоў); Кузьмін: Вяліж, 193; Раст.: Северск., 100; Нова-Зыбкаўскі п.(Тм., 33); Мокрае Карачэўскага пав.(Будде: Тула-Орел, 74). "Кажны вместо каждый повсеместно в Рязанской губ."(Тм.73). Жане кажнай блага. Мцэнскі павет(Тм.47). Мазырскі п.; Каратаякі п. Варанежскае губ.(Гринкова 572). Кажнага навучонага шануй і паважай. Кіт 13а15. Кажнаму чалавеку свайго жаль. Нсл. На кажны захоп гісторыя мае адзін адказ. "Бацьк."Но.38-39(573-574). Уздрыгавалі ад кажнага стуку ўвечары па хатах жанкі. Хмара("Калосьсе", Но.1, 1935г., б.6. Душа заплача кажна. Я. Колас: С.Музыка, 38).

кажны ў словах складаных: кажнагодні-ежегодний; кажнадзенны-ежедневный. МГсл. кажнадзён. Хопаўка Дрэнаўскае в. Карачэўск.п. (Будде: Тула: Орел 78)-ежедневно; кажначасны-постоянный.

Зн., займя кажны( з а а н ) пашырыўшыся на ўсім чыста прасьцягу народу вялікалітоўскага, на тым, ідзе захавалася мова ягоная, і на тым, ідзе мова вялікалітоўская зрусыфікавана, але засталіся ў ёй некаторыя асаблівасьці вялікалітоўскія.

Зьясьненьні скарачэньняў гл. ў канцы арт. "Адказ на зацем.." у гэтай кн. "Веды".

Я.Ст.

БЕЛАРУСКІ КОМІТЭТ ВЫДАНЬНЯ БІБЛІ гэтым квітуе адзяржаныя ад Сп. А.К. 20 дал. Вялікі дзякуй яму. Разам із пярэднімі 4044 дал., паквітаванымі у Но.183"Беларуса", на друк і аправу Новага Закону адзяржана 4064 дал. Увесь кошт друку й аправы Новага Закону быў 3.975 дал. Значыцца, было б усё аплачана на выданьне Новага Закону і яшчэ засталося б 89 дал. Але ў ліку падараваных ё 600 дал., падараваных умоўна. Як трэба было плаціць другую рату друкарні, то не ставала каля 600 дал. Сп. Я. й М. Станкевічы згадзаліся пазычыць, але Комітэт ня мог пазычыць, ня маючы пэўнасьці, што будзе мець з чаго аддаць. Затым згадзіліся: Калі Комітэт зможа аддаць, будзе пазыка; калі не- дар. Цяпер, як усё заплачана за выданьне Новага Закону, Комітэт чуецца абавязаным зьберці 511 дал.(бо 89 дал. ё), каб аддаць доўг. Усіх, хто разумее нас і пазычэньнікаў, просім адгукнуцца.
Чэкі просім пасылаць на адрыс скарбніка Комітэту:

Mr. W. Stankievich, 7 Vale Drive, Mountain Lakes, N.J.07046.

Песьня з даўнейшага рыцарскага быту вялікалітоўскага.

Выяжджае сын Даніла, ды на Русь на вайну,
Пакідае сын Даніла Кацярыну жану.
Яго маці старусенька усю ноч ня спала,
Лісточкі пісала, да Данілачкі слала:
"Вой, вярніся, сын Даніла, ты да дому свайго!
Твая жана маладая сваю волю паняла:
Твае коні вараныя пазаежджавала, x
Твайго сыночка малога загубіла яна.
Вой, вярніся, сын Даніла, ты да дому свайго!"
Вой прыехаў сын Даніла, ды дому свайго, x
Яго жана маладая вышла яму насустрэч.
Вой выняў жа сын Даніла аструсеньку меч,
Вой зьняў жа сын Даніла галованьку з плеч.
Вой глядзіць жа сын Даніла, што ў дамове яго: x
Яго коні вараныя пазастоевалі,
Яго сыночак маленькі здаравюсенькі. x
Як пашоў жа сын Даніла да палацу свайго,
а ў палацы стара маці ды у кресьле сядзіць:
"Вой маці, маці, парадніца у хаце,
Парадзіла, як жонку караці;
Цяпер парадзь, як жонку хаваці.
Вой, матуленька, тры грахі на табе:
Першы грэх, матуленька - Кацярынкі няма,
Другі грэх, матуленька, - што мой сын сірата
Трэйці грэх, матуленька, - што я сам удавец.

Падаў Я. [illegible]

---

x Тэкст радка няпэўны.

Просьба да тых, хто ведае, чаго ў гэтай песьні не стаець, прыслаць Рэдакцы свае папраўкі.

Песьня гэтая была друкавана ў нумару "Змагара" ізь сямнаццатага лютага 1972г. ізь зьменамі, парабленымі друкаром, чым была пашкоджана. Затым гэтта передрукоўуецца.

У гэтай песьні добрая мова. Адцемлю два словы:
палац - I. будоўля, у якой жывець гаспадар гаспадарства (цэсар, кароль, цар, князь). - 2. вялікая раскошная будоўля. - 3. дом, уельмі няязвычайны, але вялікі. У песьні апошняе значаньне.
парадніца,араднік - нашыя словы, а ўжываныя некаторымі "дарадніца", "дараднік" - палёнізмы. Таксама нашым ё "парадзіць", а не "дарадзіць". Згодна з гэтым ё "парада". Скарыстаў з парады.

ЗАГАДКІ.

I. Ідзе (дзе) ў пяршыню сказана, што зямля (наша плянэта) вісіць у паветру, на нічым не завешаная?
2. На якой казе езьдзяць?
3. Якая курка нідзе не нясецца?
4. Якое места вялікалітоўскае мае ў сваім назове слова "квет"?
Хто адгадае гэтыя загадкі, тый адзяржыць ~~xxxxxxxx~~ экзэмпляр аднага нумару "Веды" (подле свайго выбару) дарма.
Адгадкі ў наступным нумару "Веды".

Паважаная Рэдакцыя"Беларуса",

калі ласка, выдрукуйце ў найбліжшым нумару"Беларуса" наступны мой ліст, каб паправіць шкоду, учыненую вашым чытаром чысьленымі моўнымі абмыламі ў Но.160 газэты.

З павагаю Я.Станкевіч.

У маім срт."надзвычайная патрэба", у проказі-"Масква выдала рассудак сьмерці народу нашаму"(першы радок артыкулу), а таксама ў проказі"Масква тарнуе й іншыя спосабы, каб здойсьніць свой ганебны рассудак"(радок 12-ты з долу) адменена слова"рассудак" на прысуд.

Слова "рассудак" знача "пастаноў у якой справе суду, ураду і да г.пад., а таксама грамадзтва і прыватнае асобы. Нашаму слову "рассудак" адказуе рас приговор,решение(суда),определение(судебное), пол. wyrok, orzeczenie, česk. rozhodnuti, soudni rezhodnuti, ang. sentence

А рассудак сьмерці -рас.смертный приговор, пол. wyrok śmierci česk. rozsudek smrti, ang. sentence of death Прыклады: Віленскае брацтва падало жалабу ў трыбунал, а гэты перанёс справу "на рассудак соймавы".400-лецьце белар. друку,б.253. Да выеханьня й рассудку камісарскага прысяга старане маець быці задзяржана. Статут,перадрук Лаппы,б.353. Такія зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку заплаціці вінен будзець.Там жа,б.370. Тыя каморнікі маюць быці... пасыланы із рассудку й гранічэньню.Там жа 358. За расказаньням месяц і слонца ўзыйдзе й зайдзе,рассудку Яго (Божага) кажны трымае.Аль Кітаб,107 б 5. На сойме з рассудку нашага,гдзе ся то пакажаць, чэсьць і горла траціць.Статут,80. Таковы з права й рассудку нашага чэсьць і горла траціць.Там жа,67.

А "прысуд" павялікалітоўску знача"права судзіць каго або што." Адказуе анг.jurisdictionчэск. pravomoc рас.юрисдикция. Прыклады: прысуд-юрисдикция.Беларускі архіў,I,у Менску 1927,перадмова. Хто бы з подданых нашых якога стану ў іменьню месцкам сядзець хацеў, тагды маюць усі пад правам і прысудам месцкім быці. Ліст Вял.Князя 1538г.(400-лецьце бел.друку,127). А будзець лі абвінен у такіх рэчах крывавых наш падданы іншага прысуду, а ня тога, гдзе торг будзець,весьці яго да тога ўрадніка нашага, у чым прысудзе ёсьць. Статут, б.482. Біскуп Цярлецкі жалаваў Вял.Князю, што праваслаўныя панове вымаюць сваіх папоў"з моцы й прысуду духоўнага".Археогр. сборник,Т.УІ,Но.124. Мяшчане былі пад прысудам майтборскага права. Даўгяла(Наш Край,1928,III,б.8).

"Прысуд і рассудак" разгледжаны ў маей кніжцы"Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія,у Ню Ерку 1953 г.,"прысуд на бачынах 54 а 67, а "рассудак" бб.56 а 66.

У перадапошнім радку таго-ж артыкулу, у проказі"Ен(часапіс) патрэбны, як хлеб галоднаму ў галадоў" адменена"галадоў" на "галадоўка."Галадоў" знача ня тое, што "голад"."Голад" знача "войстрае пачуцьцё патрэбы ежы, жаданьне есьці", а "галадоў"-галодны час, калі бальшыні людзёў данага краю не стаець ежы. Вы-ж адмянілі "галадоў" на рас."голодовка",каторае знача-1.галадаваньне.-2. адмова ад ежы на знак протэсту.Прыклады:галадоў-ові,ж.-галодное время. Нсл.б.117,Гсл. Другі год галадоў церпім.Нсл.

За адным заседам вылічу з большага чужыя словы й хормы ў Но. 160 "Беларуса".Абаронца,пол.,адно троху зьменена. Паблр.абароньнік. Аш. Ад гэнага часу,маск.,бо подле маск."от того времени".Паблр. адгэнуль. Не адказаваўся ад працы,маск.-не адмаўляўся. Акрамя,сымбіёз маск."кроме" й блр.""апрача". З кажных 100 кг. здабывецца 35,

астатнія гінуць. Мае быць засталыя. Астатні-пол.,або вузкое мясцовае і заўсёды знача "апошні", а тут 65 прац., дык якія ж яны апошнія? Замест "здабываецца" валей сказаць здабываюць. Бяспрэчна,крыху зьмененае пол.бэспрэчне. Пабл.бесьпярэчна. Гадавіна, маск., бо штучна зроблена подле маск.годовшина; мае быць угодкі. Горад-места,блр.горад=маск.крепость.Гарадзкі,маск.,бо ўжыта ў значаньню "месцкі". Дваццацігодзьдзе,маск.,бо зроблена подле маск.двадцатилетие.Паблр.двацатыя ўгодкі. Танцавальны гурток-скакальны грудок. "Танцавальны"-маск.германізма, а "гурток" можа быць толькі жывёлы. Хлапцоўскі-хлапецкі або дзяцюцкі залежна ад веку. Дзяўчацкі-дзявоцкі(паходзе ад "дзеўка").Калі ад спакмменьніка творыцца прыметнік, дык толькі ад назоўнага склону адз.л. Пасьля хросту-хрысту (ад хрэст), як кроў-крыві. Таксама"хрышчоны","хрышчэнік." Даклад -рэфэрат, калі яго чытае рэфэрэнт і "чытань"(націск на ы),калі хто мае прынароднае чытаньне на якую тэму. Гэтта мушу даўжэй затрымацца. Есьць два поймы, значаньні, каторыя вымагаюць двух розных слоў. Адно зь іх ё, калі ўрадовая асоба здаець лічбу із свае дзеяльнасьці, тады ў нас ё словы"лічба","лічбызданьне"("справаздача" ё перароб на маскоўскі лал пол.справоздане,анг. account чэск. zprava ,пол.sprawozdanie,рас. отччёт.

А калі гэта адбываецца ў таварыстве, дык тады найчасьцей ужываюць"рэфэрат" у мовах славянскіх(чэск.,пол.,блр.),каторы чытае рэфэрент, у ванг.мове report рас.доклад.

Другое значаньне, калі ё прынароднае чытаньне на якую тэму. Тады ё анг. lecture ,чэск. prednaška пол. odczyt,укр.доповідь. Расійцы ўжывалі лац.лекция, але часьцей сваё "чтение"("чтения" такога а такога т-ва).Цяпер,адылі,і ў гэтым другім значаньню Расийцы найчасьцей ужываюць"доклад",хіба,затым,што ўсё, і чытані,сталі ўрадовыя. Таксама ў рас.праваслаўнай літургіі ужываюць"чтение".

Як можна бачыць, у мовах літаратурных словы гэтага значаньня штучна зробленыя, бо спачатна ў мовах народных ня было такога слова, бо ня было тады ў іх такога значаньня. А ў мове рас. да старога значаньня слова "чтание" прыдалі яшчэ значаньне "прынароднае (публічное) чытаньне на якую тэму."

У нас тым лягчэй было зрабіць такое слова ( на азначаньне "прынароднае чытаньне на якую тэму"),што ў мове нашай ё спакменьнікі на -ань конкрэтнага значаньня(копань, казань),паўсталыя ад абстрактных "капаньне","чытаньне":як ад капаньне-копань, ад казаньня(гутараньне і пад.)-казань, так ад чытаньня-чытань. Я гэта й зрабіў. "Чытань" мела б ужывацца таксама ў нашых цэрквах - у праваслаўнай замест рас.чтения,у каталіцкай замест лац.лекцыя.

На аднэй зборцы(была яна ў памяшчэньню БАЗЫ ля Норфольк вуліцы на дольнім Ню Ерку) Ант.Адамовіч пасуліў:"адгэтуль будзем ужываць "чытань." Усі з гэтым згадзіліся.

Неўзабаве,адылі,Адамовіч зазлаваўся на мяне, і тады пачаў пашыраць маск."даклад" у вабодвых значаньпях - замест "рэфэрат" і замест "чытань." Ен аддаў пяршынство сваім дачыненьням да мяне перад дабром народу свайго, у каторым я - малая макулінка.

У мове белр. ё слова "даклад".Гэта,як шыюць вопратку,адзежу, хусьце, тады каўнер, кішэні,гузікі завуць дакладамі, бо іх дакладаюць да часьці галоўнае.

Дарадчык,маск. сваім суфіксам -чык.Паблр. параднік,жонка парадніца.Ой,маці,маці,парадніца ў хаці.Зь песьні. Выкладчык ( на ўнiверсытэце)-выкладаньнік.Асобавыя спакменьнікі дзеяньня на -чык -асаблівасьць мовы маск. Дапамагаць,пол.-памагаць або падпамагаць. Дарослае жыцьцё-жыцьцё выраслых, зь ярусамі -зь пятрамі.Яскрава

 



пол.-зырка, беларускае дзякуй-беларускі дзякуй,бо дзякуй ён,м. роду. Ні воднага спкм. на -й няма н.р. дзіцячы сад-дзяцiны сад. Е й дзіцячы, але толькі ў значаньню анатомным а фізялёгічным; ужываньне "дзіцячы" ў іншым значаньню ё маск., бо як у маск.мове ё адно слова на гэтыя значаньпі, так, думаюць, ё і ў нас. Запрсіны - пазваньне.Спакм. на-іны азпачаюць штось, якую адправу("празднование") зьвязаную зь якім абрадам(хрэсьбіны,радзіны,заручыны,запоіны і інш.) "Запросіны" ё словам пол. і азначае якісь абрад, зьвязаны з нараджэньням дзіцяці. Заробкі,пол.-заработкі. Калі глядзіш на ейны(Ліды) слаўны замак, адразу згадваюцца нібы із срэбра адлітаваныя радкі зь Мешка,князь наваградзкі А.Міцкевіча. Нашто тут згадаваць, калі можна ўспомнець і ня трэба польск."нібы",калі ё сваё "бы". Ліда ў пяршынё згадваецца II80г.-мянуюць.Зелень,пол. і маск.-зяленіва.Зубр-зубра, як і шваґра, сябра,тыгра,майстра,Пётра,Аляксандра,Паўла. У словах із канцавым р або л із пярэднім сугукам або паўсамагукам дадана на канцы-а. Лідзкі замак зьяўляецца...сьветкам гэроічнае гісторыі Ліды. Замак ня жывы, каб мог у чым або на чым зьяўляцца, ён ё. Зья-віцца-ўляцца-рас.появиться-ляться.Прыкл.Чэрві жытныя ізноў зьявіліся па жыце. А "сьветка"-жан.роду. Жывапіс,маск.-малярства.(донскіх) казакаў-Казакоў. Усі спакм. на -ак маюць у мн.л. націск на канчатку-Казакоў,Палякоў,дзівакоў і інш. Няма ведама,чаму некаторыя тут зычаць націскаць на перадапошні склад у мн. л.? Ці не затым, што ўважаюць канцавы націск у мн. л. за "просты?" Знач.,побач із комплексам ніжшыні было б тут няпоўнае пац.сьведам'е.Катэґорычна-непатрэбная барбарызма. У нас ё сваё станаўко,прым.станаўкі,спкм.станаўкасьць.Кладовая,маск.Блр.стопка(або істопка),варыўня,камора. Засядзем у любы рэсторан-у які-хоця або ў які любя, тады адказавала б праўдзе: у вабы які, у які хочам.Блр."любы" ня знача "абы які." Медны,маск.-мядзяны.Меншасьцяў,пол.мяншыняў. Перад першаю сьветнаю вайною хтось подле пол."мнейшосьць,вепкшосьць" зрабіў"меншасьць, большасьць",ня ведаючы, што ў нас ё сваe мяншыня,бальшыня. Мінулае, маск.,бо ўжыта подле маск."прошедшее"(время).Блр.мінуласьць.Музыкант,маск.-музыка. Наглядаў такую сцэну. Нашто яе паглядаць? ці ня досыць назіраць? Сцена не ўцячэць, як арыштаваны з турмы. Госьці пачалі разьяжджацца на начлег -разьяжджацца дамоў на нач. На начлег едуць толькі пасьціць коні ночы. Недахоп,штучнае подле маск.недостаток.Блр.нястача. Есьць некалькі спосабаў,маск.-колькі.Палагодзіць украінізма-заладзіць.Памятаць-аю, пол.-памятаваць-тую. Памінкі (па нябожчыку)-дзяды. Насупроць цэнтральнага паштамту.Рас.-нямецкі"почтамт" знача "галоўпы паштовы ўрад места".Затым нашто нам "паштамт", ды яшчэ цэнтральны? Ці не валей і ня до сказаць галоўная пошта? Праблема патрабуе неадкладнага вырашэньня-вымагае безадвалочнага разьвязаньня. Патрабаваць адк. маск. нуждаться, а маск.трэбовать = блр. вымагаць. Адклад,адкладаць,неадкладны ё тады, як чамусь час азначаны; а калі азначапьне часу ня было, дык можа быць адвалока(адвалакаць). Павольны тэмп - памальны. Паварот(на бацькаўшчыну) -зьвярненьне. Артыкул передрукоўваем поўнасьцю,маск.Паблр.увесь,увесь чыста.Перапіс,крыху зьмененае маск.перепись-сьпісаньне. Пярэчаньне-перачэньне, бо неазначаньнік перачыць.Мікаляй Платонавіч Вакар, маск.Ніколі ў нас назоў па бацьку ня быў ветлым зьвярненьням, але быў назовам сына па бацьку, адлі стаў прозьвішчам. Плённы,пол.-плодны.Плён таксама пол.,адказуе нашаму жніво,урод і толькі ў значаньню пераносным плёны-плады. Прымусовы,пол.-прымусны, а валей неперанятае прысілены. З пункту гледжаньня,маск. і пол.,паблр. з гледзішча або з гляньва. А пункт -бодка.Прыкл.бодка-кі,ж.-точка. Шсл. На бязьмене ня відаць бодак.Шсл. Пам. бодачка.Шсл. Набрала са-

бе на андарак у бодачкі.Шсл. Рабочы,маск.-работнік.Распрацоўка, маск.,бо зроблена подле маск.разработка. Спакм.дзеяньня на -ка ё маск.рысаю. Мае быць распрацаваньне або разрабленьне, а зямлі вырабленьне. Рэчаіснасьць, літаральны пераклад із пол.жечзвістосьць. Паблр.запраўднасьць,ё й дойснасьць(запісана на Севершчыне), з каторага ўкраінск.дійсність. Ружовых рожаў."Рожа" мела б паказаць, што мае быць рожавы, а няма ружовы. Са сьцен-ізь сьцен. Замест з або зь ніколі ня можа быць са, але із,ізь, або, як у прыростку ў некаторых прылучаёх,-зы(зыйду). Сельскі - селавы.Шсл. Гэта ж селавыя коні ходзяць.Шсл. Сьвятар адслужыў быў паніхіду.Па блр.паніхвіда.Нсл.391.Панахвіду адпелі па нябожчыку.Там жа.Пам.панахвідка. Там жа.Ютраню,абедню,вячэрню,імшу,нешпар і пад. ня служаць,але правяць.Прыкл.Поп праве абедню.Сянно(Ксл.) Поп яшчэ праве службу ў царкве.Шсл. Няго ж ён не адправіў паніхвіды?Ксл. У мове блр. прамінулы час твораць ад хормы мін.часу дзеяслова быць і дзеепрыслоўя на -шы спраганага дзеяслова. Затым мае быць:Сьвятар быў адправіўшы панахвіду.Адслужыць літургію,стаіць гэта ў газэце побач із добрым адправіць(імшу)."Правіць" мае й іншыя значаньні. Спаборніцтва,жудасная выдумка з выходзішчам з рас.мовы. Няма ў нас ані "борбы",ані 'бароцца',дык як можа быць "спаборніцтва?" Е супарсоперник.Нсл.623. Із супарам сваім паміруюся.Тм.Зн.,будзе супарства ў значаньню рас.соперничество. Спадарычня -спадарычна ( з а на канцы), як і гаспадарычна,братанічна,сястрычна.Сродкі,пол.-сяродкі. Сталая дапамога -кажначасная памога. Сталаю бывае людзіна ў веку 4о-50 год,адк.маск.пожилой,пол.подэшлы,подстажалы.Прыкл. Зьбіраліся ўсе барадатыя,сталыя сяляне.Зарэцкі:Сьцежкі-дарожкі,68. Гэта кабыла ўжо сталая.Сяньскі п.(Ксл.) Апрача тога ё "сталы" ад "стацца" і адк.маск.ставшийся,состоявшийся.Прыкл.:эксцес падчас судоў трыбунальскіх сталы.Ліст 1620г. Старажытны, пол.старавечны. Стаўбцоўскі,штучная маскалізма ад штучнага "Столбцы". У нас Стаўпцы(назоў места),Стаўпецкі, таксама стоўп, а ня столб. Сьпявак, пол.пяюн.Б.С.Сьцьвярджаюць (абмыльна),што Ліда ўпяршыню згадваецца(мае быць:Ліду мянуюць) 1796г.,маск.,бо подле маск.утверждают, а паблр.цьвердзяць.Шырока -шырака,высока-высака,таксама глыбака. Чыстка,маск.-шышчэньне. Спакм.дзеяньня на -ка-асаблівасьць маскоўская. Тлумачыць,пол.-зьясьняць. Творца-пол. Пол.твурца,маск.творец,адк.блр.тварыцель.Прыкл. тварыцель-творец:Нсл.634.Тварыцелю мой, што я бачу! Там жа. Е шмат у мове блр.спакменьнікаў на -цель, іцель.Прыкл.:круцель,карміцель,пацяшыцель,Стварыцель,дарыцель (Аль кітаб 5 а 10),вучыцель,навучыцель(=маск.наставник,пол.мэнтор). Але яны не продукцыйныя. Затым рабіць новыя спакменьнікі на -іцель не выпадае, але ўжываць створаныя ўперад,вякамі,надабе. Вакол, такога слова няма, ё навокал; Ворная (зямля),пол.-аромая або робленая,урабляная. Закрытыя вочы.Чым? Мае быць зачыненыя.Ветлівы напсаванае подле маск.вежливый,блр.ветлы. Выйгрыш,маск.-выграньне. Высказаваньне,маск.-выказаваньне. У гонар - на чэсьць. Уласны, уласнасьць,пол.чахізмы зам.собскі,собскасьць. Упартае змаганьне зь нязьлічонымі ворагамі Краіны-упорыстае змаганьне (або:ходаньне) зь няшчысьлёнымі варагамі краю. Упарты,пол. і знача тое, што нашыя "упорлівы","упорны",маск.упрямый."Нязьлічоны",пол. а няшчысьлёнынаша слова; відаць гэта хоць бы з тога, што суседнія мовы яго гя знаюць(у маск.бесчисленный). Было калісь у нас і "чысло"(замест яго ё цяпер "лік"), а цяпер ё "чысьлена"-тры ніткі ў васнове(красён),што,разам із другімі 8-ма чысьленамі,зн.27-ма ніткамі,складаюць пасму.Нікіфоровский:Очерки Виц.Белорусии,157. Е й чысьленьнік-каляндар.Ксл. Паглядзі ў чысьленьнік.Ксл. Шматлічны,няўдалая калька(літаральны пераклад) з маск.многочисленный.Блр. чысьлены.

Прыкл.:Падпісьнікі,спачатку чысьленыя, памалу адходзілі. А.Цьвікевіч(Полымя,1927,Но.8,б.119). Усі мужчынскія спакменьнікі на -ора, -ола,-ера(вораг,горад,волас,волат,колас,молат,голас,холад,бераг, перад,верас і інш.-усі яны з т.зв:паўнагалосьсям) маюць у мн.л. націск на канчатку. Прыкл.Біўся з варагамі.Старадубск.п.(Косіч: Литвины-Беларусы Черниговск.гу.,б.41). Усе варагі твае хочуць, кабы ты з жонкаю разлучыўся.Шсл. З Ваўкавыск.пав. шмат прыкладаў такога націску падаець Фэдэроўскі:Люд Беларускі IУ(лікі паказуюць нумары прыказаў і пад.):Каб так нашы варагі здароўе мелі, як гэта праўда. 10185. Закажу й варагом сваім!10186. Мне на здароўе, а варагом на безгалоўе.9972.Лепш адзін прыяцель, як дзесяць варагоў.249. Краіна ня край, але адна вялікая мясцовасьць краю, як,прыкладам,лясінаадно лесавое дзерва. Затым у прыведзенай проказі мае быць краю, бо маецца наўвеце Беларусь, а ня часьць яе. Юбілейны год -угодкавы год.

Хормы.Дзякаваў гасьцям-госьцям. На грудзях-на грудзёх.Больш двухсот,маск.-больш за дзьвесьце, бо лічнікі 200,300,400,500,600, 700,асьмісот,дзевяцьсот у мове блр. не скланяюцца. Дырэктар школы гаварыла-уплыў расійскі. У нас дырэктарка або дырэктарыца, як дахтарыца, караліца.Льва-лява й Лява, таксама лявіца. Гэта тое самае, што лоб,лобу,лён-лёну а ня лбу,льну.Прываблівае,штучная хорма замест вабіць. У гэтым жа значаньню(надзіць) ё гэтае слова ў маск. і пол., але абмежанае да паляваньня, а ў нас словы з каранём"ваб" вельмі пашыраныя,як паказуе Гсл.Самае багатае: маск.-найбагатшае. Аднаго з самых старых,маск.-з найстаршых. Найвышшая ступень прыметнікаў пры помачы"самы" ё толькі маск. рысаю.Трохмесячны-трымесячны. З трымя (колькі разоў) - з трыма, як із чатырма,пяцьма, шасьцьма,сяма,асьма. З восемдзесяці двух,маск.-з асьмідзясят двух. У мове блр.лічнікі ад 50 да дзевяцьдзясят не скланяюцца. Чыстыя хормы блр. ё ўв Аль кітабе:восьмі(8),асьмідзясят, асьмісот. у запраўднасьці подле маск.в действительности; мае быць запраўды. Праз пару год ня будзе больш аднаго-двух,маск.-за пару год,бо маск. прыймя"через"(у значаньню часным) адк. блр.за.

Е яшчэ болей абмылаў і абмылак у Но.160 "Беларуса".

Скарачэньні літаратуры.

Гсл.-М.Гарэцкі:Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік,у Вільні,1921.
Ксл.-М.Касьпяровіч:Краёвы слоўнік Віцебшчыны.
Нсл.-Слоўнік Насовічаў.
Стт.-Статут Літоўскі 1588г.
Шсл.-М.Шатэрнік:Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны.

Іншыя Скарачэньні.адз.-адзіночны лік;адк.-адказуе; Аш.-Ашмянскі павет; блр.-беларускі;маск.-маскалізма, маскоўскі;мін.-мінулы час; мн.-множны лік; паблр.-пабеларуску;пам.-памяншальны; пол.-полёнізма,польскі; спакм.-спакменьнік(назоўнік); чэск.-чэскі.

Рэдакца просе выбачыць за тэхнічныя заганы гэтага нумару"Веды", асабліва гэта датыкаецца разгляду мовы І60 нумару"Беларуса". Разгляд гэты быў адбіты на матрыцах у 1970г. і адкладзены да часу друку без адбіцьця на матрыцах слоў лацінііцаю. Як у лістападзе 1972 друкавалі на міміоґрафе, то праз гэта былі забыўшыся. Затым цяпер гэтта дадаем гэныя словы тут як абмылы друку.

Абмылы друку ў разглядзе мовы Но.160 "Беларуса".

| Е | Мае быць | Бачына разгляду | Радок |
|---|---|---|---|
| срт. | арт. | 1 | 6 згары |
| пол. | pol.wyrok śmierci,česk.rozsudek smrti,ang.sentence of death | I | 15" |
| анґ. чэск. | ang.jurisdiction,česk.pravomoc,pol. jurysdykcja | 1 | 28 " |
| лад.пол. | лад.pol.sprawozdanie,ang.account | 2 | 19 " |
| справозданьне,анґ. чэск. пол. | česk. zprava, pol.sprawozdanie | 2 | 20 " |
| у анґ.мове | ang. report | 2 | 23" |
| Тады ё анґ.чэск.пол. | ang.lecture, č.prednaška,pol. wykład | | |
| "чтание" | чтение | 2 | 24 здолу |
| запрсіны | запросіны | 3 | 5 згары |
| касьць | косьць | 3 | 26 " |
| гя | ня | 4 | 7 здолу |
| прыказаў | прыказяў | 5 | 9 згары |
| pol. | ang.sentence p.wyrok,orzeczenie,č.soudni rozhodnuti | 1 | 14 " |

Выдавецкія навіны.

П.Рагач: Кароткі агляд гісторыі Беларусі да дапаўняльных школаў. Клевэлянд-Нью Ерк 1968, бач.90. Дадаткам да кніжкі ё 9 гісторычных мап і беларуска-анґельскі слоўнічак слоў, што паўтараюцца ў тэксце кніжкі. Выдала"Беларуская Школа". У тэксьце кніжкі шмат ілюстрацаў.

Галоўныя мамэнты ў гісторы Беларусі П.Рагача адцемлены добра. У іншым тэксьце заганы ё. Наагул жа можна згадзіцца з Г.П., рэцэнзэнтам гісторы Рагачовае ў лёндонскім часапісе Byelorussian Studies, t.2, No.1, што"Заслугі працы Рагачовае, адылі, далёка пераходзяць яе заганы, і яна ё правільным падыходам да галоўных рысаў гісторы Беларусі. Цана 3 дал. Выпісаваць у Pahonia, 524-28 St. Clarens Ave. Toronto, Ont. Canada.

Greatlitvanian(Byelorussian) CookBook другое пабольшанае выданьне, ўпарадкавала Марыя Станкевічыха. 1972. Цана 2 дал. Выпісаваць: 275 Genevieve Ave., Hawthorne, N.J.07506.

## ГРАМАТЫКА СЛОВЕНСКАЯ ЯНА УЖЭВІЧА I643г.+

Арыгінал гэтае граматыкі ё ў Парыжу, у вадзеле рукапісаў Нацанальнае кніжні пад Но. 3876. Другая рэдакца яе I645г. ё ў месцкай кніжні м.Арраса, на поўначы Францыі. Рэдакцы мала розьняцца. Граматыка ня была выдана.

Быцьцё яе было ведама ў навуковым сьвеце. Меж іншага, гэта й тое, што яна ё ў парыскай кніжні быў адцеміўшы вялікалітоўскі(беларускі) час."Полымя", у Менску I928г.,Но.2,б.232, а за ім ведамку праз граматыку Ужэвічаву падала "Веда" ў нумару I(28) I954г.,б.32.

Але ня была вызукана.

Апошняга часу ёю зацікавілася навука ўкраінская. Украінская акадэма у Кіеве у сваім яе выданьню I970г. памясьціла фотокопіі абедзьвіх рэдакцаў(рукапісаў) граматыкі,украінскі пераклад парыскага рукапісу яе лацінскага тэксту ( бо напісана яна палацінску), зроблены Е.Кудрыцкім, і паказьнік слоў а хормаў, таксама ягоны.

Паходжаньне Я. Ужэвіча паказана ў Album studiosorum universitatis Cracoviensis, t.4,Cracoviae (бач. I79-I80), у каторым запісаны прозьвішчы студэнтаў ад I608 да I642г. У гэтым сьпісаньню кажацца: " In 1637... hi sunt in Albumum Studiosorum inscripti...Die 28 Octobris...Joannes Petri Uzewicz,d.Vil. ( У I637...запісаны студэнтамі Унівэрсытэту гэткія:28-га кайстрычніка...Ян Пятронак Ужэвіч д(ецэзі)Віл(енскае)."

Відаць,скончыўшы Кракаўскі унівэрсытэт, Я.Ужэвіч падаўся да Сорбоны парыскае.

Білодід а Е.Кудрыцкі,апісуючы граматыку Я.Ужэвіча(бб. 7-25 украінскага яе выданьня), адцямляюць, што як тагачасным граматыстым жывых моў эўропскіх, у васобнасьці славянскіх, так і Ужэвічу лацінская граматыка была канечнаю схэмаю й выхадзішчам. Ня ўсі, адылі, зьявы жывых моў можна было ўклась- ці ў гэтую схэму. І Я. Ужэвіч быў прысілены адступаць ад схемы лацінскае граматыкі.

Менаваныя вызуканьнікі старающца знайсьці падобнасьці меж граматыкі Ужэвічавае й граматыкі царкоўна-славянскае М. Сматрыцкага а Л.Зызаня(Кукаля). Прызнаюць, адылі, што, апіраючыся адно на іх,"цэлы рад спосабаў Яна Ужэвіча ў выкладзе граматычнага й наагул моўнага матар'ялу нельга зьясьсьніць". Падобная"Граматыка словенская" Яна Ужэвіча да граматыкі словінскае Адама Багорыча I584г.,таксама напісанай палацінску. Абодва яны падаюць граматыкі жывых моў славянскіх, а ня мертвае царкоўна-славянскае ў яе захаваным стане. Украінскія вызуканьнікі добра прызнаюць, што граматыка Ужэвічава была на роўні філёлёгічнае веды эўропскага сьвету свайго часу. І няма дзіва,-дадам'- бо Я. Ужэвіч быў людзіною высака а шырака адукаванаю. Дарма што быў студэнтам тэолёгіі, ён маў прыгатову да вызуканьняў філёлёгічных, бо перад Сорбонаю быў скончыўшы кракаўскі ўнівэрсытэт, а, хіба, і болей ідзе студыяваў. Праз гэта можа сьветчыць знацьцё ім таксама мовы грэцкае а гэбрэйскае(адцямляе іх граматычныя хормы ў сваей граматыцы).

Прыступаючы да вызуканьня граматыкі Ужэвічавае, надабе прызнаць, што найважнейшым ё,якога народу мовы ў ей моўны

---

+ГРАМАТЫКА СЛОВЕНСКАЯ напісана през ІОАННА УЖЕВИЧА Словянина, Славной Академіи Парижской в теологіи студента,в Парижу I643.

матар'ял. Праз гэта ўкраінскія вызуканьнікі сказалі на бач. 24-ай свайго апісаньня памяткі. Падаўшы толькі некаторыя моўныя рысы граматыкі,дыкжэ тыя, што мелі за ўкраінскія, яны асьветчылі, што Я.Ужэвіч быў Украінцам, і граматыка ягоная ё граматыкаю мовы ўкраінскае. А Ўкраінская акадэма вед залічыла яе да"памятак ўкраінскае мовы I7 ст.".

Я ж думаю, што толькі разгледзеўшы ўвесь моўны матар'ял можна сказаць якая яна. Тады ж яшчэ ясьнейшым стане й нацанальнае паходжаньне аўтара"Граматыкі словенскае", хоць яно й цяпер досыць яснае.

Зацемлю перад разглядам моўных рысаў граматыкі Ужэвічавае, што артыкул гэты будзе адбіты на мімiографе з машынага пісьма. А ў машынцы ня толькі няма царкоўна-славянскае абэцады, але й няма юсаў,цьвярдога знаку й яць. Затым замест малога юса будзе я,замест вялікага -у.Калі па канцавым сугуку слова ня будзе ў вартыкуле ані цьвярдога, ані мяккога знаку, то гэта будзе значыць, што ў варыгінале там ё знак цьвярды. А калі і ў варыгінале ня будзе ніякага знаку, то в-та будзе адцемлена ў дужках. Замест літары яць будзе падчыркненае е. Лікі пастаўленыя ля прыводжаных слоў, паказуюць балонкі рукапісу граматыкі. а пастаўленая за лікам,паказуе, што слова ўзята з бачыны I-ае балонкі рукапісу парыскага; а б, пастаўленае тамжа, паказуе другую бачыну таго ж рукапісу. арI або ар2,пастаўленыя за лікам паказуюць I-ую або(2) другую бачыну араскага рукапісу.

Білодід а Кудрыцкі прызнаюць, што Ужэвіч напісаў граматыку мовы літаратурнае. Начай і не магло быць. I моўны матар'ял яе ўзяты звычайна з мовы літаратурнае, хоць дзе-ня-дзе браны ён і з мовы народнае. I гэта яны прызнаюць.

Кажная мова літаратурная мае нормы, што абавязуюць усюдых, незалежна ад рысаў мясцовага нарэчча,гавары. Ня надабе мяшаць такіх нормаў з асаблівасьцьмі супольнымі ўсім дзялектам данае мовы.

Матар'ялу недаволі. Затым толькі некаторыя нормы старалітаратурнае мовы вялікалітоўскае(беларускае) адбіліся ў граматыцы Я.Ужэвіча.

Давальны адменьнік адз.ліку -о,-ё асноваў спакменьнікаў мужчынскіх мае канчатак-у,-ю. Гэты канчатак ё і ў народнай мове вялікалітоўскай з выняткам мясцовасьцяў, што гранічаць з моваю польскаю,ідзе хорма на -ові,-еві,відаць, зьявілася пад уплывам польскім.

Мова ўкраінская мае х[illegible] на -ові,-еві ў гэтым адменьніку.

Хормы на -у,-ю: пану I2б [illegible] парадыгме), Ар.2,56а,67а, сыну 4б,Хрысту 4б,I4 ар2, [illegible] інш.,- разам 20 разоў.

Хорма на -ови-еви стрэлася трэйчы: богови I9ар2(побач"богу"), сынови I5 арI, царeви I4 ар 2.

Давальны мн.-о-ё асноваў канчаецца на -ом,-ём:паном I2б, 22ар2(абодва разы ў парадыгме),8б.Сюды ж у сямнанцатым стг. належыў і камень, у Ужэвіча стрэўся ў хорме "каменем" у парадыгме I5а і каменём 26 ар.I.Прыр.зь цяперашняе мовы камянём. Болей прылучаеў мужчынскіх -о-ё асноваў у дав.мн. ня стрэлася.

У мове ўкр. дав. мн. о-ё асноваў мае хорму на -ам,-ям (панам,читачам).

Родавы адз.л. жаноцк.і мужчынскіх-а(я) асноваў на -і (па зацьвярдзелых-ы):тройцы 4а,богородицы I5ар2,земли I6 арI,

вечери 77арI,працы 79 арI,тисячи 85ар2,86 ар I,лазни I6а(у парадыгме),-8 разоў. Болей прылучаёў а(я) асноваў у род. адз..ня стрэлася.

У мове ўкр. гэтыя асновы маюць хорму на -і з е(яць), знач. спачатную.

Назоўны-вінавальны мн.л. прыкметнікаў і займёнаў на ыі, -іі:небесныи 9а,30 арI(абодва разы ў парадыгме), 6б,святыи 4б,великии 70а, тыи 63а,оныи 36 ар2 (двойчы,наз. а він. ў парадыгме.)

У мове ўкр. прыкметнікі а займёны канчаюцца ў наз.-він. мн.л. на і з е (яць).

Хорма на ець у 3 ас. цяп. часу ў дзеясловаў із суфіксам -е-ў 2 ас. цяпер. часу. У народнай мове влл. гэтая хорма ё ў паўночным наречу і ў усходняй часьці дзялекту сярэдняга яна ё толькі пад націскам на -е асновы(нясе́ць, але чытае); у заходняй часьці дзялекту сярэдняга, у віленска-ашмянскай гавары і ў дзялекце паўднёва-заходнім заўёды ё голая аснова, без канчатку(нясе́,чытае).

У мове ўкр. гэтыя дзеясловы ня маюць канчатку -ть у 3яй ас.цяперашняга часу(нэсэ,пышэ).

Хормы на -еть: будеть 56 арI,Куеть 43 арI,пануеть 25(усі тыя прылучаі ў парадыгме), погледаеть 22б,26б,маеть 64б,83 ар2,чекаеть 58б і інш.,-усяго 32 разы.

Хорма 3 ас. без канчатку стрэлася два разы: куе або куеть 44ар2,буде 61б.

Хормы на -м усіх тэматычных дзеясловаў у I-ай ас. мн. ліку цяп. часу. У народнай мове влл. гэтая хорма ё ўсюды з выняткам паўднёва-заходняга дзялекту, у каторым хорма на -мо I ас. цяп.часу.

У мове укр. ё толькі хорма на -мо.

Хормы на -м: будем 56арI, варим 47ар2,куем 43арI(усі тры ў парадыгме),варим 48арI,куем 43ар2,поканяемся 71б.

Хормы на -мо: пануемо 25б,будемо 24а(абодва разы ў парадыгме).

Канчатак-мо I ас. мн. ліку атэматычных дзеясловаў: дамо 57а. Такая ж хорма ё і ў мове ўкр.

У стара-літаратурнай мове вялікалітоўскай правапіс быў этымолёґічны, ды залежны ад спалага правапісу мовы царкоўнаславянскае. Затым мяккі(сярэдне-язычны)дз(адзін гук) перадавалі ў ёй пераз д,а сярэдне-язычны "ц"-пераз т.Гэтак пішучы д,т перад я,е,е,и,і,ю,ь,перад каторымі былі сугукі мяккія, не маглі мяшаць сярэдне-язычных гукаў дз,ц із мяккімі д,т, бо гэтых у мове вялікалітоўскай няма. Таксама з прычыны этымолёґічнасьці правапісу не паказавалі на пісьме пераходу ненаціськеных о,э ў а, і е яць у я.

Толькі зь недагляду пішучага зьяўляліся сярэдне-язычныя дз,ц замест правапісных д,т , і а,я замест менаваных ненаціськеных самагукаў. Узглядам дз,ц сярэдне-язычных правапісныя абмылкі бывалі надзвычайна рэдка, бо правапіс іх быў вельмі просты, але што да аканьня на пісьме, то яно ў вадных лучае рэдка, у другіх часта а вельмі часта; залежыла ад навытаранасьці ў тагачасным правапісе пішучага. У граматыццы Ужэвічавай аканьне адбілася толькі ў гэтых шасьцёх словах: троха 67б, трошка 67б(абодва прыслоўі), сарбона 69б,чарнокни(ж)ник 39 арI,чарнокни(ж)ство 39арI. У вапошніх двух словах зыходжаньне з польскім"чарны" прылучайнае, абодва гэтыя словы-чыста вя-

лікалітоўскія. А прыметнік першае складовае часьці іх Я. Ужэвіч напісаў гэтак:черный 32арІ. Можна бачыць адбіцьцё пераходу ненацісьненага "о"(па "ц") ў "а" у палацоў 67б,злочинцов І2а26ар2, а ўжо напэўна ў вымове дзеяслова І-ае ас. цяп.часу озму як азьму(гл. ніжэй пад "Зь мяжыслоўнае фонэтыкі")

Але аканьне ў граматыцы Ужэвічавае таксама адбілася ў напісаньню е замест ненацісьненага я: месецы 5ар2,светиться ІЗарІ,светисе І4арІ,погледаеть 22б,26б,начиталсе 47б,сомилосе 47а,повесилсе 6Іб,светым 65б,месеца 67б,77ар2, двутисечный 85ар2,деве(т) 84ар2,,деве(т)десят 85ар2,десет 84 ар2 тритисечный 86арІ,-2І раз.Сюды ж належаць глежу 38б,тисечный 85ар2,паданыя менаванымі украінскімі вызуканьнікамі абмыльна як украінскія на б.25 іхнага апісаньня граматыкі. Бо ў мове ўкр.пераход я ў е накшага паходжаньня. У Ўкраінцаў гук я па мяккім сугуку перад мяккім і цьвярдым сугукам пераходзе ў"е"не пад націскам і пад націскам;прыкл.:сплеть,люблеть, взяв,тежко,мнекий(А.Шахматов:Украінска граматика,б.67).

Што ж да літаратурнае мовы влл. а таксама кніжнае мовы влл. Пскова а Разані, то ў іх адмена ненацісьненага я на"е" рыса правапісная. Аканьне пры этымолёгічным правапісе прычыняла, што, сьцерагучыся пісаць я замест ненацісьненага "е", пісалі"е" замест я ( з малога юса або я спачатнага) у хормах некантроляваных або цяжкіх да контроляваньня хормамі зь я націсьненым. Рыса гэтая зьявілася не пазьней І4 стг.

А йдзе Вялікаліцьвіны, пад уплывам някаючае чужое вымовы, як на паўднявым Палесьсю,стараліся не вымаўляць ненацісьненага е як я, там гэта рыса фонэтычная.

Як правапісная, так і фонэтычная рыса(як ідзе),"е" бывае як замест ненацісьненага малога юса, так і замест я спачатнага; але затым, што ў палажэньню цяжка контроляваным хормамі зь я націсьненым найчасьцей бывае малы юс, то замест яго найчасьцей і бывае "е".У Ужэвіча я не зацеміў спачатнага ненацісьненага я ў палажэньню цяжкім да контролі хормамі зь я націсьненым.

У Ужэвіча стрэлася кветки 47а(наз.мн.л. ). У"кветки"."яць"," із x ой. кв перад такім "яць" у вадных мовах славянскіх перайшоўшы ў цв, у другіх не перайшоўшы. Не перайшоўшы ў мове вялікалітоўскай на ўсім яе прасьцязе, зн., ня толькі ў Вялікалітве-Беларусі, але таксама ў Пскоўшчыне(Крымський:Говор 399) і ў зрусьфікаванай мове вялікалітоўскага плямені Вяцічаў(Тула,Разань,Варанеж). У заходнім нарэччу ўкр. перайшоўшы. Але як Украінцы(часьць іх) перайшлі ў сямнанцатым стг. з правага на левы бок Дняпра, яны там засьпелі паўднявую часьць вялікалітоўскага плямені Севяран і ад іх пераняслі словы"квет", "кветка" і іншыя гэтага караня. Адтуль гэтыя словы пасьлей перайшлі да літаратурнае мовы ўкраінскае(пр. Y. Serech:Problems in the Formation of Byelorussian,9). Праўдападобна ў І-ай палавіцы сямнанцатага стг. слова"кветка" ня было яшчэ ў усходнім нарэччу укр. і сусім пэўна, што ня мог яго ўзяць стуль Ужэвіч. седети30б,сежу 38б,седять 69б,80ар2 адказуюць укр.сидіти, сижу,сидять(=сыдіты і г.д.),гэтак і пераклаў іх Кудрыцкі на 60 б.свайго перакладу парыскага рукапісу(гости седять за столом- гості сидять за столом.) Тут маем другую старую асаблівасьць мовы вялікал., тую, у каторай яць перад складам із і

( седішь, седіть) не перайшло ў і.

І.Білодзід а Е.Кудрыцкі меж іншага кажуць у сваім апісаньню граматыкі Ужэвічавае, што"пераважаючае"е" замест е (яць) ё супольнаю рысаю моў влл.й укр.(24 бач."ўступнога артыку"лу"). Ані гэта немагчыма."е" замест яць - рыса праціўная ўкраінскай фонэтыцы.

На бачыне 6-ай араскага рукапісу у царкоўна-сл.назовах кірылічных літараў Ужэвіч назоў літары веди перадаець лацініцаю пераз viedi, а "мыслете",назоў літары "м" - пераз mysliete. З гэтага відаць, што ў яго яць,прынамся націсьненае, ё дыфтонгам. Я палічыў( з паказьніку слоў а хормаў) у граматыццы Ужэвічавай усі словы, у каторых спачатна было "яць", і знашоў,што "яць пад націскам ё 224 разы,"яць" не пад націскам шаснанцаць разоў; "яць" замест"е" пад націскам ё ў печ І6б, жолнеров 64б,66б,жолнерство 39ар2; "е" замест-яць ненацісьненага ІІ8 разоў і "е" замест яць націсьненага 74 разы.

"е" замест яць як націсьненага, так і ненацісьненага паказуе, што кажнае яць перайшло ў "е", што ё рысаю паўночнага нарэчча вялікалітоўскага. Яць пад націскам,а "е" замест яць у складох ненацісьненых паказуе, што толькі ў складох ненацісьненых яць перайшло ў "е", а ў складох націсьненых ё дыфтонг; гэтак заўсёды адбіваюцца дыфтонгі ў памятках із паўднявога нарэчча вялікалітоўскага і гэтак ё ў жывой мове на ладнай часьці гэтага прасьцягу цяперака. Што літара яць у Ужэвіча вымаўлялася як дыфтонг,паказуе й тое, што ўкраінскае "і" зь яць Ужэвіч перадаваў пераз"и"(слузи,дузи,черзи на 2І арІ).Вельмі малая колькасьць яць ненацісьненых,відавочна, ё малою астачаю традычнага напісаньня. I.Rozwadowski:Uwagi o dyftongach,ie uo w poludniowozachodnim narzeczu bialoruskim(Materiały i prace Komisji jezykowej Akad.Um.I,Krakow 1904,208-220; А.Шахматов:Исследование в области русской фонетики(РФВ,XXIX,1893,272-273); Dolobko: Der sekundaere v-Vorschlag im Russischen([illegible]) прызнаюць дыфтонгі вялікалітоўскія як ізь яць,так і з "е","о" за свайго ў Вялікалітве паходжаньня асабліва за тым, што яны выступаюць пад націскам, што згаджаецца з агульным характарам мовы вялікалітоўскае.

Прасьцяг паўднявога(званага таксама паўднёва-заходнім) нарэчча вялікалітоўскага зь яго дыфтонгамі пакрываецца з балцкім субстратам там, дыкжэ тых Балтаў, што ў вымове сваёй маюць дыфтонгі. У сяле Пагіры Дзятлаўскае вол.Слонімскага пав. захавалася мова балцкіх асяленцаў там. Развадоўскі сьцьвярджае, што дыфтонгі пагірскіх Балтаў - ідэнтычныя з дыфтонгамі вялікалітоўскімі, з тэй толькі розьніцаю, што,першае, у Вялікаліцьвіноў няма дваякага націску;(менаваная праца,б220). Затым можна быць пэўным, што вялікалітоўскія дыфтонгі, як і аканьне,прычышены моўным субстратам балцкім. Корэктыў у вадпэй і другой зьяве ўчыніў націск.

А што да ўкраінскага "і" з "е","о" ў нова-закрытых складох, дык яно разьвілося ня з дыфтонгаў, але із здоўжаньня гэтых самагукаў і заразом звужэньня іх. Значыцца,зьява ў сваёй аснове тая самая, што ў чэскім"ů" з "о"( stul, vul і пад.) і такім жа польскім, адно што далей працягненая.

Дыфтонгічная вымова"яць"націсьненага, а ненацісьненага як "е",

згаджаецца з тым, што Ужэвіч "зь Віленскае дзецэзі", зн., з прасьцягу нарэчча паўднёва-вялікалітоўскага. Каля чэцьверці прылучаёў з "е" замест "яць" пад націскам сьветча, што ў Ужэвіча дыфтонґічная вымова была да некаторае меры аслабянелая, што магло быць прычынена яго ладным прабываньням вонках роднага краю. А ня вылучана й тое, што ў сямнанцатым стг. была пачаўшыся монофтонґізаца дыфтонґаў на паўночным прасьцязе паўднявога нарэчча вялікалітоўскага.

Як довад украінскасьці граматыкі Ужэвічавае, мянаваныя ўкраінскія вызуканьнікі падалі хорму "всих". Гэта хорма, адылі, ё як у стара- і нова-літаратурнай мове вялікалітоўскай, так і ў мове народнай з вынятакам некаторых малых месцаў у Наваградчыне, ідзе ё "усех". Влл.хормы ўсіх,усім,усімі не фонэтычныя, яны паўсталі пад уплывам хормаў іх,маіх,тваіх,сваіх,чыіх.

Прылучаі в злотоглові, по обеди,вмести,паказаныя ўкраінскімі вызуканьнікамі на бач. 24 іхнага апісаньня граматыкі, а таксама (в )железиІ8 а,34арІ,(при в)желези 70а,34арІ могуць здавацца важнейшымі. Але такія ж хормы-звычайныя ў паўночным нарэччу влл. і ў усходняй часьці сярэдняга дзялекту паўднявога нарэчча влл. У іх"і" ненацісьненых канчаткаў прычынена дысымілячным яканьням. Як бачым із такіх займёнаў разгляданай граматыкі, як мойскі,свойскі,наскі ,пашыраных на менаваным кадзе прасьцязе,Ужэвіч браў зь яго некаторы матар'ял. Апрача тога(при,в)желези можа быць ад зборнага железьзе. "Яць" жа ў вадным толькі слове "веншую",замест "віншую", недаволі пераконуе, бо магло быць абмылаю рукі і пад некаторым уплывам польскага ж "венкший", што Ужэвіч таксама піша кірыліцаю. Маглі менаваныя прылучаі быць і ўкраінізмамі, але пэўнасьці няма. Калі ж бы менаваныя хормы й былі ўкраінізмамі, дык падаў іх Ужэвіч як морфолёґічныя. Болей пераконуючым ё "яць" у поклонемся І4ар2.

Але ўкраінская вымова"яць" як "і" ё сусім пэўная ў дав. адз.л. слузи,дузи,черзи(усі на 22арІ),хоць і іх падаў Ужэвіч як прыклад хормаў морфолёґічных.

Нельга згадзіцца, каб розкине ( з тытлам)5Іб чытаць розкішне, што было б з"розкошне" і адбівала б пераход этымолёґічнага"о" ў "і".Замест тытла украінскія вызуканьнікі паставілі "ш" у дужках-розки(ш)не. Ужэвіч пераклаў яго лацінскім прыслоўям multifarian , зн."розна,разнастайна",таксама Украінцы пераклалі яго ўкраінскім"різноманітно". Дык скуль тут "розкошне?" Валей было б уставіць "д",розкидне значыла б " у розныя бакі" або " з розных бакоў", што згаджалася б із значэньням.Пр. влл."араць у роськідку",зн., так, што з аднаго боку ськібы адкідаюць налева, з другога-направа.

Ужэвіч піша "ы" па сугуку цьвярдым.Прыкл.:небесный 9а,ясный 9А,старосты І0а(родавы адз.л.),паны І2б і іншыя, бяз вынятку.

Калі перад "ы" ё цьвярды сугук, дык спадзяемся, што перад "и" будзе мяккі. Апрача тога, відаць гэта з тога, што Ужэвіч па"і" ётаваным піша заўсёды"и": их 22а,65а,небесныи6б,9а,30арІ,(наз.мн.)святыи 4б(наз.мн.),стоить 69б,гоити 34б,60арІ,гоиш 34б,60арІ,клиити 33б,оныи 36ар2,тыи 63а,великии 70(усі тры наз.мн.) і іншыя,бяз вынятку "и" па мяккіх сугуках ё таксама ў менаваных украінізмах слузи,дузи,черзи.

Перад "й" а самагукам ё часта "і" зь дзьвюма бодкамі над ім(твойскій 21б,38 арІ); гэта правапісная рыса, што была застаўшыся ад царк.-слав. правапісу. Троху меней у тым жа палажэньню, што ё "і" зь дзьвюма бодкамі, ё "и"(великий І7б). Двойчы стрэлася "і" зь дзьвюма бодкамі перад сугукам:бродіти 5ІарІ,кніга 22арІ. Зь менаванага вывад: калі сугук спачатна мяккі стаіць перад"ы", то значыцца сугук зацьвярдзеў. Калі перад"и" стаіць сугук спачатна цьвярды, то "и" ё украінскім "и" сярэднім; вынятkі з гэтага будуць тады, як маем дачыненьне з ц.-славянізмамі або з традыцаю царк.-слав.правапісу.

Што датыкаецца да давыд 4а а пытель,26ар2, то першае ё ў кولькіх мовах славянскіх, а другое ё словам чэскім. Там жа херубимы4б-серафимиі4б а мученицы-мученици 4б ё ў малітве царк.-славянскаю мовою вялікалітоўскае рэдакцы. Малітва гэткая:Нехай будеть честь и слава Хрысту Ісусу Богу царю спасителю благодателю вседержителю душ нашых владыще которого хвалять и славять ангели архангели херубимы серафими Пророцы мученици и все сятыи на веки веков Аминь. У тэй жа малітве, напісанай там жа з тытламі ё мученицы. Мова гэтае малітвы можа быць прыкладам таго,якой была царкоўна-слав.мова ў Вялікалітве І6-І7 стг. Што ў ёй украінскага? У ёй серафими а мученици(...)-рысы вялікалітоўскія, апрача іншых у ёй рысаў влл.

Адцемлю, што схолястици 69а ё хормаю чэскаю, а тим часом (55 бач.укр.перакладу) абмылка друку, бо ё тым 62а.

Дний,людий і пад. з дньй,людьй і пад. звычайна сустракаюцца ў старшых памятках влл.,меж іншага падаець такія прыклады Хр.Станг із памятак полацкіх. Затым за тых днии 63а укр. апісаньнікі граматыкі Ужэвічавае абмыльна маюць за ўкраінізму.

Зацьвярдзела"р" вельмі моцна адбілася ў граматыцы Ужэвічавае на канцу слова і перад усімі самагукамі з вынятkам перад е з прычыны нябыцьця таго часу літары"э".Прыведу прыклады:звератами 68а,цесара 62,варачий 50арІ,варачая 50арІ,варачое 50арІ,варачи 67арІ,верачи 4Іа,звера 57а;гору-4Іа-укр.горю,говору 4Іа,кору,коруся 4Іа 67арІ,мору 4Іа,67арІ, меру 4Іа-укр.міряю,меру 22б,4Іа,67арІ,сваруся 4І,67арІ-укр.сварюся, твору 4Іа,67арІ-укр. творю,вару 40б,4Іа,67арІ-укр. варю,звару 4Іа,веру 4Іа 67арІ-укр.вірю,уверу 4Іа,67арІ; золотар 40 ар2,звер 5ар2, маляр 59а,цар 4а,20арІ; Хрыстос 24ар2, Хрыста 24ар2,Хрысту 4б,І4ар2,крычати 37а,63ар2,Парыжа 63а,82арІ, стрыгчи 64арІ,трынадцатый 84ар2.

Укр.апісаньнікі граматыкі Ужэвічавае асьветчылі, што "р" "дужа пашыранае ў вабодвых рукапісах",ё рысаю"супольнаю мовам беларускай і ўкраінскай"прамеж тога, у сваім перакладзе влл.слоў на -ру ў мову укр. яны, як бачым,ужылі хормаў украінскіх на -рю,-ря; гэтым самым давялі, што супольнасьці няма, і што ў Ужэвіча гэта рыса вылучна влл.паходзе з балцкага субстрату.(...).

У вадных дзялектах укр.р мяккое засталося мяккім дагэтуль, у другіх зацьвярдзеўшы толькі ў некаторым палажэньню, што, як прызнаюць,ё зьяваю новаю.

Таксама,напярэк асьветчаньням укр.апісаньнікам граматыкі Ужэвічавае, развой р л плюс звычайна слабыя еры,цьвярды й мяккі ў ры,лі,лы ё рысаю вылучна вялікалітоўскаю. Яна ё на ўсім этнічным прасьцягзе влл.,зн.,ня толькі ў Вялікалітве а

Пскоўшчыне, але таксама ў зрусьфікаванай мове плямені Вяцічаў(Разань,Тула,Арол,Варанеж).

Прымеж тога ўзглядам мовы ўкр. ведама, што там, ідзе яна застаўшыся,казаў на тый,на сваім карэньню,зн. ў заходнім нарэччу ўкр.,там ё"ірацальны самагук" перад "р""л", або самагукі"ы", "э" перад р,л(хрэбет,кэрві,кырныця -керныця. А тыя дзялекты ўкр.,што паўсталі на спачатным ґрунце влл.,маюць адзіночныя словы з ри,ли з гэтага грунту.

Словы з ры з "р" плюс ер:брыду 50ар2,5І арІ,брыну 40,62 2, дрыжу 39а 65ар2,християне 62б,слова паходзе ад "хрэст"(род адменьнік хрыста,дав.хрысту і г.д.), каторае з "хрьст"(=крыж), з чаго й хрысьцянін,хрысьціцца-класьці на сябе знак крыжа або быць хрышчаным."и" ў "христ'яне" пад уплывам ц.слав. напісаньня"Христос".хрыбта 59а,стрымя 27ар2.

грихов 20аІ ня мусіць быць украінізмаю.-ри- ў ім магло паўстаць,быць напісаным пад уплывам"р" і такіх слоў з -ры-, як "дрыжэць".Пр."арышт" з " арэшт" і( з адпалым"а") рыштант з арэштант,(таксама з адпалым"а") рыштаваць, ё "дрымота" з "драмота" і інш. Па л гэта ж зьява адбілася ў Ужэвіча ў клию 33б,клияти 33б,клиеня 33б(дзеяспакменьнік у родав.адменьніку, замест клею і г.д. Паказальна, што тут на'т-ле-пад націскам. У цяперашняй літаратурнай і народнай мове влл. такі пераход ё ў"блытаць" з "блутаць",каторае з "плутаць."

Цікавыя ў Ужэвіча наступныя хормы лічнікаў:осм 84ар2, осмсот 85ар2,осмсотный 85ар2,осмдесятый 85ар2(у вусіх 4-ох па "м" цьвярды ер).осмдесят 85ар2,осмнадцать 85ар2,осмнадцатый 85арІ.Прыр.осмдесят ( зь цьвярдым ерам па "м"). Полацак І5стг.(Станґ:Полацак 60) асьмнаццаць. Ржэўскі пав.(Гринкова: Тудавляне,323).

Канчатак-е із спачатнага -ьйе ў спакменьнікаў ніякага роду.

У грантцы Я.Ужэвіча да такіх спакменьнікаў блізу вылучна належаць дзеяспакменьнікі. Парадыґма іх гэткая ў вадз. л. на І4б а І5а: наз.збавене,род.збавеня,він.збавене,снадз.збавенем.Мясц. на -ю(паданы ў іншым месцу)обедованьню 70а.Іншыя прылучаі ў наз.адз.л.:коване 46а2,одкупене І5а,збавене 26ар2, малеване 26ар2,насмеване 26ар2,панаване 27б,поздоровене І5ар2, писане 29а,читане 29а,створене 60б,сумнене 6Іа(він.адменьнік). Тры прылучаі ў род.адм.адз.л.:нарожения 4ар2,веселя 59б,выхованя 6Іа. Зь нядзеяспакменьнікаў стрэліся толькі милосердіе І5а,здоровя( з цьвярдым ерам па "в") здоровя(абодва 79ар,у род.адм.)

Іншыя канчаткі ніякіх спакменьнікаў із спачатным-ьйе ня стрэліся ў Я.Ужэвіча.

Такі ж канчатак ё ў літаратурнай і ў народнай мове влл. Вымова ўсюдых -е бывае толькі пад націскам. Не пад націскам з прычыны аканьня вымаўляюць я, але пішацца ў стара- й новалітаратурнай мове-е(па зацьвярдзелых у стара-літар.мове пішацца таксама -е, але ў нова-літар.-а). Вынятак ё ў часьці паўднёва-заходняга дзялекту мовы влл.,ідзе па мяккіх ненацісьненых вымаўляюць-ё(стварэньнё);сталася гэта пад уплывам о-асноваў ніякага роду з націскам на канцу ў наз.адз.л.

У мове ўкр.спакменьнікі н.роду із спачатным-ьйе канчаюцца на -я, і толькі там ё канчатак-е,ідзе кажнае "я" па мяккіх сугуках перайшло ў "е",зн.,там канчатак -е пасьлейшы. У вы-

горскіх,букавінскіх і падольскіх гаворах мовы укр. захаваўся канчатак -я. У літаратурнай мове ўкр. ё таксама -я.

У мове влл. ё здоўжаньне сугукаў перад менаваным -е(жыцьцё). Пераход здоўжаных у няздоўжаныя сустракаецца толькі ў некаторых словах некаторых месцаў. Але ў стара-літаратурнай мове влл. здоўжаньня не адцямлялі на пісьме.

У заходнім нарэччу ўкр.мовы няма здоўжаньня сугукаў перад канчаткам менаваных спакменьнікаў. Але ў усходнім укр. нарэччу ё гэта здоўжаньне,відаць,пад уплывам мовы тых Вялікаліцьвіноў, каторых Украінцы засьпелі на сваім новым аселішчу. Таксама ё здоўжаньне ў укр.мове літаратурнай.

Укр. вызуканьнікі адцемілі, што ў Я.Ужэвіча, як і ў М. Смятрыцкага,"ё штучныя хормы дзеяспакменьнікаў на - ня, як гребеня 35а,еханя 38а"(б.2I-ая іх апісаньня граматыкі Ужэвічавае). Такую хорму Я.Ужэвіч назваў ґерундам. Веданьня гэтага можа памагчы зьясьненьню, як Я.Ужэвіч укладаў сваю граматыку. Менаваныя Ўкраінцы пераклалі гэты ґерунд дзеяспакменьнікам із дадаткам прыймені"для"-писаня-(для) писання(бачына 32 перакладу ўкраінскага).

З націску можна адцеміць прыпавесьць I6б,28ао2,написано лист 79ар2,самому 3IарI(дав.адз.л.)

Зь мяжыслоўнае фонэтыкі: взял от их 22а,знач. ня было паходзячага ад прыймён прыстаўнога(протэтычнага)"н" да займені 3-яе асобы+йь, дарма што Я.Ужэвіч усюдых у такіх прылучаёх пісаў "н". Гэта адна з тых асаблівасьцяў мовы влл.,каторымі яна розьніцца ад усіх моваў славянскіх.

Я.Ужэвіч піша:(дзеяслоў)"беру,адылі, у будучым часе звычайна твора хорму взму"( зь цьвярдым ерам па "в") і озму 40б. Вымова азьму,азяць-радкая мясцовая хорма ў мове влл. Прычыну адкіненьня"в" ў азьму"(гэтак вымаўляюць, з "а") зразумеем, калі зьвернем увагу, што ў мове влл. перад "а" этымолёґічным або зь ненацісьненага"о" ё прыстаўное(протэтычнае)"в" толькі па прымені "у" або "ў". Вымаўлялі вазьму ( з "а"),затым у некаторых месцах замелі"в" у ім за абмыльна прыстаўное і, як такое адкінулі,сталася озму(вымаўлялі азьму).Праўда, "в" ў "вазьму" і ё прыстаўным, але старшым,перад цьвярдым ерам). Ідзе кажуць азьму,азяць, там таксама кажуць,прыкладам,Аршава замест Варшава. Калі ў вымове Ужэвічавай было прыстаўное "в" перад "а" па прыймені "у" або "ў", дык пагатове мусіла быць у мове ягонай прыстаўное "в" перад о,у незалежна ад прыймені.

Вымова Ужэвічава вазьму,азьму ( з "а") ё сусім пэўным сьветчаньням праз аканьне ў мове ягонай.

ц. Па"ц" блізу вылучна стрэліся самагукі, што стаяць па сугуках зацьвярдзелых, паказуючы іх цьвярдую вымову."а" па "ц" стрэлася разоў 50-60,прыкл.:улица 7б,63б,вымовца IIа 2IарI,конца I7арI;"у"-I2 разоў:працу 66б,отцу 56а,I4арI,пляцу 59б і інш.;"о"-трэйчы: палацов 67б,злочинцов I2а,26ар2; на канцы слоў:кравец I3б,23ар2,купец I3б23ар-,месец 77ар2 і інш.-усяго I6 разоў,стрелець 57а,падany ў паказьніку слоў а хормаў-абмыла друку;у фотокопіі ё стрелец(із цьвярдым знакам )."ц" перад сугукамі:немецкий 49,понемецку 49;"ы" па ц: купцы 63а, 82арI,лекцыю 69а,месецы 5ар2,богородицы I5ар2,прароцы 4б,тройцы 4а,працы 79арI.

"я","ю" а "ь" па "ц" ня стрэліся.

"и" па "-"ў диспутация 63а,Франція 64а,(у) Франции 61а зьясьняецца тым, што так яны сустракаліся ў чужых мовах.

Праз мученици 4б адцемлена вышэй, што гэта царкоўна-славянізма.

Узглядам по улици 79а2,што ўкр.высуканьнікі адцемілі як украінізму, дык тут, першае,морфолёгічная хорма влл.; другое, "и" па "ц" можа быць адбіцьцём традычнае хормы цсл.Тройци 71б(дав.адме'ньнік) ё цсл. у малітве цсл. мовою.

Зн.,"ц" ў граматыццы Я. Ужэвіча зацьвярдзела ў кажным палажэньню, як і ё ў мове влл.

У мове ўкр."ц" засталося мяккім.

Шыпячыя ж,ш,ч. У наступных прылучаёх, замест традычнага "и",стрэлася "ы" па шыпячых:жывым 17ар1,пожычаю 58а,жычу 58а; нашый 19б,36ар1,нашых 4б,нашым 5б,прудшый 68а,глубший 18а, убраўшыся 62,Вашый 20а 31ар1,ушы 6б;очы 16б. Гэта й тое, што ня толькі па шыпячых ё заўсёды"а","у", але таксама заўсёды па канцавым шыпячым, замест традычнага"ь" стаіць цьвярды знак(мыш 29а,роскаш 29ар1,реч 14а,24ар2,29ар1,печ 29ар1, 41 ар1),заўсёды ў -еш,-іш 2-ое ас.цяп.часу дзеясловаў(адцемлю, што выешь 33б у паказьніку слоў а хормаў-абмыла друку, бо ў фотокопіі"выеш" із цьвярдым знакам.) Але з "ч" перад "я" ё адзін прылучай-з заречя 48б(з малым юсам). Прылучаі з "и" па шыпячых- а яны частыя ў граматыццы Ужэвічавай,- надабе аднесьці да традычнага правапісу. Падобна ё ў іншых памятках влл. У мове влл.шыпячыя зацьвярдзеўшы ў кажным палажэньню.

У мове ўкр. перад некаторымі сугукамі мякчыня шыпячых захаваўшыся(погpаниччя, заміжжя).

Злучэньні гы,хы,кы. У граматыццы Ужэвічавай заўсёды ё гі, хі,кі,ніводнага прылучаю з гы,хы,кы няма. Гэта згаджаецца з мовою влл., у каторай ё вымова толькі з "і" па г,х,к. У дагэтуль высуканых памятках влл. у вадных мясцовасьцях сьцьверджана "і" па г,х,к ужо ў дванацатым стг., у другіх - у 2-ой чэцьверці чатырнанцатага стг.

У мове ўкраінскай карпацкія гаворы дагэтуль маюць "ы" па г,х,к. У засталых гаворах заходняга нарэчча ўкр."ы" па г,х, к перайшло ў "і" па шаснанцатым стг., не раней, а мо' й пасьлей. І толькі там, ідзе быў уплыў мовы влл.,зн., у ўсходнім нарэччу ўкр., у тым ліку і ў Кіеўшчыне, пераход "ы" ў "і" стаўся шмат раней, і "і" з "ы" па г,х,к зьлілося з "і" старым у вадно сярэдняе"и". Сярэдняе "и" па г,х,к ё і ў літаратурнай мове ўкр.

"г" у словах перанятых. Затым, што ў мове влл. ё гук "г", вымаўляны як лацінскае h, дык і ў перанятых словах із чужых моў "г" заховуецца. Гэта маем і ў граматыццы Ужэвічавай у гісторію 66а,гішпанского 76ар1.

Да л эпэнтэтычнага. Я.Ужэвіч піша:"Ты зацеміш, што (дзеясловы),каторыя перад"л"(1-ае ас.цяп.часу) маюць сугук, трацяць "л" і дастаюць канчатак -ячы зь пярэднім(сугукам). Гэты вынятак тарнуецца таксама й да тварэньня ґерунда,прыкл.: ад люблю-хорма дзеяпрыметніка любячи, а ня люблячи а таксама ґерунд-любеня, а ня люблення".36а. Тут Я.Ужэвіч перасьцерагае перад ужываньням хормаў украінскіх.Е.Кудрыцкі у сваім паказьніку слоў а хормаў не падаў люблячи а люблення.

Такая ж рыса влл. ё ў здароўе( а не здоровля, як паўкраінску), што адцеміў Ужэвіч, пішучы здоровя(зь цьвярдым ерам па"в"),здоровя 79арІ(родавы адменьнік адз.л.)

Затым, што ўсі вылічаныя фонэтычныя рысы мовы Ужэвічавае вялікалітоўскія, то й рысы,супольныя ў мове влл. з мовою ўкр., у граматыцы Ужэвічавай праўдападабнюсенька вялікалітоўскія. Да іх належа зацьвярдзеньне вуснавых на канцу слова й перад сугукам. Прыкладам:сем 84ар2,осм 84ар2, семсот 85ар2,осмдесятый 85ар2(усі зь цьвярдым ерам па "м"). Зацьвярдзеўшы на канцы слова ў наз.адз.л.,вуснавы бывае цьвярдым і ў засталых адменьніках перад самагукам голуба 5ар2(род.адз.л.). Тут дзеяла аналёгія.

Сюды ж належа націск у лічніках-одинадцатый.84ар2.

Цяпер можна сказаць, што моўны матар'ял у граматыцы Я. Ужэвіча галоўна вялікалітоўскі, царкоўна-славянскі й польскі. Іншага мала і праз ьяго будзе сказана толькі пры разглядзе морфолёгіі. Таксама праз тэкст польскі, што стаіць асобна, будучы напісаны лацінцаю і толькі йдзе-ня-дзе кірыліцаю. Яшчэ болей асобным ё тэкст царкоўна-славянскі, бо сустракаецца толькі ў малітвах ды трошку ў морфолёгічных прыкладах. Агульна праз тэкст царкоўна-славянскі будзе адцемлена далавах гэтага разгляду.

Аўтар гэтага разгляду раўнаваў фонэтычныя рысы граматыкі Ужэвічавае ня толькі з фонэтычнымі асаблівасьцьмі мовы влл., але й з укр.,бо ў іх адна абэцада, ды быў да гэтага часткава прысілены вышменаванымі цьверджаньнямі Т.Білодіда а Е.Кудрыцкага ўзглядам нацанальнасьці аўтара й граматыкі ягонае.

З усёю пэўнасьцю можна цьвердзіць, што Я.Ужэвіч вялікаліцьвін(Беларус), бо ня толькі праз гэта сьветчa прозьвішча на -евіч, паходжаньне з гаспадарства й зямлі вялікалітоўскае (дзецэзі Віленскае), але таксама й тое, што мова Ужэвічава, каторая так моцна адбіўшыся ў фонэтыцы твору ягонага, а як пабачым ніжэй,таксама ў лексыцы, і ладне ў морфолёгіі а сынтаксе, ё мовою вялікалітоўскаю(беларускаю).

Тэорытычна можна ўважаць, што Вялікаліцьвін Ужэвіч мог напісаць граматыку якое любй мовы, у даным прылучаю аднае з моў славянскіх, але ў дойснасьці гэта было б мала праўдападобна. А калі зьвернем увагу, што ў граматыцы Ужэвічавай зьмешчана восьмі морфолёгічных нормаў стара-літаратурнае мовы влл., побач немалога ліку іншых граматычных асаблівасьцяў яе, то мусім прызнаць, што калі твор Ужэвічаў ё граматыкаю якое аднае мовы славянскае, то толькі вялікалітоўскае.

Імне здаецца, адылі, што Граматыка Словенская Ужэвічава ня ё граматыкаю вялікалітоўскаю, але прыраўнальнаю граматыкаю моў славянскіх. Праз гэта,адылі, можна будзе даць канчальны адказ толькі разгледзеўшы самую граматыку, прынамся яе морфолёгію.

Як званы мовы ў граматыцы Ужэвічавай. Адно тры прыметнікі Ужэвіч ужыў дзеля назову моў, з каторымі маў дачыненьні ў сваёй граматыцы.Імі ё:лацінская,славянская а царкоўна-славянская, каторую ён завець сьвятою мовою славянскаю(lingva sacra sclavonica ). У месцах жа сваe граматыкі,дакладна: у ваддзеле спражэньня, ідзе патрабаваў азначыць,якія Славяне ўжываюць тых або іншых хормаў,Ужэвіч ставіў назоў людзёў такое а такое мовы,каторых моўныя хормы прыводзіў. Тады ён напісаў

"Русіны,Палякі,Маравы,Богемы,Кроаты"(у арскім рукапісе"Далматы") ужываюць такое а такое хормы дзеяслоraў. Назоў"Славяне" паўтараецца ў тэксьце граматыкі Ужэвічавае,як ён паказуе,як Славяне перадаюць у сваіх мовах розныя хормы граматыкі лацінскае.

Як граматыка Ужэвічава"словенская", то ясна, што мова славянская-мова граматыкі ягонае. Мараўская а богемская-адна мова чэская. Два назовы краін чэскае зямлі змылілі Ужевіча, і ён прыняў адну мову за дзьве.

Я адзержуся троху на назове"руская"(мова), бо гэтага назову цяпер сусім у іншым значаньню ўжываюць,чымся яго ўжывалі за Вялікага Княства Літоўскага,пары Ужэвічавае.

Русьсю,Русамі спачатна былі вараскія(скандынаўскія) збройныя вяткі, што ад 9-га да палавіцы IIстг. прыходзілі да ўсходняе Эўропы."Русь"-назоў зборны,адзін "Русін",прыметнік"рускі".Запанаваўшы над украінскім племям Палянамі,Русы перадалі ім свой назоў(Паляне займалі прасьцяг трыкутніка, што меж Дняпра й дзьвюх прыток яго-Ірпеня й Росі). У канцу дзясятага стг.,старавечныя Вялікаліцьвіны масава прынялі хрысьціянства зь Кіева,сталіцы Кіеўскае Русі, болей тады яшчэ вараскае,чымся палянска-ўкраінскае. Адгэнуль хрысьціянская вера й царква ўсходняга абраду, сталі звацца ў Вялікалітве рускаю вераю,царквою,вернікі ле-Русінамі. З царквою прышла царкоўная літаратура;яе таксама звалі рускаю, як і мову яе, дарма што была яна макядонская. З мовы пісомае,кніжнае назоў"руская" перайшоў да мовы свае, як народнае, так і з часам літаратурнае. Гэтак звалі сваю мову самы Вялікаліцьвіны, а за імі і іншыя,праўда,ня ўсі,Маскоўцы, прыкладам,звалі яе"літоўскаю".

Г.Пашкевіч напісаў вялікаю кнігу даводзячы, што назоў "Русь", "Русін","рускі" тарнаваўся толькі да веры,вернікаў і часткава, да мовы іхнае, але не да народу, нацыі. Але толькі з тым можна згадзіцца, што званьне гэтымі тэрмінамі народу, нацыі складала малы працэнт іх тарнаваньня да цэркваў і вернікаў іхных. Сусім пэўна, што ў II-I3 стагодзьдзях Русьсю былі ўкр.Паляне менаванага трыкутніка і сам гэны трыкутнік. Стуль назоў "Русь" перайшоў на Украінцаў Падольля а Галіччыны. Праўда ізноў тая, што йдзе народ і вера, царква ягоная завуцца адным і тым самым назовам, то звычайна,прынамся народныя масы, разумеюць пад ім сваю веру. Гэтак было ў Жыдоў да апошняга часу, ды ня толькі ў Жыдоў.

Украінцы гаспадарства вялікалітоўскага,зн.Вялікага Княства Літоўскага, ня зваліся Русінамі з гланьва нацанальнага. І Б.Хмяльніцкі учыніў змову з царом маскоўскім I654г. не ад Русі, але "ад войска Запароскага". Украінцы зваліся тады Чаркасамі, ад назову м."Чаркасы",колёні каўкаскіх Чаркесаў. Не перасталі яны звацца Чаркасамі й пасьлей, як Польшч,адбіраючы I569г. ад нас Падляшша, паўднявую часьць Палесься і часьць Севершчыны, адабрала й землі ўкраінскія, да нашага гаспадарства належачыя. Затым не магло быць мяшаньня "русіноў" вялікалітоўскіх,вернікаў праваслаўнае або вуняцкае царквы, з Русінам-Украінцамі як народу.

Я.Ужэвіч пісаў Лацінам,зн.сьвету раманскаму,граматыку як падручнік мовы славянскае. Відаць гэта з тога, што ён не адноўчы зварачаецца да вучаніка або вучыцеля зварачаючы іх увагу на якую-лень асаблівасьць славянскіх моў. Дзеля свайго

падручніка ён скарыстаў із свайго знацьця трох моў-вялікалітоўскае,царкоўна-славянскае а польскае. Влл.мову Ужэвіч знаў як сваю родную,цсл. як мову свае царквы, пол.,відавочна,навучыўся ў Кракаве за сваіх студыяў там на ўнівэрсытэце. Апрача яшчэ троху мовы чэскае, іншых моў славянскіх, відаць, Ужэвіч ня знаў. У парыскім рукапісе на 44а мянуе Кроатаў, а ў араскім на I-ай бачыне балонкі 70 замест іх падаець Далматаў. У парыскім(там жа) адцямляе ў мове Кроатаў канчатак-и(пиши) I ас. цяперашняга часу абеснага ладу, а прымеж тога такога канчатку ў мове харвацкай ня было. Там жа, замест аднае чэскае мовы, падаець дзьве,мараўскую а богемскую, 4 разы ў спражэньню падаючы з абедзьвіх іх тыя самыя прыклады тых самых дзеясловаў. Адзін назоў"Морава" аднае з чэскіх краін змыліў яго. Калі так робе Ужэвіч із мовою чэскаю, што была літаратурнаю і мела літаратуру багатую, то што казаць праз знацьцё ім мовы ўкраінскае, што ня была літаратурнаю.+

Ужевіч пісаў граматыку мовы літаратурнае і браў да яе матар'ял із моў літаратурных,найболей зь вялікалітоўскае. А затым што стара-літаратурная(як і тагачасная народная) мова вялікалітоўская звалася "рускаю", то і ў граматыццы Ужэвічавай яна такою названа. Зн.,назоў"Русіны"(Rutheni ) ў граматыццы Ужэвічавай тарнуецца да Вялікаліцьвіноў, да іх мовы "рускае". А матар'ялу ўкраінскага так надзвычайна мала ў Ужэвіча, затым што ён толькі як выпятак узяты зь дзялекту народнага.

Чатыры разы тэрмін"Русіны" прыведзены ў парыскім рукапісе на 44а-44б, і тое самае паўторана з малюсенькаю розьніцаю на 70арI-70ар2. Першы раз падана хорма I-ае ас. цяперашняга часу абеснага ладу на -у(пишу);2-гі раз - хорма неазначаньніка на -ати,ути(писати,чути);трэйці раз-хорма дзеепрыслоўя цяп.часу на -аючы(читаючи). Гэтыя тры хормы чыста згаджаюцца з хормамі мовы вялікалітоўскае. Але праз час мінулы кажацца: "Мінулы час у Палякоў з Русінамі аднолковы: писалем. Некаторыя,адылі, Русіны крыху начай вымаўляюць: писавем ( зь ерам цьвярдым па "в"),писавем". Тут "в"-рыса супольная, влл. й укр.,, але канчатак -ем- толькі ўкраінскі, хіба, паўсталы пад уплывам польскім.

Стара-літаратурная мова вялікалітоўская была пашырыўшыся на ўсім прасьцягу Вялікага Княства Літоўскага,улучна зь яго землямі ўкраінскімі.(Гэта цьвердзяць і аўтары трох першых навуковых,паданых ка-дзе прац, як і іншыя,гэтта не менаваныя.

---

+ У сьвеце навуковым гэта агульна ведама. Дзеля тых,што гэтым зацікавіліся б,падам колькі назоваў літаратуры:Н.Дурново: Введение в историю руского языка.Ч.I.Источники, Brno 1924, бб.10а20; А.Жураўскі:Гісторыя беларускае літаратурнае мовы,т. I, У Менску 1967; St.Ptaszycki(Encyklopedia Polska, t.3,1915,b.349,350,357. В.Чапленко:Українська літературна мова(17 ст.-1917р.),бб.9-11, 15,16. Пачатак літаратурнае мовы ўкр. даў І.Катлярэўскі "Энэідаю 1798г.

у слабшым ступеню заходзіла яна й да Галіччыны, што была пад Польшчаю. Украінцы мелі яе за сваю і вымаўлялі пасвойму, пакольні гэта дазваляў яе правапіс. Сваю народную мову Украінцы звалі таксама рускаю( а народную мову вялікалітоўскую звалі яны літоўскай.)

Пры такіх умовах і калі Ужевіч мог адну мову чэскую прыняць за дзьве-за мараўскую а богемскую, дык пагатове мог прыняць дзьве хормы украінскія за вялікалітоўскія-за нарэчныя хормы мовы вялікалітоўскае, дарма што мова ўкраінская была апрычоная. Затым і супроці хормы ўкраінскае дзеяслова мінулага часу напісаў "Русіны". Украінскую хорму мінулага часу дзеяслова, разам із такою ж хормаю польскаю чэскаю, Ужэвіч увёў да свае славянскае граматыкі; а перад другою хормаю украінскаю-дзеепрыслоўям на -лячы(люблячы )а дзеяспакменьнікам на -леня(любленя) ад дзеясловаў з вуснавым сугукам перад "і", е асновы-перасьцярог. Чаму гэтак учыніў з аднэю й другою хормаю папрабую зьясьніць разглядаючы морфолёгію.

Я. Станкевіч.

(Далей будзе).

Зацемленыя абмылы друку

| Е | Мае быць | Бачына | Радок |
|---|---|---|---|
| т.4 Cracoviae | т.4, Cracoviae 1950 | 37 | 19 |
| бяз вынятку | бяз вынятку. | 42 | 2здолу |
| "христ'яне" | "христіяне" | 44 | 13 згары |
| обедованьню 70а | обедованю 70а | 44 | 21 здолу |
| з гланва | з глянва | 48 | 14" |

Апрача тога, на бач.39-ай у радку 14 згары па слове сярэдняга мае стаяць коска, а за ёю мае быць гэта: у сярэдняй часьці дзялекту сярэдняга

На бач.41-ай у радку 10-ым здолу па слове націску трэба дадаць гэта: і, другое, што ў Балтаў ё дыфтонгі як пад націскам, так і бяз націску.

На бач. 43-яй у 22-23 радкох згары, замест выдрукаванага, мае быць гэта: мученици( з "и" на канцы)-хормы цар.-славянскія, а херубимы, мученицы( з "ы" на канцы) хормы вялікалітоўскія, апрача іншых у ёй рысаў влл.

---

Часапісу да пазнаньня роднае мовы й гісторы патрабуюць усі Вялікаліцьвіны-Беларусы. А зьмест "Веды" наагул прыступны ўсім адукаваным, а ў ладнай меры й іншым.

Просім прысылаць нам адрысы тых, каторым пажадана пасылаць пробныя нумары "Веды". Як павялічыцца падпіска на "Веду", можна будзе павялічыць колькасьць экзэмпляроў кажнага нумару, і кошт кажнага экзэмпляру будзе меншы.

"Веда" будзе выходзіць кніжкамі найменей 48 бачын кажная. Кошт кажнае кніжкі будзе залежыць ад колькасьці яе бачын. Цяпер кошт кажных 16-ёх бачын 55 цэнтаў. Кошт гэтага нумару "Веды" 1 дал. 75 цэнтаў. Із Задзіночаных Гаспадарстваў Амэрыкі падпіску можна прысылаць і паштовымі значкамі па 8ц. Выпісуючы адзін экзэмпляр, просім дадаць 14 ц. на паштовае.

Выдавецтва й рэдакца.

Рэдактар: Проф. др. Я. Станкевіч.